ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛіМ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

26 лістапада 1993г | № 47 (3717) | Кошт 30 руб.



*Такім быў заключны акорд святочнай імпрэзы, якая адбылася 18 лістапада з надзвычай радаснай па цяперашнім часе нагоды — Тэатр-лабараторыя нацыянальнай драматургіі «ВОЛЬНАЯ СЦЭНА» пад кіраўніцтвам Валерыя Мазынскага займеў сваё памяшканне па вуліцы Крапоткіна, 44*

Фота В.СТРАЛКОЎСКАГА

## КРАІНА ЛЕСУ Ў ПАНАРАМЕ ГЕАПАЛІТЫКІ

**Андрэй КІШТЫМАЎ:** ***«У працэсе актывізацыі сусветнай геапалітыкі рашаючую ролю адыгрываюць тры геаграфічныя фактары: расшырэнне, тэрытарыяльная маналітнасць і свабода перамяшчэння. Беларусь у поўнай меры не валодае ніводным з гэтых фактараў. Адсутнасць геапалітычнай самадастатковасці немінуча ставіць пытанне аб магчымых партнёрах і саюзніках».***

СТАРОНКІ 5, 12

## УЛАДЗІСЛАЎ СТРЭМІНСКІ: ЖЫЦЦЁ І ТВОРЫ

**Яўген ШУНЕЙКА:** ***«Нарэшце, Стрэмінскі вяртаецца на радзіму. Ці прымем, зразумеем мы яго спадчыну? Яна можа і павінна стаць чарговым крокам да вызначэння беларусамі свайго месца ў свеце. Годнага і роўнага, а не правінцыйнага. І доказ таму, што беларускаму мастацтву наканавана дэманстраваць сваё наватарства, — лёс беларускага тэарэтыка і практыка авангарда Уладзіслава Стрэмінскага».***

СТАРОНКІ 10—11

## «МАГЧЫМА, Я БЫЎ ПЕРШЫМ БЕЛАРУСКІМ ДЫСІДЭНТАМ...»

**Янка ХАНЕНКА:** ***«Я грамадзянін Злучаных Штатаў. Але тое, што на эміграцыі я стаўся большым беларусам, чым быў ім дома — гэта факт. Усю беларускую працу мы робім тут не дзеля нейкай славы ці падзякі. Гэта наша разуменне, што мы мусім працаваць дзеля Беларусі. І мы робім усё, што можам, што ў нашых сілах...»***

СТАРОНКІ 14—15

Кола дзён

***Мінулы нумар «ЛіМа» замест пятніцы прыйшоў да чытачоў у аўторак. Тое, што сталася ўжо звыклым для калег з іншых выданняў, нарэшце прагучала трывожным званочкам і ў нашых рэдакцыйных калідорах. Упершыню за сваю шасцідзесяцігадовую гісторыю «ЛіМ» не выйшаў у тэрмін з-за адсутнасці паперы. Недзе згубіўся вагон, нехта своечасова не паруліўся — вось і атрымалася звычайная сенсацыя, усяго толькі яшчэ адзін, маленькі такі штрышок да вялікай карціны ўсеагульнага запусцення і занядбаласці.***

***У сувязі з папяровым голадам, які тым самым дамоклавым мячом завіс над газетчыкамі, — такая вось інфармацыя для роздуму. Калі кошт тоны «хлеба культуры» сягае аж пад два мільёны, колькі ж павінны каштаваць усялякія прысмакі, без якіх гэты хлеб не пракаўтнеш, а менавіта — думкі і пачуцці пішучай брацці?***

***Ваісціну, нішто не даецца так дорага і не цэніцца так танна, як наша з вамі жыццё...***

## ДЭМАРШ ТЫДНЯ

Старшыня Камітэта дзяржбяспекі Эдуард Шыркоўскі і міністр унутраных спраў Уладзімір Ягораў звярнуліся да кіраўнікоў дзяржавы з лістом, які не назавеш службовай запіскай. Цярпенне сілавых міністраў відавочна лопнула — пра гэта сведчыць нават сам факт публікацыі ліста ў вядучых газетах.

Э.Шыркоўскі і У.Ягораў рэзка крытыкуюць дзеянні ўрада ў галіне ваеннага будаўніцтва і дзяржаўнай бяспекі, абвінавачваюць дзяржсакратара Саўміна па барацьбе са злачыннасцю і нацыянальнай бяспецы Генадзя Данілава ў перавышэнні паўнамоцтваў, некампетэнтнасці, «спробах самасцвярджэння» і «стварэння бачнасці сваёй дзейнасці», а таксама прапануюць увогуле скасаваць гэты Дзяржсакратарыят як неканстытуцыйны.

Падкрэслім яшчэ раз, **хто** выступіў з падобнай заявай. Уплывовасць асоб, якія займаюць такія ключавыя пасады, нідзе ў свеце не падвяргаецца сумненню. Гэта вам не нейкія там «апазіцыянеры». Калі спадару Данілаву і на гэты раз удасца ўтрымацца на плыву — значыць, і сапраўды «прагніла нешта ў дацкім каралеўстве».

## ЦЭНЫ ТЫДНЯ

З панядзелка тое, што ў нас завецца малаком, маслам, смятанай, тварагом і г.д., падаражэла ў два-тры разы. Бутэльку малака можна цяпер купіць за 90 рублёў. Як для малака, дык танна, а як для таго, што на самай справе наліта ў бутэльку, дык, мусіць, і задорага.

Праўда, з першага снежня нам паабяцалі зноў падвысіць зарплату, яе мінімальны памер складзе 28 тысяч рублёў. Шалёныя грошы, а шчасця ўсё няма.

## ПРЫЗНАЧЭННЕ ТЫДНЯ

Прэзідыум Вярхоўнага Савета прызначыў Надзвычайным і Паўнамоцным паслом Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы Яўгена Вайтовіча. З 1988 года Я.Вайтовіч узначальваў Міністэрства культуры - спачатку БССР, а пасля Рэспублікі Беларусь. Ёсць досыць распаўсюджаная думка, што «гэта быў не самы кепскі міністр». Сапраўды, нямала зроблена добрага ў вызначальны для беларускай культуры час. Хочацца пажадаць Яўгену Канстанцінавічу плёну і на новай пасадзе, у новай якасці.

Лімаўскую аўдыторыю, вядома, хвалюе пытанне, хто ж будзе наступным гаспадаром міністэрскага кабінета на чацвёртым паверсе дома нумар 2 па вуліцы Савецкай? З пэўных крыніц сёе-тое вядома, але ж наш час такі зменлівы...

## КРЭДЫТ ТЫДНЯ

Савет дырэктароў Міжнароднага банка прыняў у Вашынгтоне рашэнне аб прадастаўленні Беларусі рэабілітацыйнага крэдыту ў памеры 120 мільёнаў долараў, з якіх 43 мільёны могуць быць скарыстаны для пакрыцця дэфіцыту плацёжнага балансу.

Гэта, вядома, прыемная навіна, хоць для нашай эканомікі, якая ўваходзіць у глыбокую кому, рэабілітацыя як сродак лячэння ўжо і яшчэ не падыходзіць. А таму па-ранейшаму востра стаіць праблема — каму і як давядзецца вяртаць тыя крэдыты. Відавочна таксама, што развітыя краіны свету ўсур'ёз не будуць дапамагаць дзяржаве, якая не толькі не робіць рашучых крокаў па рэфармаванні эканомікі, але і гатова развітацца з уласнай суверэннасцю.

## УЛАЗІНЫ ТЫДНЯ

Здараюцца, вядома, і прыемныя падзеі. Займеў, нарэшце, уласнае памяшканне Тэатр-лабараторыя нацыянальнай драматургіі «Вольная сцэна». Наваселле ладзілі па ўсіх правілах — пеўня на гару закідвалі, жыта рассыпалі, палена на парозе секлі, кашу елі, падарункі прымалі, песні спявалі... У добры шлях і, як кажуць, памагай Бог.

Цікава, што ў Мінску складваецца новы культурны асяродак. У раёне, раней вядомым хлебным і піўным заводамі, побач размясціліся адразу тры тэатры — Альтэрнатыўны, Маладзёжны і «Вольная сцэна».

## АДМЕТНАСЦЬ ТЫДНЯ

Восем прадстаўнікоў чатырох беларускіх вышэйшых навучальных устаноў сталі прафесарамі. Адметна тое, што прафесарскія атэстаты, якія ўручыў навукоўцам і педагогам намеснік Старшыні Саўміна Міхаіл Дзямчук, упершыню зацверджаны Беларускай вышэйшай атэстацыйнай камісіяй.

Прафесуру павіншаваў і прэм'ер Вячаслаў Кебіч — падняў, як відаць з фотахронікі, крыштальны бакал і звыкла запэўніў, што «ні холаду, ні голаду» ў нас не будзе.

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

«Месца Беларусі ў еўрапейскай свядомаснай інтэграцыі — быць праваднікам сучаснага мыслення на Усход. Быць для Расіі пярэдняй Еўропай — як для нас імкнецца быць Польшча. Браць і аддаваць далей, а не толькі браць, галосячы, што даюць не так і не тыя, каб ужо зусім абсурдна было — аддаваць. Гардыня калоніі нічым не лепшая за гардыню імперыі. І пакуль у вузейшых беларускіх ілбах выношваюцца ўсялякія «адбіранцкія» планы, што натуральна, беларуская дзяржава мусіць мець шырокі лоб. Прыярытэт правоў чалавека, грамадзянскае супольнасці, адкрытага грамадства — тое, што ў нас у крыві, тое, што мы можам несці на Усход, на Поўдзень, і на Поўнач, тое, што апраўдае нашае месца ў еўрапейскай інтэграцыі і дасць нашай краіне высокі статус у свеце».

*/Сяргей Дубавец. «Комплекс віны», «Свабода», N 13/*

Кола дзён

Парламент

# А ЖЫЦЦЁ АБМІНАЕ...

Паважанае спадарства, мы можам павіншаваць адзін аднаго з нагоды адной радаснай падзеі, што адбылася ў нашым парламенце, а, менавіта, стварэння ў ім новага дэпутацкага аб'яднання народнага руху Рэспублікі Беларусь. Як урачыста абвясціў з трыбуны сесіі дэпутат В. Чэпік, у яго ўвойдуць камуністычная і ветэранская фракцыі парламента. Новае аб'яднанне, па словах прамоўцы, карыстаецца шырокай падтрымкай грамадскасці рэспублікі, а менавіта — партыі камуністаў, саюза афіцэраў, «Славянского собора», вядомага «Полісься», пісьменніцкага аб'яднання марыністаў і баталістаў і іншых пракамуністычных суполак і арганізацый.

Так што, спадары, не ўсё ў нашым жыцці так змрочна і безвыходна — засвяціла, нарэшце, святло ў канцы тунеля. Ёсць каму зараз зрушыць з месца нашу дзяржаўную калымагу, па калодкі загразлую ў балоце эканамічнай разрухі. Бо далей ужо трываць нельга. Паглядзіце, што робіцца — у магазінах цана кілбасы наблізілася ўжо да ўзроўню мінімальнай месячнай зарплаты, а нашы бедалагі-пенсіянеры хутка забудуцца на смак масла і малака, на якія днямі былі ўстаноўлены, як гаворыць персанаж аднаго рэкламнага відэакліпа, ну проста смешныя цэны. Мой сусед, які збіраў грошы на радыёпрыёмнік і нагледзеўшы яго коштам у 46 тысяч рублёў, прыйшоў назаўтра ў магазін з грашыма і ледзь не страціў прытомнасць — на цэтліку, прымацаваным да той жа «Селены», стаяла ўжо лічба — 122 тысячы...

Адным словам, само жыццё прадыктавала рашэнне парламенцкіх камуністаў аб'яднацца па-новаму. Ды і гучыць унушальна — народны рух.

Хай даруе мне чытач гэтую іронію, але, пазіраючы з вышыні балкона для прэсы ў залу на пазяхаючых ад нуды, унураных у газеты некаторых дэпутатаў, цяжка ад яе ўтрымацца. Ды гэта, пагадзіцеся, яшчэ не самае моцнае пачуццё, якое выклікае няздольнасць парламента знайсці выйсце з крызісу, які перажывае краіна.

Дарэчы, слова «крызіс» і складальнікі парламенцкіх дакументаў, і прадстаўнікі ўрада, якія прысутнічаюць на сесіі, стараюцца не ўжываць. Вось і праект пастановы па дакладах С. Шушкевіча, В. Кебіча і С. Багданкевіча пачынаецца словамі: «Сацыяльна-эканамічная сітуацыя, якая існуе, з'яўляецца вынікам рада адмоўна ўплываючых знешніх фактараў...» У некаторых дэпутатаў /Г. Карпенка, М. Крыжаноўскі, У. Голубеў і інш./ гэта адразу выклікала заўвагі. Сапраўды, што гэта за безаблічная «сацыяльна-эканамічная сітуацыя» пры сапраўдным калапсе эканомікі, калі пад пагрозай поўнай астаноўкі апынуліся дзесяткі прадпрыемстваў па ўсёй рэспубліцы, катастрафічна не хапае паліва нават на камунальныя патрэбы, галапіруе інфляцыя і г. д.

Дарэчы, праект, пра які ідзе гаворка, — другі па ліку варыянт, распрацаваны па даручэнні ВС камісіяй В. Кузняцова /першага намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета/. Першы варыянт быў з самага пачатку забракаваны парламентам за павярхоўнасць, адсутнасць аналізу, няпэўнасць ацэнак і прапанаваных шляхоў выхаду з крызісу і вернуты камісіі на дапрацоўку. Але, як я ўпэўніўся, і перапрацаваны праект меў шматлікія хібы, не кажучы ўжо пра яго стылістычную неахайнасць, нават непісьменнасць асобных яго фармулёвак. Праект у новым выглядзе двойчы галасуецца і двойчы

# БЗВ: ДРУГІ З'ЕЗД

Ад самага ўтварэння Беларускага згуртавання вайскоўцаў і па сённяшні дзень стасункі БЗВ і ўрада — напружаныя. Можна прывесці безліч выпадкаў цкавання сяброў і прыхільнікаў Згуртавання з боку дзяржаўных структур. Дагэтуль не аднаўлены на службе звольнены з войска з абразліваю фармулёўкай старшыня БЗВ падпалкоўнік М.Статкевіч, афіцэр бездакорнай службы. Кожная акцыя, якую ладзіць альбо ў якой бярэ ўдзел Згуртаванне, абвяшчаецца ўладай супрацьзаконнай і правакацыйнай. На дзяржаўным узроўні распаўсюджваюцца брудныя плёткі пра БЗВ і ягоныя мэты. Прыкладам можа служыць зварот Саўміна да насельніцтва Беларусі ад 5 лістапада бягучага года. У ім ёсць спасылка на ўлётку з заклікам да зброі, да гвалтоўнага захопу ўлады і сцвярджаецца, што гэта ўлётка БЗВ. Але каб знайсці сапраўднага аўтара, дастаткова паставіць пытанне, хто мог бы мець выгоду з гэтай правакацыі, каму трэба прадставіць сяброў БЗВ экстрэмістамі? Адказ можа быць толькі адзін...

Вось у такіх умовах дзейнічае БЗВ, у такіх умовах праводзіла 20 лістапада Згуртаванне свой другі з'езд.

З'ездам прыняты шэраг дакументаў. Галоўны з іх — заява «Аб нашых мэтах». Асноўнымі статутна зацверджанымі мэтамі руху застаюцца абарона незалежнасці і дэмакратыі, патрыятычнае выхаванне грамадзян. «Незалежнасць для нас цесна звязана з бяспекай нашага народа. Гэта рэальны шанц застацца ўбаку ад крывавых разборак у суседніх краінах». Але паўстае пытанне: ці здольнае сёння беларускае войска абараніць Беларускую дзяржаву? На жаль, не. «Асноўнай прычынай гэтага БЗВ лічыць тое, што войска прасякнута ўплывам людзей, якія з'яўляюцца праціўнікамі нашай незалежнасці».

БЗВ выступае супраць спроб выканаўчай улады кантраляваць сродкі масавай інфармацыі і юрыдычныя органы. Сябры Згуртавання лічаць неад'емнай часткай правоў чалавека права на ўласную бяспеку. Таму яны і надалей будуць імкнуцца строга ў адпаведнасці з існуючым заканадаўствам дапамагаць праваахоўным органам у барацьбе са злачыннасцю.

Адным з найбольш эфектыўных сродкаў выхавання патрыятызму БЗВ лічыць ушанаванне памяці славутых змагароў за свабоду нашай краіны, незалежна ад таго, супраць якой агрэсіі — з захаду ці з усходу, з поўначы ці з поўдня — яны змагаліся і які тады быў грамадскі лад.

З'езд прыняў асобную заяву адносна зваротаў Саўміна Рэспублікі Беларусь ад 7 верасня і 5 лістапада. У ёй падкрэсліваецца, што «зваротам 5 лістапада найбольш артадаксальныя прадстаўнікі правячай наменклатуры хацелі стварыць крытычную сітуацыю для ўвядзення надзвычайнага становішча, забароны дэмакратычнай апазіцыі».

Яшчэ адзін дакумент з'езда датычыць старажытнай беларускай сталіцы Вільні і віленскай праблемы. У сувязі з усталяваннем беларуска-жамойцкай мяжы, гаворыцца ў ім, беларусы пазбаўляюцца магчымасці свабодна наведаць сваю гістарычную сталіцу. БЗВ звяртае ўвагу на тое, што «з пункту гледжання міжнароднага права відавочна, што са скасаваннем па яе патрабаванні «пакта Молатава—Рыбентропа» і іншых дамоў Жамойцкая Рэспубліка пазбаўляецца юрыдычнага права на Вільню і Віленскі край, атрыманых ёю па гэтых дамовах».

**В. БОГУШ**

Адгалоскі

# СЮРРЭАЛІЗМ У НАШЫМ ВЫКАНАННІ

Гэты ліст можна аднесці да ліку тых незапланаваных экспромтаў, якія ўзнікаюць насуперак жаданню: калі б і хацеў змаўчаць, дык не здолеў бы. Нагодай да яго з'явіліся чарговыя палемічныя нататкі У. Глушакова ў «Беларускай думцы». Праўда, матэрыял гэты мне здаецца больш прыдатным для пародыі, але паспрабую засяродзіцца на сур'ёзна-крытычнай ноце.

Пэўныя схільнасці У. Глушакова да насякомаманіі /у папярэдніх нумарах «БД» друкаваліся «Каларадзскія жучкі», а ў гэтым — «Тараканы... у магнітафоне»/ наводзяць на думку аб існаванні ў яго своеасаблівага комплексу, гэткага хваравітага стану свядомасці ў стылі Сальвадора Далі, з той толькі розніцай, што самім аўтарам ён не асэнсаваны. Да таго ж комплексы У. Глушакова носяць не столькі ўласна-псіхалагічны, колькі грамадска-сацыяльны характар. Фактычна мы маем перад сабою добры прыклад постсавецкага сюррэалізму і, бадай, у тыповым беларускім выкананні. Апошняе мяне трохі суцяшае, калі не сказаць — радуе, бо ў такім папулярным сёння жанры беларускамоўная традыцыя не вельмі багатая.

Чым жа адметны стыль У. Глушакова? Ды, магчыма, нічым, бо, як і класічны сюррэалізм, ён з'яўляецца прадуктам эпохі распаду, калі старыя каштоўнасці разваліліся, але не зніклі, і іхнія фрагменты разам з народжанымі элементамі ствараюць хаатычную карціну часу. Да таго ж, аскепкі старой сістэмы ў палітры аўтара яўна пераважаюць, і работы яго маюць выразны дэструктыўны характар. Дзеля справядлівасці можна адзначыць, што ён у адрозненне ад большасці посткамуністычных ідэолагаў мае пэўную прынцыповасць: як былы атэіст не вельмі любіць царкоўна-рэлігійны дух, хаця з усіх канфесій больш цярпліва ставіцца да праваслаўя. У астатнім гэта багаты сюррэалістычны набор звычайнага беларуса са звіхнутай у расейскі бок свядомасцю. Інтэрнацыяналізм і панславянізм супраць нацыяналізму і касмапалітызму, герой-Будзённы, удалец-Чапаеў і здраднік-Гарбачоў, разгул «галоснасці», «свабоды» і так званых «дэмакратаў», закормленыя ўскраіны /Малдова, Таджыкістан, Каўказ/ і гаротная матухна-Расея, пратухлы, але вельмі заразны Захад, разбэшчаная рок-музыка, маладзёжная распуста і г.д. Арганічна ўплятаецца ў агульнае палатно думка аб непатрэбнасці для беларусаў /таму што гэта незразумела!/ розных «Кафкаў, Джойсаў, Шагалаў» і аб перавазе перад імі нашага палескага сала.

Ёсць у аўтара каменьчыкі ў гарод расейскага прэзідэнта і беларускіх «прарокаў», словы ў абарону «інтэлігента» /відаць, толькі савецкага/ і ганьба падзенню чытацкай актыўнасці і шмат чаго яшчэ з той банальнай сумесі каму-

не набірае патрэбнай колькасці галасоў, каб быць прынятым нават за аснову. Спікер пачынае схіляцца да думкі, што пры такой сітуацыі мо лепей адкласці яго прыняцце на другі дзень, а зараз прыступіць да разгляду іншых пытанняў парадку дня. Гэта выклікае самую негатыўную рэакцыю шэрагу дэпутатаў. Гучаць галасы, што парламенту не даруюць прамаруджвання з прыняццем дакумента, які павінен вызначыць, як нам жыць далей, як выкараскваціа з ямы, у якой апынуліся. Дэпутат В. Ганчар, якому амаль заўсёды ўдаецца стрымліваць уласныя эмоцыі, на гэты раз нервова заяўляе, што калі сесія неадкладна не прыме пастановы па дакладах кіраўнікоў рэспублікі, ён адмаўляецца ўдзельнічаць у яе рабоце. Яго падтрымліваюць іншыя парламентарыі, якія прапануюць працягнуць абмеркаванне праекта пастановы. Нарэшце яго прымаюць за аснову з умовай дапоўніць прапановамі, прагучаўшымі з трыбуны сесіі...

Вось амаль і ўвесь плён яе двухтыднёвай працы. Не, даруйце, не ўвесь. Было прынята і некалькі законаў, сярод якіх, нарэшце, і Закон аб правах дзіцяці. Пытанне вельмі актуальнае і даўно набалелае. Нам, у «ЛіМе», давялося адчуць усю яго вастрыню ў час арганізаванай рэдакцыяй гаворкі за «круглым сталом» на тэму «Дзеці, грамадства, час», у якой прынялі ўдзел педагогі, медыкі, псіхолагі, юрысты, адказныя работнікі Міністэрства адукацыі і Вярхоўнага Савета.

А вяртаючыся да тэмы парламенцкага рэпартажу, дадам, што тым днём, 23 лістапада, у парламенце панавала штылёвае надвор'е, якое не маглі ўзварушыць ні рэгулярныя выхады да мікрафона тэмпераментнага Аляксандра Лукашэнкі, які з настойлівасцю, што паступова набывае маніякальны характар, патрабаваў адстаўкі С. Шушкевіча; ні дэпутацкае запытанне Зянона Пазняка, у якім ён абвінавадціў прэм'ера спадара Кебіча ў тым, што той нібыта на выпадак зняцця яго парламентам з пасады старшыні ўрада загадаў падцягнуць да Мінска вайсковыя злучэнні /версія, на маю думку, малаверагодная, хоць бы па той прычыне, што большасць дэпутатаў ВС — гарачыя прыхільнікі Вячаслава Францавіча, і ён гэта добра ведае/; ні дэзавуіраванне Анатолем Вярцінскім выступлення свайго калегі па сацыял-дэмакратычнай фракцыі М. Крыжаноўскага, які гаварыў не параіўшыся з яе членамі.

...А за вокнамі гаспадарыў пранізлівы марозны вецер, жыццё ішло сваёй чарадой, абмінаючы цёплую, залітую яркім святлом авальную залу парламента.

**М. ЗАМСКІ**

Падпіска-94

# ЧЫТАЮ «ЛіМ»

**Чытаю «ЛіМ»**
**заўжды ў суботу,**
**Адводжу на яго**
**цалюткі дзень —**
**Усе турботы і згрызоты,**
**Нібы рукою, адвядзе.**
**Вірыш у тлуме мілай мовы...**
**Які гаючы водар п'еш —**
**Гілевіча ці Танка словы,**
**Ці Панчанкі бліскучы верш,**
**Альбо расповяды Залоскі —**
**За Беларусь душа шчыміць,**
**І партакратам Марцін Коўзкі**
**Умее лоўка усмаліць...**
**Імёнаў многа — не дзесятак:**
**На таленты багат мой край...**
**Але як толькі выйдзеш з хаты,**
**Дык хоць ты вушы затыкай:**
**Чужое слова ў нашай новай**
**Дзяржаве, як — парайце —**
**жыць,**
**Як крот падточвае асновы,**
**І па-імперску ўсё бубніць.**

**Кастусь ТУРКО**

*г. Ляхавічы*



ністычных прымхаў, павярхоўных абывацельскіх разваг і проста «старэчага» бурчання. Ніякіх спроб прааналізаваць ці глыбей асэнсаваць рэчаіснасць, ні тым больш намеціць нейкую перспектыву будучых шляхоў. Голая, эмацыянальная, часта даволі трапная канстатацыя фактаў, прычым бачанне іх — як бы з мінулых часоў, з тых уяўных пунктаў гледжання, якіх сёння ўжо няма.

Адлаведна і «рэцэпты выратавання» бачацца простым паўтарэннем старых метадаў. Калі ёсць сярод нас «шкоднікі-жучкі» і «паршыўцы-тараканы», то іх трэба «труціць». «Дэзінсекцыі» ленінскага, сталінскага і брэжнеўскага тыпу агульнавядомыя. Дык, можа, У. Глушакоў прапаноўвае новую мадыфікацыю? Не, думаю, што ягоная фантазія не заходзіць далей публіцыстычных метафар, але аднойчы з'яўляецца слабы намёк на выйсце: аўтару здаецца, што пісьменнікі Астаф'еў, Распуцін ды іншыя расейскія аўтарытэты, носьбіты вялікай рускай культуры, змогуць паказаць нам сапраўдны шлях. Свет вялікі, усё можа быць, асабліва калі яны нарэшце разбяруцца са сваімі ўласнымі праблемамі. Але навошта тады было гарадзіць усю гэтую беларускамоўную басэтлю? Ці не лепш адразу перайсці на «единый и могучий» і не дурыць галаву людзям і сабе?

Мне здаецца, што гэтае пытанне адрасавана тым, хто сапраўды не можа ўявіць сябе роўным расейскаму пісьменніку, хто лічыць сябе ніжэй за «маскавіта», хто ўсім нутром пранікся духам савецка-расейскага правінцыялізму. Аднак гэта ўжо асабістая праблема /а мо й трагедыя?/, і не варта так выстаўляць яе на агульны агляд,а тым больш праецыраваць на ўвесь народ.

Драматызм і вымушаны «сюррэалізм» У. Глушакова ў пэўнай ступені адлюстроўвае становішча духоўна-інтэлектуальнага разброду часткі нашага грамадства, аднак актыўны вектар сучаснасці, здаецца, усталёўваецца ў больш творчым і канструктыўным, у нацыянальна-адраджэнскім кірунку. Час усхліпаў, енкаў ды шкадаванняў праходзіць. Настае пара канкрэтных спраў і дзеяў, сюррэалізм павінен саступіць месца новаму рэалізму.

І, нягледзячы ні на што, нататкі У. Глушакова ўсё ж выканалі сваю галоўную — палемічную — задачу...

**Васіль АЎРАМЕНКА**

*г. Магілёў*

Стэнаграма

# КУРС НА СТРАТУ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

***Мінулы і пачатак гэтага тыдня былі пазначаны гарачымі парламенцкімі дэбатамі пра шляхі выйсця з эканамічнага /дый палітычнага/ крызісу, у якім апынулася Беларусь. У гэтых дэбатах, як і раней, ярка выявіліся розныя, часам супрацьлеглыя погляды на сітуацыю, на праблемы нашага дзяржаўнага будаўніцтва. І, можа, самае прыкрае тое, што большасць дэпутацкага корпуса па-ранейшаму не ўвязвае пытанні эканамічнага выжывання з такімі асноватворнымі для любой краіны паняццямі, як суверэнітэт, незалежнасць.***

***Аднак гучалі з трыбуны сесіі і іншыя выступленні, у якіх самастойнасць Беларусі сцвярджалася і перадумовай яе дабрабыту, уладкаванасці ўсіх сфер грамадскага жыцця.***

***Друкуем меркаванні на гэты конт дэпутатаў Н. Гілевіча і З.Пазняка, якія прагучалі на сесіі Вярхоўнага Савета 17 і 18 лістапада.***

## Ніл ГІЛЕВІЧ:

— Нікога з прамоўцаў не папракнеш, што ён кіруецца не высокім грамадскім клопатам, не тым, што ўсім нам баліць, а нейкімі другараднымі ці прыватнымі інтарэсамі. Але дазвольце выказаць адно ўражанне, якое мяне вельмі засмучае, і, думаю, — не толькі мяне. Мнагавата ўсё-такі гаворыцца таго, што не дапамагае адказаць на пытанне: як, якімі шляхамі вывесці эканоміку краіны з глыбокага крызісу, як не дапусціць, каб здарылася самае горшае — каб абрабаваныя, ашуканыя, няшчасныя сумленныя людзі не пачалі паміраць ад холаду і голаду. Напрыклад, зашмат часу і пораху траціцца на асуджэнне «Віскулёў», падпісанага там пагаднення. Пры гэтым камень кідаюць чамусьці толькі ў агарод нашага старшыні Станіслава Станіслававіча Шушкевіча, як быццам мнагавопытны дзяржаўны муж Вячаслаў Францавіч Кебіч свайго подпісу пад белавежскім дакументам не паставіў. Шкада, што траціцца час і сілы на гэты неразважны суд, які адно культывуе ў настроях людзей непатрэбную настальгію па мінулым.

Ну давайце задумаемся на момант: што нам гэта сёння дае — гэта наша злосць на «Віскулі»? Які ў гэтым сэнс? Па-мойму, ніякага. Па-першае, тое пагадненне, калі б яно не было падпісана ў Беларусі, яно абавязкова было б падпісана недзе ў другім месцы. Бо для яго надышоў час. Па-другое, у ліку трох галоўных віноўнікаў, якіх яшчэ і дасюль шаржыруюць у некаторых газетах, т.Шушкевіча магло б не быць, гэта маглі б быць таварышы Ельцын, Краўчук і, скажам, Назарбаеў, а т.Шушкевіч «спасніўся» прыляцець. І што? Хіба ад гэтага нешта змянілася б? Беларусь падпісала б гэта пагадненне трошкі пазней — як гэта зрабілі ўсе астатнія рэспублікі Саюза. Патрэцяе, і гэта галоўнае, усім нам трэба глядзець на рэальны стан рэчаў. «Віскулі» — гэта ўжо гісторыя, якую назад не адкруціш. А перад намі — жывая рэчаіснасць. Хоць яна і не падабаецца нам — але яна ёсць такая, якая ёсць — а іменна: рэчаіснасць незалежнай Рэспублікі Беларусь.

Дарэчы, у вуснах многіх нашых грамадзян словы «суверэнітэт, незалежнасць» сталі словамі зняважліва-абразлівымі, гучаць як лаянка. Няшчасце на галаву звалілася — суверэнітэт! Жылі-жылі — і раптам: на табе — пракляцце божае! Суверэнітэт народу дастаўся! На вялікі жаль, гэты матыў праступае і ў некаторых прамовах тут. Пад любым прыкрыццём — але давайце пазбавімся суверэнітэту, бо ва ўсім вінаваты ён. Новая хвароба ў Беларусі, новая бяда-няшчасце — сіндром набытага суверэнітэту!

Сапраўды — дажыліся!

Тут была заява, што гэта пытанне хочуць абмяркоўваць адно дэпутаты з апазіцыі — члены БНФ ды Грамады. Я не належу ні да БНФ, ні да Грамады, ні да якой-небудзь іншай партыі. Не належу і не збіраюся належаць. Але я належу да народа, які тут жыў, жыве і будзе жыць, і які заслугоўвае іншай долі, чым тая, якую меў у стагоддзях, калі з яго воляй ніхто не лічыўся, да народа, які мае права, Богам данае права, быць і пачувацца гаспадаром на гэтай зямлі, на сваёй роднай зямлі — іншай у яго няма. І таму зразумець маю трывогу ў гэту хвіліну, думаю, няцяжка.

Нельга недаацэньваць момант, які мы зараз перажываем, — бо ён можа аказацца лёсавызначальным, ён можа стаць пачаткам канца — канца таго, да чаго мы так доўга ішлі, — нашага суверэнітэту, нашай незалежнасці. І што ж прымушае многіх з нас, сыны і дочкі Беларусі, так легкадумна ставіцца да лёсу сваёй Бацькаўшчыны. Аналітычныя разборы сітуацыі — не рытарычныя пытанні, што тут прагучалі, — а аналітычныя разборы, зробленыя людзьмі, дасведчанымі ў эканоміцы, у фінансава-грашовых справах, пацвярджаюць, што сама па сабе ратыфікацыя гэтага пагаднення нам нічога не дасць — ніякіх канкрэтных эканамічных выгод. Што нам замінае гандляваць з Расіяй, з іншымі краінамі, супрацоўнічаць, устанаўліваць і развіваць эканамічныя сувязі? Нішто не замінае. Калі ласка! Давайце дамаўляцца — і аб рэсурсах, і аб цэнах, і аб мытні, і аб усім іншым. Я не веру, што няма іншага выйсця, апрача як ратыфікаваць сёння ж гэтае пагадненне. На што нам гэта аб'яднанне грашовых сістэм? І не трэба галасаваць за яго. Не трэба. Устрымайцеся сёння, шаноўныя дэпутаты. Калі мы толькі ступім на гэты шлях, час пакажа і пераканае, што гэта шлях да здрады нацыянальных інтарэсаў, да страты эканамічнай суверэннасці і дзяржаўнай незалежнасці.

І што ж гэта, скажыце, за доля такая, што мы самі, самі паступаемся здабытым правам? Усе людзі ў свеце ва ўсіх краінах радуюцца здабытаму праву самастойна вырашаць свой лёс, ганарацца гэтым правам, змагаюцца за ўмацаванне суверэнітэту. А мы? А мы, як апошнія недарэкі, хочам бяздумна пазбавіцца суверэннасці, хочам добраахвотна стаць дамініёнам магутнай суседняй дзяржавы! І гэта тады, калі ўвесь свет прызнаў Рэспубліку Беларусь як незалежную дзяржаву! Я пакідаю трыбуну з надзеяй, што ў вашых сэрцах у гэты момант пераможа пачуццё клопату за лёс Беларусі і пачуццё нацыянальнай годнасці.

## Зянон ПАЗНЯК:

— Я хацеў бы таксама засяродзіць на гэтым вашую ўвагу. Сапраўды, ідэя СНД узнікла тады, калі ва ўрад Расіі прыйшлі эканамісты чыкагскай школы, якія цудоўна разумелі, што палітычнымі метадамі ўтрымаць гэтую бочку — Савецкі Саюз — ужо немагчыма. Яна ўзарвецца. І ўзарвалася б вельмі крывава. І таму быў прапанаваны другі метад. Метад СНД. Тут было заўважана, што як толькі былі ратыфікаваны віскулёўскія пагадненні па СНД, адразу ж праз месяц пачалася лібералізацыя цэн. Я прашу вас заўважыць, як дзейнічаў наш урад і як фактычна пад яго дыктоўку вымушана была дзейнічаць большасць Вярхоўнага Савета. Фактычна, калі зрабіць аналіз, зрэз гэтых гадоў, то атрымліваецца, што палітыка большасці нашага Вярхоўнага Савета і ўрада ішла сінхронна з палітыкай адлаведных колаў Расіі.

Вазьміце падаткавую сістэму, пра якую ішла гаворка. Катэгарычна былі не ўспрыняты тыя прапановы, якія выказваліся апазіцыяй і іншымі дэпутатамі. Аб узроўні нашых падаткаў, напрыклад, якія большыя, чым у суседзяў. Ясна, куды пайшоў капітал. Ён пайшоў у тыя краіны раблёвай зоны, дзе падаткі меншыя. У асноўным у Расію.

Што датычыць лібералізацыі цэн у 1992 годзе. Катэгарычна не ўспрымаліся тут ніякія думкі аб уводзе ўласнай валюты, а менавіта ў 1992 годзе, тады, калі ў нас яшчэ былі добрыя стартавыя магчымасці, гэта трэба было зрабіць. Тады, вы помніце, эканамісты рабілі аналіз і паказвалі, што ў найбольш выгадных умовах па ўвядзенні нацыянальнай валюты знаходзіцца якраз Беларусь. Калі б тады мы прыступілі да ўвядзення сваёй уласнай валюты, як у той час пачала рыхтавацца Эстонія, мы б не мелі тых праблем, якія маем зараз.

Цяпер паглядзіце, што адбывалася. Расія валодае стратэгічнымі запасамі нафты, энергарэсурсамі, значыць, яна можа дыктаваць цэны. Гэта зразумела, таму што мы залежныя ад яе рэсурсаў. Яна ўводзіць на сваю нафту адну цану, унутраную, і другую цану, знешнюю. І вось на гэтых, як кажуць, вагах энергарэсурсаў і розных цэнах была пастаўлена на калені Украіна.

Узяліся за Беларусь. Паглядзіце, як паслядоўна. Наш урад увесь час гаварыў, што Беларусь залежыць толькі ад энергарэсурсаў Расіі. Яны не хацелі ісці ні на якія пагадненні з іншымі краінамі аб энергарэсурсах /тое, што прапаноўвала Літва па тэрмінале ў Клайпедзе, той жа самы балтыйска-чарнаморскі калектар, прапановы па тэрмінале ў Вентспілсе/.

Злучаныя Штаты Амерыкі маюць 28 пастаўшчыкоў нафты, бо ў законе сказана, што нельга, каб адзін пастаўшчык даваў нафты больш за 30 працэнтаў. Гэта зразумела чаму. У нас жа ўрад намёртва прывязваецца да расійскіх пастаўшчыкоў, да расійскай нафты. Адсюль вынікае, што Расія можа дыктаваць свае цэны, сваю палітыку.

Глядзіце, як развіваюцца падзеі далей. Узнікае прапанова пра «калектыўную бяспеку», ставіцца пытанне пра эканамічны саюз і, нарэшце, пытанне аб аб'яднанні грашовых сістэм. Гэтым фактычна знойдзена форма ліквідацыі незалежнасці Беларусі.

Давайце паглядзім, што ж за сілы кіруюць у Расіі. Распаўсюджаная думка — дэмакраты і камуністы. Але давайце глянем на гэту сітуацыю глыбей. Калі справа ідзе пра Эстонію, Латвію ці іншыя балтыйскія краіны — так. Сапраўды, туды прыйшлі ва ўрад новыя людзі, не наменклатура. З другога боку, засталіся старыя людзі, старыя структуры, якія былі адхілены ад улады. Што ж адбылося ў Расіі? Адбыўся падзел па

*(Працяг на стар. 4)*

Сярод кніг

## ДАВЕДНІК ПА СТАРАДРУКАХ

Расійская Нацыянальная бібліятэка ў Санкт-Пецярбурзе /раней — Дзяржаўная Публічная імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына/ выпусціла апошнюю /трэцюю/ частку апісання свайго збору беларускіх кірылічных стадрукаў. З 1654 да 1692 года, як вядома, быў перапынак у дзейнасці друкарняў Вялікага княства Літоўскага: кірылічныя кнігі альбо зусім не выходзілі, альбо не захаваліся. Каталог ахоплівае перыяд з 1693 па 1800 год. Улічаны 160 выданняў, якія надрукаваны ў Гародні, Вільні, Магілёве і Супраслі. 12 выданняў былі раней не ўлічаны ў бібліяграфічных матэрыялах, пяць з іх ёсць толькі у РНБ. Такім чынам, можна ўнесці дадаткі і ўдакладненні ў зводны каталог «Кніга Беларусі» /Мн., 1986/, які выдала Нацыянальная бібліятэка Беларусі.

Адметнасць каталога ў тым, што апісаны не толькі выданні, але і ўсе наяўныя асобнікі кожнага выдання: адзначаюцца гравюры, застаўкі і іншая аздоба, прыводзяцца запісы ўладальнікаў — непаўторная крыніца да гісторыі пабытавання кнігі. У каталог уключаны ўсе выданні са збору рэдкіх кніг РНБ з выхаднымі звесткамі беларускіх друкарняў на тытульным аркушы альбо ў пасляслоўі.

Аднак вельмі часта ў стараабрадчых выданнях канца XVIII стагоддзя гэтыя звесткі зусім не адпавядаюць сапраўднаму месцу і часу друкавання кнігі. Шмат кніг з месцам выхаду Вільня, Супрасль, Гародня, Куцейна і паказаннем часу выхаду XVIII ст. былі надрукаваны ў Ясах, Клінцах, Янаве ў XIX стагоддзі.

Паколькі гэтыя выданні традыцыйна ўлічваюцца як беларускія кнігадрукі XVIII стагоддзя, яны ўвайшлі ў каталог. Але ад гісторыка беларускай культуры, прынамсі, кніжнай культуры, яны патрабуюць уважлівых адносін і правільнага тлумачэння.

На заканчэнне трэба адзначыць, што выданне мае пяць дапаможных паказальнікаў — гэта робіць работу з ім прыемнай, хуткай і прадуктыўнай. Каталог змогуць выкарыстаць кнігазнаўцы, гісторыкі, філолагі, якія звяртаюцца да старадрукаванай кнігі, ён прыдасца пры апісанні калекцыі беларускіх кірылічных выданняў у бібліятэках і музеях.

Склала каталог член СПб асацыяцыі беларусістаў, кандыдат філалагічных навук Тамара Афанасьева.

**Мікола НІКАЛАЕЎ**

*г. Санкт-Пецярбург*

# БАГРЫМАВА СВЯТА

Не радавала той суботаю — 13 лістапада — надвор'е. За некалькі дзён да яе нечакана-негадана падзьмулі халодныя вятры, прынеслі рэдкія ў гэты час моцныя маразы. І тут, на Берасцейшчыне рэзка пахаладала. У Крашыне мароз трывалым панцырам пакрыў Шчару. Такім надвор'ем, калі пільнай патрэбы няма, лепш пасядзець дома...

Ды як тут уседзіш, калі афішы запрашаюць на Рэспубліканскае свята паэзіі і музыкі з нагоды дня нараджэння паэта-земляка — Паўлюка Багрыма і падвядзенне вынікаў конкурсу аднаго твора «Заграй, заграй, хлопча малы...»? Зрэшты, крашынцы і без афіш ведалі пра гэтае мерапрыемства. Сёлета Багрымаўскае свята прыходзіць сюды другі раз. Першы раз яно прайшло 28 жніўня, і тады ж удзельнікі яго і госці, усе прысутныя пачулі запрашэнне: спадарочкі, даражэнькія, не забывайце — восенню збяромся яшчэ раз.

А неўзабаве завітаў з Гомеля ў Крашын Мікола Макарцоў. Хоць і «часова» прапісаўся ў вёсцы, але з удзельнікамі мастацкай самадзейнасці, з кіраўніцтвам мясцовага калгаса «Перамога» хутка агульную мову знайшоў. Усё яму ішлі насустрач. Як жа інакш! Рыхтавалася ж масавае відовішча, у якім усё павінна быць падначалена аднаму: вярнуць народу тое, што ім самім забылася, згубілася ў тлуме часу — любоў да фальклору, песні, танцаў. А паколькі свята ладзілася ў Крашыне, слаўным кавальскімі традыцыямі, дык падумаў М. Макарцоў і аб тым, каб госці і самі крашынцы маглі, далучыўшыся да гэтага майстэрства народных умельцаў, па вартасці ацаніць яго.

Так і сталася.

Тут жа, на вуліцы, стаялі кавадлы і ля іх увіхаліся дужыя малайцы. Імправізацыя імправізацыяй, але забываешся на яе, калі атрымліваеш на памяць «срэбную» падкову. І не абы-якую, а — крашынскую. Ля будынка ж мясцовай школы /з гэтага дня яна пачала насіць імя Паўлюка Багрыма, пра што нагадала ўрачыста адкрытая мемарыяльная дошка/ гасцей сустракалі хлапчукі, рыхтык Багрымавага ўзросту, калі ён сам хадзіў у тутэйшую школку, арганізаваную мясцовым ксяндзом В. Магнушэўскім. Яны, у кавальскіх фартухах, з падковамі ў руках, пазвоньваюць імі, і звон іх плыве быццам з мінулага стагоддзя. І, можа, хто-небудзь з тых хлапчукоў, падросшы, не стане шукаць «экзатычную» прафесію, а прадоўжыць такую старую і гэткую патрэбную на зямлі кавальскую справу.

Балазе, яны з маленства бачаць, як ва ўмелых руках «спявае» жалеза. Бачаць у мясцовым касцёле, любуючыся там Багрымавай жырандоляй з жаўрукамі, якія, здаецца, гатовы ўзмахнуць сваімі крыламі. І ў музеі народнага мастацтва і рамёстваў, што заняў адзін з пакояў іхняй жа школы — галоўнае месца ў ім займаюць прадметы кавальскага мастацтва...

Людна было ў цэнтры Крашына, непадалёк ад Шчары. Ад утульнага пляца, акружанага ў асноўным грамадскімі пабудовамі, у чатыры бакі разыходзяцца шырокія вуліцы.



Калісьці ля моста праз раку стаяў млын, а непадалёк — Багрымава кузня. Паблізу быў і дом каваля-паэта. Цяпер гэтае месца прыкладна ўстаноўлена — цераз дарогу ад мемарыяльнага знака на месцы колішняй кузні. Сёння там, вядома, іншы будынак. На ім і была адкрыта мемарыяльная дошка /аўтар скульптар У. Лятун/. Слова пра паэта-каваля сказалі А. Сабалеўскі і Н. Загорская.

Пісьменнікі, прадстаўнікі іншых творчых прафесій прынялі ўдзел у Багрымавых уроках, што прайшлі ў мясцовай школе. Адзін з урокаў правялі члены баранавіцкага літаратурнага аб'яднання і мастацтвазнаўца А. Сабалеўскі. Анатоль Вікенцьевіч зазначыў, што лёс Багрыма — вечная загадка, але тыя «бліскаўкі», што дайшлі да нашага часу, здатны пасвяціць яшчэ многім пакаленням. У лёсе Багрыма — і лёс спакутаванай душы беларускага народа, і высокі дух яго, што, нягледзячы на ўсе цяжкасці і перашкоды, даваў знаць аб сабе. А. Сабалеўскі паведаміў, што па ініцыятыве часопіса «Тэатральная Беларусь» падрыхтавана кніга пра П. Багрыма, якая неўзабаве выйдзе з друку.

У мясцовым Палацы культуры адбылося падвядзенне вынікаў конкурсу аднаго твора пад дэвізам «Заграй, заграй, хлопча малы...» Тут жа прагучалі і песні, якія занялі прызавыя месцы. Першая прэмія прысуджана песням «Жырандоля Багрыма» /верш і музыка Я. Петрашкевіча/ і «Памяць» /верш А. Бадака, музыка У. Грушэўскага/. Другая — «Край беларускі» /верш В. Шымука, музыка Я. Наско/ і «Паўлюк Багрым» /верш Н. Загорскай, музыка А. Чыркуна/. Трэцяя — песні «Вірэя» /верш М. Рудкоўскага, музыка В. Фецісава/. Заахвочвальную прэмію атрымаў самы юны кампазітар, трынаццацігадовы Р. Крымер, які напісаў песню «Багрымава жалейка» на верш В. Дэбіша. Усе пераможцы атрымалі грашовыя прэміі, дзякуючы падтрымцы камерцыйных структур «Багрым» і «Талака».

А Багрымава свята доўжылі мясцовыя ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці — спектаклем па п'есе Я. Дылы «Юнак з Крашына». У зале часта гучалі дружныя воплескі — крашынцы блізка да сэрца ўспрымалі тое, што адбывалася на сцэне...

Спектакль стаў апошнім акордам свята, якое вырашана праводзіць рэгулярна.

А на завяршэнне гэтага рэпартажу нельга не ўспомніць добрым словам энтузіястаў, дзякуючы чыім намаганням стала магчымым правядзенне і леташняга Багрымавага свята, і сёлетняга. Найперш — Ніну Загорскую, якая і як работнік Міністэрства культуры Беларусі, і як паэтэса, ураджэнка таго ж Баранавіцкага раёна, зрабіла дзеля ўшанавання памяці Паўлюка Багрыма, надзвычай шмат.

А наконт таго, што, маўляў, можна знайсці і больш значную фігуру на ніве нацыянальнай культуры, каб ладзіць штогадовыя святы /даводзілася чуць і такое/, адказаць можна так. П. Багрым — наш нацыянальны гонар. Гэта — папершае. А па-другое — хто забараняе ў іншых мясцінах гэтаксама ўшаноўваць памяць знакамітых землякоў... Іх у нас — шмат, мы ж людзі — не без роду-племені...







**Уладзімір КРУК /фота/,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**спецыяльныя карэспандэнты «ЛіМа»**

# КУРС НА СТРАТУ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

*(Пачатак на стар. 3)*

прынцыпе не дачыненняў да ідэй дэмакратыі, а па прынцыпе дачыненняў да ўлады. І Ельцын, і яго каманда — гэта тая самая наменклатура, якая адмовілася ад ідэй камунізму, якая ўсплыла на антыкамунізме. І невыпадкова, што менавіта гэтая наменклатура ўспрыняла ідэі ліберальнага капіталізму, ідэі лібералізму, носьбітам якіх стаў Гайдар. І вось гэтыя ідэі, якія ў аснову ставяць прагматычную эканоміку, яны, бадай, страшнейшыя для нашай незалежнасці, чым камуністычная экспансія, якую ажыццяўляў Хасбулатаў. Таму што яны нас ставяць на калені шляхам прадуманай эканамічнай бязвыхаднасці і вымушаюць нас саміх ісці ў гэтую «рублёвую» зону, гэтак жа, як трус ідзе ў пашчу ўдава, і думаць, што гэта стане выратаваннем. Гэта вельмі небяспечная і, я б сказаў, страшная палітыка, таму што яна ідзе шляхам ашуканства, а вымушаны выбар робіцца ашуканымі нібы добраахвотна.

Я перакананы, што сярод вас ёсць людзі, якія сапраўды думаюць, што гэта будзе пэўная палёгка, што гэта нейкі выхад з таго стану, у якім мы апынуліся. Але паглядзіце, як паслядоўна палітыка нашага ўрада, урада спадара Кебіча, давяла нашую эканоміку да таго стану, калі мы стаім на каленях і быццам бы няма выхаду. І толькі цяпер, не ў 1992 годзе, не ў пачатку 1993 года, а менавіта цяпер з'явілася гэтая думка: давайце аб'ядноўваць грашовыя сістэмы. Але ж гэта элементарна: без сваёй фінансава-крэдытнай сістэмы не можа быць дзяржаўнай незалежнасці.

Што з гэтага можа атрымацца? Першае, што можна прагназаваць, — спыняцца нашы заводы. Спыняцца, бо рэформы ў Расіі пайшлі значна далей, расейцы маюць больш танную сыравіну, менш затрачваюць працы на вытворчасць адпаведных прадуктаў, яны будуць значна таннейшыя. І калі расейскія тавары прыйдуць сюды, /а яны прыйдуць, таму што і эмісіяй, і фінансава-крэдытнай палітыкай будзе валодаць Цэнтральны банк Расіі, будзе валодаць Расія, а не мы/, то нашая вытворчасць не зможа канкурыраваць, нашы тавары будуць даражэйшымі, проста нам не будзе патрэбы гэтыя тавары выпускаць, будзе нявыгадна, і заводы спыняцца. Вось вам першы сацыяльны крызіс, які адбудзецца.

Расіі будзе нявыгадна развіваць тут структурную перабудову. Гэта павінна рабіць наша дзяржава, яна павінна ўкладваць сродкі. Небяспека аддзялення ўсё роўна будзе стаяць, а Расія праследуе свае стратэгічныя мэты.

Такім чынам, куды мы пойдзем, калі зараз на гэтым Вярхоўным Савеце будуць ратыфікаваны гэтыя пагадненні? Тут жа няма ніякіх эканамічных перспектыў. Той бізнес, тая прадпрымальніцкая вытворчасць, якая зараз развіваецца ў Расіі /і развіваецца дастаткова бурна, прытым па дастаткова дзікіх законах, таму што грамадская супольнасць там слабая, яна несфармаваная/, значна мацнейшыя за наш бізнес, за нашую прадпрымальніцкую вытворчасць. І іх банкі значна мацнейшыя, чым нашы. Калі мы не будзем распараджацца сваімі фінансамі /а мы ж не будзем, мы ж будзем плаціць падаткі ў федэральны бюджэт, будзем падпарадкоўвацца законам расійскага банка/, то яны нам, як кажуць, напішуць і танец. Зразумела, што не ўзнікне ніякага эканамічнага супрацоўлення, і зразумела, што наша вытворчасць, наш бізнес будуць тут жа ліквідаваны, яны не вытрымаюць ніякай канкурэнцыі. Нашыя банкі лопнуць. Спадар Беленькі гаварыў, што ў лепшым выпадку яны стануць філіяламі /гэта ў лепшым выпадку/. Яны проста перастануць існаваць.

У выніку нашы заводы, нашы фабрыкі, чыгункі, лясы апынуцца ва ўласнасці расійскіх прадпрымальнікаў і бізнесменаў. Наша маёмасць, прадпрыемствы будуць пушчаны з малатка, з аўкцыёна. І гэта элементарна можна пралічыць нават не будучы эканамістам, а гісторыкам, бо такое ў нашай гісторыі ўжо было. Узгадаем тры падзелы Рэчы Паспалітай. Мы цудоўна ведаем, як адбывалася тады разбурэнне нашых мануфактур, як нішчылася наша эканоміка, і гэта была свядомая палітыка Расійскай імперыі. Трэба рабіць вывады з гісторыі, таму што імперская палітыка паўтараецца. Цяпер мы бачым яе на новым вітку.

Я вельмі прасіў бы ўсё ж такі ўсіх дэпутатаў, дэпутатаў большасці /сярод якіх, напэўна, ёсць людзі, якія думаюць, што, прагаласаваўшы за ратыфікацыю, яны зробяць дабро, ну, для нашага «рэгіёна», для насельніцтва/ задумацца сур'ёзна над вынікамі магчымага вашага рашэння, якое можа аказацца фатальным для нашай дзяржавы і для нашага народа. Я вельмі прасіў бы над гэтым задумацца і, як кажуць, сем раз адмераць, перш чым галасаваць.

Мы не павінны ратыфікаваць гэтае пагадненне. Нам неабходна ўводзіць сваю нацыянальную валюту і праводзіць сваю незалежную эканамічную палітыку, сваю фінансавую палітыку. Нам прапануюць увесці «зайцаў» як часовую валюту. Так, гэта пакуль што выхад. Мы павінны гэта зрабіць, але ж заўважце, што Расія гэта нам сама прапаноўвае. Таму што калі не будзе ў нас сваёй валюты /у нас жа яе няма/, то Расіі нявыгадна ўкладваць сюды свае рэсурсы і дапамагаць нам, каб затым нас і праглынуць. Яны хочуць яшчэ, каб мы ўвялі б гэту сваю валюту, каб адпаведна і зручна для сябе прыраўняць курсы, каб можна было, так сказаць, эксплуатаваць вось гэтыя штучныя грашовыя курсы адзін да шасці, адзін да аднаго, адзін да чатырох і г. д., і праз некалькі месяцаў праглынуць нас поўнасцю. Мы ж не павінны вось так станавіцца на калені і не разбірацца ў элементарных рэчах. Я б вельмі вас прасіў над гэтым глыбока задумацца і не ратыфікаваць гэтае пагадненне.

Гістарыясофія

***Як і чакалася, новая рубрыка «Гістарыясофія», якую прэзентавалі «амаль што версіі» /вызначэнне рэдакцыі. — Ю. З./ Яўгена Гучка «Арыйцы—Балты—Беларусы—Амерыканцы...» /«ЛіМ», 15.10.1993 г./, — выклікала спагаднае стаўленне нашых інтэлектуалаў. Асабліва тым, што пэўным, неакрэсленым вызначэннем жанру развагі — «амаль што...» Думаецца, гэтае «амаль што» і ёсць у пэўным сэнсе адэкватным зменлівым, «ліючымся» рэаліям спосабам мыслення, афармлення думкі /нагадваецца формула І. Канчэўскага — «пошукі ліючайся формы».../.***

***Тым больш магчымасць няпэўнасці, так бы мовіць, імпрэсіяністычнасці думкі закладзена ў сімбіёзе «гісторыі» і «-софіі». Пры спалучэнні атрымліваецца «мудрствование» над гісторыяй. А «мудрствование» — не што іншае, як шырачэнны абсяг ПРАДМЕТНАСЦІ мыслення: гісторыя ў эзатэрычна-містыфікатарскім выкладзе /як у Я. Гучка/; гісторыя баталістычная, эканамічная, літаратурная, палітычная... Такім чынам, «стайнасць» ці шматпрадметнасць гістарыясофскага дыскурсу павялічваецца да бясконцасці...***

***Сённяшні публікант рубрыкі... і тут рука звыкла памкнулася было засведчыць нешта аднамерна-канчатковае, але тузанулася і застыла... — гісторык? ну надта недагматычны /мяркуючы па яго вядомых публікацыях/; палітолаг? — не любіць ён гэткага вызначэння «профілю»; што ж — геапалітык? Ва ўсякім разе, «размышлізмы» /а гэта ўжо аўтарскае вызначэнне жанру/ Андрэя Кіштымава маюць на ўвазе менавіта геапалітыку як пэўны здабытак ведаў і пастулатаў грамадазнаўчай навукі і ад іх кіруюцца да Краіны Лесу. Хоць «геапалітыкам» у «профільным» сэнсе аўтар сябе і не спяшаецца лічыць...***

***Юрась ЗАЛОСКА, аглядальнік «ЛіМа»***

Андрэй КІШТЫМАЎ

# КРАІНА ЛЕСУ Ў ПАНАРАМЕ ГЕАПАЛІТЫКІ

Геапалітычныя канцэпцыі сталі важнейшым фактарам сучаснай макрапалітыкі. Геапалітыка — псіхалогія дзяржавы, яе стратэгічнае і практычнае мысленне.

У «чыстым» сэнсе гэтага слова геапалітыка пачынаецца з нямецкага географа Фрыдрыха Ратцэля /1844—1904/, які напісаў у 1897 годзе работу «Палітычная геаграфія». Створаная ім тэорыя дынамічнага разумення прасторы абапіраецца на чатыры асноўныя тэзісы:

1/ Дзяржавы — гэта арганізмы, якія нараджаюцца, жывуць, старэюць і паміраюць;

2/ Рост дзяржаў як арганізмаў вызначаны загадзя;

3/ Гістарычны пейзаж накладвае свой адбітак на грамадзяніна дзяржавы;

4/ Галоўнай ідэяй з'яўляецца тэорыя «жыццёвай прасторы».

Шведскі палітолаг, прафесар Рудольф Чэлен /1864—1922/ упершыню ўжыў сам тэрмін «геапалітыка» і ўвёў дысцыпліну «палітычная геаграфія» ў разрад акадэмічных навук.

У СССР геапалітыка кваліфікавалася як «ілжэнавука», «антынавуковая дактрына», што «скарыстоўвае для абгрунтавання агрэсійнай палітыкі імперыялістычных дзяржаў скажона вытлумачаныя даныя фізічнай, эканамічнай і палітычнай геаграфіі». Не ў апошнюю чаргу прычына такіх адносін заключаецца ў тым, што менавіта гісторыя савецкай імперыі, як, зрэшты, і фашысцкага рэйха, стала аб'ектам разгляду класічных прац геапалітыкаў і бліскуча пацвердзіла многія іх тэорыі...

Два адвечныя паняцці геапалітыкі — суша і мора. На ўзроўні глабальных геапалітычных феноменаў яны нарадзілі тэрміны: таласакратыя і тэлуракратыя, г. зн. «магутнасць праз мора» і «магутнасць праз сушу». Другім фундаментальным феноменам з'яўляецца дзяленне народаў і дзяржаў на качавыя і аселыя. Менавіта гэтыя феномены, а таксама ўвядзенне прасторава-часавай каардынаты «сусветная /геаграфічная/ восць гісторыі», вызначаюць рамкі, у якіх заключаны асноўныя геапалітычныя мадэлі.

Беларусы — народ з класічна выяўленай сухапутнай і аселай арыентацыяй. Безумоўна, гэта адбілася і на геапалітычных каштоўнасцях беларускай дзяржаўнасці. Сярод спецыфічных форм тэлуракратыі можна адрозніць цывілізацыю Стэпу і цывілізацыю Лесу, цывілізацыю Гор і цывілізацыю Далін, цывілізацыю Пустыні і цывілізацыю Лёду. Адзначым блізкасць, у пэўным сэнсе, цывілізацый Гор і цывілізацый Лесу, да якой належаць беларусы. Часцей за ўсё гэтыя цывілізацыі ўяўляюць сабой архаічныя, фрагментарныя ўтварэнні. Менавіта так, цераз змену ці нават паралельнае існаванне дзяржаўных структур /Полацкае княства, Турава-Пінскія землі, Навагрудская Літва/ ішло фарміраванне дзяржаўнага мыслення беларусаў.

Архаіка і фрагментарнасць захаваліся і ў далейшым: шматнацыянальнае Вялікае княства Літоўскае, шматлікія спробы палітычнай уніі, існаванне ў двайных рамках ВКЛ і Рэчы Паспалітай, унія царкоўная /1596/, зусім не аднаразовы працэс насільнага ўключэння ў склад Расійскай імперыі, дзяленне на акупіраваную і неакупіраваныя тэрыторыі ў гады першай сусветнай і грамадзянскай войн, замацаванае Брэсцкім мірам 1918 г. і Рыжскім дагаворам 1921 г., працiстаянне Беларускай Народнай Рэспублікі і Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусі /якая змагла на працягу некалькіх месяцаў перажыць трансфармацыю і ў Літоўска-Беларускую ССР/, затым уваходжанне БССР у склад СССР, два ўзбуйненні яе тэрыторыі /1924, 1926/, уз'яднанне Заходняй Беларусі, пытанне аб прыналежнасці Віленскага краю, уключэнне і выключэнне са складу БССР Беластоцкай вобласці, нямецкая акупацыя і, нарэшце, канчатковы распад СССР у выніку Белавежскага пагаднення, заключанага на беларускай зямлі.

Як лясныя, так і горныя краіны не толькі не з'яўляюцца крыніцай экспансіі, але наадварот, да іх сцягваюцца ахвяры геапалітычнай экспансіі іншых тэлуракратычных сіл /беларускі прыклад: яўрэі, стараверы, сучасны прыток бежанцаў/. Так, у барацьбе з татара-манголамі /цывілізацыяй Стэпу/ ішло станаўленне Вялікага княства Літоўскага. І ў далейшым беларускія землі станавіліся аб'ектам экспансіі як з Захаду, так і з Усходу.

Лес і горы ў пэўным сэнсе гэтак жа падобныя ў сакральнай геаграфіі. Сама сімволіка дрэва блізкая да сімволікі гары /і тое і другое азначае восць свету/. І лес і горы ў тэлуракратыі выконваюць перыферыйную функцыю, памножаную на ідэю захавання рэштак старажытных рас і цывілізацый. Нагадаем меркаванне шэрагу даследчыкаў аб беларусах як носьбітах найбольш «чыстага» славянскага тыпу...

Менавіта ў гарах і лясах размешчаны сакральныя цэнтры традыцый. Гэта «месца жрацоў» /друіды, вешчуны, чарадзеі/, але адначасова і «месца дэманаў», г. зн. архаічных рэштак зніклага мінулага. У гісторыі зафіксавана стойкасць язычніцкіх традыцый у беларусаў: яшчэ Герадот адзначаў веру скіфаў і элінаў у тое, што кожны з неўраў — племені, што жыло ў вярхоўях Дняпра і Прыпяці — «штогод на некалькі дзён



ператвараецца ў ваўка, а затым зноў прымае чалавечае аблічча» /Герадот. История. Л., 1972, с. 213/. Надзвычайнае і багацце беларускага фальклору, устойлівасць традыцыйнага беларускага ўкладу жыцця навет пры самых неспрыяльных умовах, кансерватызм і схільнасць да эвалюцыйных змяненняў, што можна даволі ясна прасачыць навет пры разглядзе пытання аб дасягненні суверэнітэту Рэспублікай Беларусь і яе кроках на шляху станаўлення сапраўднай незалежнасці.

Можна навет сказаць, што ў тэлуракратыі горы і лясы суадносяцца з нейкай духоўнай уладай. Магутныя інтэлектуальныя імпульсы, што бяруць пачатак на беларускай зямлі, мелі сусветнае і агульнаеўрапейскае значэнне /Ф. Скарына/, вызначалі ментальнасць народаў суседніх краін — Польшчы /Т. Касцюшка, А. Міцкевіч/, Расіі /Ф. Дастаеўскі/...

Важнейшым аспектам стварэння геапалітычных мадэляў з'яўляецца ацэнка магутнасці дзяржавы. У класічнай геапалітыцы пры разліку сілы дзяржавы да ўвагі прымалася: 1/ тэрыторыя, прастора; 2/ тып межаў /іх бяспека/; 3/ колькасць насельніцтва; 4/ сыравіна; 5/ эканамічнае і тэхналагічнае развіццё; 6/ фінансавая магутнасць; 7/ расавая аднароднасць; 8/ аптымальная інтэграцыя ўсіх сацыяльных слаёў; 9/ палітычная стабільнасць; 10/ нацыянальны дух. У сучасных даследаваннях для вызначэння сукупнай магутнасці дзяржавы кіруюцца формулай:

$$P_p = /C + E + M/ \cdot /S + W/$$

дзе $P_p$ — супольная магутнасць дзяржавы; **C** — крытычная маса /сума каэфіцыентаў колькасці насельніцтва і плошчы тэрыторыі краіны/; **E** — эканамічная магутнасць; **M** — ваенная магутнасць; **S** — стратэгічная мэта дзяржавы; **W** — жаданне насельніцтва прытрымлівацца існуючай у краіне стратэгіі.

Пазней прапанавана дадаткова ўвесці яшчэ адзін паказчык — **P** — як сілу пераканання палітычнага кіраўніцтва дзяржавы, яго здольнасць павесці за сабой не толькі насельніцтва сваёй краіны, але і саюзнікаў. Такім чынам, канчатковая формула вызначэння сукупнай магутнасці дзяржавы набывае наступны від:

$$P_p = /C + E + M/ \cdot /S + W + P/$$

Пры ацэнцы канкрэтных элементаў сукупнай магутнасці дзяржавы з прымяненнем метаду экспертных ацэнак прапануюцца наступныя падыходы. Напрыклад, лічыцца, што колькасць насельніцтва з'яўляецца тым першым паказчыкам, па велічыні якога можна адразу меркаваць аб важнасці /значнасці/ той ці іншай дзяржавы. Пры ацэнцы тэрыторыі краіны ў разлік прымаецца толькі плошча прадукцыйных зямель /ворныя землі і пашы/. Для больш дакладнага ранжыравання краін пры ацэнцы эканамічнай магутнасці прапаноўваецца выкарыстаць параўнанне пяці базавых галін — энергетыкі, прамысловасці, сельскай гаспадаркі, гандлю і запасаў карысных выкапняў.

Найбольшую цяжкасць мае характарыстыка значэння сумарнага каэфіцыента /прынятай стратэгічнай мэты дзяржавы, ступені падтрымкі яе насельніцтвам, рашучасці кіраўніцтва/. Тэарэтычна гэты каэфіцыент памнажае або зводзіць да нуля велічыню канкрэтнай магутнасці /C + E + M/.

/Экспертная ацэнка сукупнасці магутнасці Рэспублікі Беларусь пакуль не праводзілася/.

У працэсе актывізацыі сусветнай геапалітыкі рашаючую ролю адыгрываюць тры геаграфічныя фактары: расшырэнне, тэрытарыяльная маналітнасць і свабода перамяшчэння. Беларусь у поўнай меры не валодае ніводным з гэтых фактараў. Адсутнасць геапалітычнай самадастатковасці немінуча ставіць пытанне аб магчымых партнёрах і саюзніках.

Тое, што беларусы — жыхары Краіны Лесу, тлумачыць іх фенаменальны гістарычны сімбіёз з геапалітычнымі братамі — літоўцамі. Арэнай гістарычнага дзеяння двух народаў стала выключна шырокая паласа беларуска-літоўскага памежжа. Яна існуе і сёння, хаця і ў менш акрэсленым выглядзе, чым у эпоху вялікага перасялення народаў і сярэднявечча. Праўда, у Літвы прысутнічалі і прысутнічаюць таласакратычныя матывы, звязаныя з наяўнасцю выхаду да Балтыйскага мора. Пры гэтым гістарычнае мінулае ярка сведчыць, што ў перыяды, калі літоўцы былі практычна адрэзаны ад мора, напрыклад, Тэўтонскім ордэнам ці германскай прыналежнасцю Мемельскага краю, дамінуючае значэнне ў іх мелі тэлуракратычныя памкненні. Іх супадзенне з глыбіннымі беларускімі асновамі вызначыла беларуска-літоўскі геапалітычны саюз часоў магутнасці ВКЛ, а таксама падтрымку Літвой БНР. Гэта ж вызначала даволі стойкія саюзніцкія адносіны да беларусаў і літоўцаў у процідзеянні і палякам, і Польшчы — народу і дзяржаве, у чыёй палітыцы, у сваю чаргу, пераважалі і пераважаюць таласакратычныя матывы, што забяспечваюцца не толькі наяўнасцю выхаду ў мора, але і пастаяннай барацьбой за валоданне ўсёй рачной далінай Віслы, ад рэчышча да вусця.

На сённяшні дзень у Літве, таксама як і ў Польшчы, таласакратычная палітыка пераважае, пра што ясна сведчыць іх геапалітычная арыенцыроўка на ЗША — адну з самых магутных дзяржаў Мора. Становішча спраў на паласе беларуска-літоўскага памежжа і ў будучым будзе барометрам тэлуракратычнага сілавога поля. Асабліва важна, у геапалітычных адносінах, што менавіта ў гэтым полі размешчана Вільня — сталіца Літвы.

*(Працяг на стар. 12)*

***На маім стале веерам ляжыць сем кніжачак для маленькіх чытачоў. Яны, як сем колераў вясёлкі, як сем дзён тыдня, такія розныя, маляўніча-вабныя. Але не толькі афармленне прыцягвае ўвагу. Духоўна-эстэтычны змест многіх старонак таксама па-сапраўднаму радуе. Аўтары паэтычных дарункаў дзецям — розныя па літаратурным вопыце: ад старэйшых нашых паэтаў Станіслава Шушкевіча і Максіма Танка, многія дзіцячыя творы якіх даўным-даўно сталі хрэстаматыйнымі, да самай маладой паэткі Алены Якаўлевай, якая ў дзіцячай літаратуры толькі пачынае сваю творчую сцежку. На вокладках іншых кніжак — імёны Міколы Чарняўскага, аднаго з вядомых дзіцячых пісьменнікаў, Міколы Бусько, Хведара Гурыновіча і Алеся Пісьмянкова — паэтаў, якія зусім не навічкі ў дарослай літаратуры, а ў дзіцячай паэзіі іхнія зборнікі — першыя ластаўкі. Не ўсе кніжкі выйшлі ў запланаваны тэрмін, як, да прыкладу, «Вярэнька» М. Чарняўскага. Яна чакала выхаду і ў 1991, і ў наступным годзе, а пабачыла свет толькі напрыканцы лета 1993. Прынамсі, гэта адно з першых мастацкіх выданняў для маленькіх чытачоў, якое падрыхтаваў Рэспубліканскі цэнтр эстэтычнага выхавання дзяцей. Усе астатнія сёлетнія кніжкі абавязаны сваімі народзінамі знакамітаму выдавецтву «Юнацтва».***

# ПА ВЯСЁЛЦЫ ДА СОНЦА

## НАТАТКІ ПРА НОВЫЯ ПАЭТЫЧНЫЯ КНІЖКІ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

### «АД СКАРЫНЫ-БАЦЬКІ КНІГА»

Літара, а затым слова, прачытанае па складах, заўсёды былі на пачатку сцежкі ў свет «мудрасці кніжнай». Слова роднае, радзіннаматчынае — першая радасць адкрыцця свету, выток усяго самага глыбіннага і сапраўднага ў душы. Ва ўсе часы і эпохі рупліўцы на ніве літаратуры, культуры, асветы выдатна ўсведамлялі, што выхаванне ў роднай мове — зарука жыццяздольнасці нацыі. Яшчэ ў XVI ст. нястомны асветнік і гуманіст С. Будны, напрыклад, турбаваўся пра далучэнне дзяцей да роднага слова, таму рэў, каб выдадзеныя ягоныя кніжкі людзі «сами учили и деток своих научали». Пра навучанне нацыянальнай мове, абуджэнне цікавасці да чытання ўжо ў нашым стагоддзі шчыра дбалі К. Каганец, аўтар першага беларускага лемантара, Цётка, Я. Колас і іншыя. Лемантары ды чытанкі — тыя першыя прыступкі, з якіх таксама пачыналася Адраджэнне.

«Лемантар» М. Танка — яшчэ адна спроба беларускае азбукі /згадайма хаця б ранейшую па часе «Азбуку Васі Вясёлкіна» /1963/ В. Віткі ці нядаўнюю забаўную азбуку «Елачка і ёлачка» /1991/ С. Сокалава-Воюша/. І трэба сказаць, спроба даволі ўдалая, бо аўтар здолеў завабіць малога чытача ў багаты, непаўторны свет роднага слова. З'яўляецца адчуванне, што ты патрапіў на нейкую своеасаблівую выставу ці самавітую галерэю беларускай лексікі. Паэт урачыста і ўсхвалявана вядзе на экскурсію-прагляд, бо матчына мова — гэта тая старажытная найвялікшая каштоўнасць, якою трэба даражыць і ганарыцца з маленства:

**Добры дзень, мой браце юны!**
**Я прынёс табе як дар**
**Ад Скарыны-бацькі кнігу —**
**Беларускі лемантар.**

**Гэта — ключ ад скарбаў нашай**
**Мовы матчынай, з якой**
**Ты не станешся самотнай,**
**Безыменнай сіратой.**

Падарожжа ў космас мовы запамінальнае. І невыпадкова: большасць слоў знаёма дзецям. Аднак аўтар свядома запрашае павандраваць і па моўных сховах, каб адчуць пракаветны неруш асобных слоў, дайсці да іх сэнсу разам з бацькамі, бабулямі і дзядулямі, выхавацелямі: ёўня, навой, падвой, жур... Пэўна, што і слоўнік дарослым давядзецца пагартаць. З дзіцячай любові, цікаўнасці да літары-слова і пачынаецца беларус. Мусіць, з гэткім адчуваннем пісаў свой «Лемантар» М. Танк.

### «ТАМ ЗВАНОЧКІ, ТАМ КРАСА...»

З уваходзінамі ў дзівосную, шматколерную краіну Слова надыходзіць новая пара эмацыянальнага і эстэтычнага развіцця дзіцяці. І таму, акрамя ўсяго, чуйны, ненавязлівы клопат пра «азбуку душы» /В. Вітка/ — адна з важных мастацкіх задач дзіцячага паэта.

Бачыць і адчуваць акаляючае хараство вучыць свайго маленькага слухача і чытача С. Шушкевіч. Ягоны верш «Кветачкі-званочкі» вельмі меладычны. Алітэрацыя на гук «з» якраз і надае радку адпаведнае гучанне. Думаецца, пасля прачытання верша назва і адметнасць кветак-званочкаў адразу западзе ў дзіцячую памяць:

**Звоняць кветачкі у полі**
**Звонка звоняць ля дарожкі,**
**І, здаецца, як ніколі**
**Просяцца у скокі ножкі.**

Па-свойму ярка, эмацыянальна-вобразна абжывае акаляючы свет А. Якаўлева. Звычайнае, знаёмае ў яе вершах паэтызуецца з радаснай адкрытасцю, захопленасцю пачуццяў. І яшчэ: паэтка валодае добрай назіральнасцю і фантазіяй. Таму вобразы прыроды ў вершы «Мае сябры — басаногія вятры», які і даў загаловак кніжцы, кранаюць адухоўленасцю, сакавітай маляўнічасцю. У кніжцы А. Якаўлевай вобразы і з'явы прыроды ўспрымаюцца дзіцячымі вачыма. Чысцінёй і непадробнасцю ўражанняў прасякнуты вершы «Грыбны дождж», «Першы снег», «Конік», «Веласіпед для хмарак» і інш.

Выхоўваць глыбокія экалагічныя пачуцці стала даўняй традыцыяй беларускай дзіцячай паэзіі. Паказальнай у гэтым сэнсе з'яўляецца і кніжка Х. Гурыновіча, назва якой красамоўна гаворыць сама за сябе — «Пасадзім па дэўцу». У асобных радках праступае тая паэзія любавання прыродай, якая выказваецца з натуральнай прастатой, пачуццёвай канкрэтнасцю ўражанняў /вершы «Зязюльчына балада», «Верабейчык», «Светлячкі», «Павуковы красёнцы», «Мароз-мастак» і інш./. Паэт умее надаць каларыт параўнанням /«Сыраежка — дзіўная такая — як талерка поўная расы»/, аднак, малюючы прыроду, не заўсёды дасягае яркай вобразнасці.

Дзіцячы паэт, па вялікім рахунку — педагог, ён выхоўвае. Нельга не адчуць клопат Х. Гурыновіча пра жывую лучнасць дзіцячай душы з прыродай. Матывы шкадобы, абароны птушак ад жорсткасці гучаць у вершах Х. Гурыновіча «Сачыненне» і «Не дарую». Аўтар жадае, каб дзеці чулым, нераўнадушным сэрцам зірнулі на ўчынкі сваіх равеснікаў, адчулі, што зло, чэрствасць абядняюць свет навокал і свет унутры нас саміх.

Нямала пейзажных вершаў у кніжцы М. Бусько. Сярод іх ёсць і вельмі добрыя, лірычна-вобразныя, такія, як «Шугавец», «Каўзель», «Восень-гаспадыня» і некаторыя іншыя.

Асобныя радкі запамінальныя, іх так і хочацца працытаваць:

**Сланечнік спелы**
**Каля хаты,**
**Пялёсткі скінуўшы ў траву,**
**Стаіць, як вучань вінаваты,**
**Схіліўшы долу галаву.**

*/«Асеннія настроі»/*

Дзівоснасць пор года, родных краявідаў паэт малюе настраёвымі фарбамі. У сваіх творах ён часта карыстаецца дыялогам, каб ажывіць паэтычную гаворку і тым самым пазбегнуць аднатоннага ладу пісьма.

### НЕ «БРАТЫ МЕНШЫЯ», А СЯБРЫ!

Вобразы флоры і фаўны — самыя ўлюбёныя ў творчасці С. Шушкевіча і таксама традыцыйныя ў дзіцячай паэзіі. І невыпадкова, бо свет дзяцей — наіўна-казачны, адухоўлены. Кветкі і дрэвы для іх — тое хараство, якое яны ўспрымаюць па-свойму, жыва, непасрэдна. А звяры і птушкі — зусім не «браты меншыя», а сапраўдныя сябры, вельмі блізкія істоты, падобныя на людзей сваімі звычкамі і паводзінамі. Свет раслін і жывёл у вершах С. Шушкевіча напоўнены жывым жыццём. Тут шмат падзей, нечаканых здарэнняў, канфліктаў, розных забаўных сітуацый. Камары і конікі, сарокі і зайчыкі, вавёркі і яноты гэткія ж, як і людзі, як і самі дзеці. Іх хочацца і любіць, і шкадаваць, а некаторых і ўшчуваць за дрэнныя, непрывабныя норавы і ўчынкі. Як не паспагадаць вавёрцы-рыжусе, у якой не стала жытла. У няшчасці заўсёды неабходныя суцяшэнне, сяброўская дапамога — такая думка міжволі вынікае з верша «Вавёрчына наваселле». Аўтар кніжкі «Непаседлівыя вавёркі» вучыць нераўнадушна ўспрымаць працавітасць і гультайства /«Шаўцы-яноты», «Трутні»/, дабро і зло /«Чартапалох і чыстацел» і інш./. Некаторыя вершы С. Шушкевіча не пазбаўлены вясёлай усмешкі, інтанацыі іх нязмушана-простыя, часам набліжаныя да зарыфмаванай гутарковай мовы. Вось, напрыклад, як ён піша пра лісу-весялуху:

**Так ужо яна скакала,**
**Кіпцюры аж пасцірала.**
**Дома апранула тапкі**
**На змазоленыя лапкі.**
**Шкадавала, уздыхала:**
**Малавата танцавала...**

*/«Лясная вечарынка»/*

Мудрасць і майстэрства апавядаць дзецям — вызначальная рыса паэтавай кніжкі, якая, выйшаўшы пасля ягонай смерці, несумненна застанецца прыкметнай у дзіцячай паэзіі.

Малыя дзеці сапраўды самыя нераўнадушныя анімалісты, яны захапляюцца звярамі і жывёламі, шчыра спагадаюць ім. У сваіх творах для дзяцей А. Пісьмянкоў, здаецца, памятае пра гэта. Ён імкнецца выклікаць у дзіцячай душы непасрэднае, чуйнае дачыненне да ўчынкаў, нораваў жывых істот, пра што сведчаць вершы «Вораг», «Ліс-разбойнік», «Мікоша», казка «Пра цара Міхалку...» У вершы «Кот і дог» паэт малюе дасціпную сітуацыю:

**Трэба ваша**
**дапамога:**
**памірыць**
**ката і дога.**
**Калі я з катом**
**жартую —**
**ганарысты дог**
**лютуе,**
**калі я гуляю**
**з догам —**
**кот выходзіць**
**на дарогу.**

Многае добрае і каштоўнае ў чалавеку пачынаецца з увагі, любові да жывых істот. Таму так важна ў дзяцей «развіваць эмпатыю — суперажыванне свету жывога» /Н. Раждзественская/. У вершы «Дружок» чуваць дзіцячая спагада і засмучэнне:

**Весяліцца**
**Не магу,**
**Калі ты**
**На ланцугу.**
**Бо ніколі**
**Друга друг**
**Не навяжа**
**На ланцуг.**

Азбука любові і дабрыні — гэта чуйнае стаўленне да ўсяго жывога і прыгожага на зямлі. І як тут не згадаць словы дзіцячай паэткі А. Барто: «Даражыць светам маленства — значыць аберагаць яго ад халоднай разважнасці, раўнадушша...»

Праўда, калі кінуць позірк у блізкае мінулае, то наша дзіцячая паэзія прышчэпвала ў дзіцячых душах іншую азбуку, пра што, мусіць, варта згадаць.

### Зігзаг першы.

### «НЯМА ТАГО, ШТО РАНЬШ БЫЛО»

*Наша дзіцячая літаратура доўгія гады вельмі адчувальна залежала ад ідэалогіі, якая вымагала ніцаваць творы адпаведнага ёй зместу і пафасу. Выдавецтва «Юнацтва», як цэнтр дзіцячай кнігі, кіравалася ў сваёй дзейнасці «высокімі» прынцыпамі партыйнасці, праяўляла ідэалагічную стараннасць і звышпільнасць. Рэдка якая кніжка для дзяцей абыходзілася без дзяжурных вобразаў Леніна і Вялікага Кастрычніка ці твораў іншай ідэйна-палітычнай тэматыкі. З дзіцячага садка, малодшага школьнага ўзросту дзеткам прывівалася любоў да міфічнай радзімы СССР, дзядулі Ільіча, піянерскага гальштука, «лепшых з лепшых людзей» — камуністаў, да роднай партыі... Чулася гучная лозунгавая траскатня, казённыя словы ўслаўлення рэвалюцыі, дружбы савецкіх народаў, чалавека працы і інш. Праўда, і ў дарослай паэзіі хапала рознай ідэйна-пафаснай эквілібрыстыкі. Дзіцячыя паэты складалі «глыбокаідэйны» тлум, а выдавецкія рэдактары віталі ці баяліся зняць лішнюю старонку падобнай верша- і вобразатворчасці. Выдаўцы-перастрахоўшчыкі, па словах паэтаў, нават абавязалі ўключаць у дзіцячае выданне да дзесяці працэнтаў твораў ідэйна-грамадзянскага гарту. Нехта спяшаўся быць на вышыні часу, хтосьці рупіўся пра надзейную ідэйную візітоўку на выданне кніжкі, а для некага выхаванне ў падрастаючага пакалення «адданасці справе Леніна і Камуністычнай партыі» стала часткай светапогляду і жыцця. Да сённяшніх дзён не спяшаюцца і паэты і рэдактары засцерагчы дзяцей ад ідэйна-палітычнай атруты. Прыкладаў можна прыводзіць нямала. Адзін з іх — у цэлым нядрэнны зборнік Міхася Пазнякова «Тры чарадзеі» /1991/. У паасобных творах, што ўвайшлі ў цікавую кніжку Сяргея Папара /Панізніка/ «Мы — грамацеі» /1989/, таксама надараецца размашыста-пафаснае трубадурства: «І там, дзе сінізны прасцяг, — трапечацца дзяржаўны сцяг чырвоным колерам вячыстым» і інш.*

*З другой паловы 80-х паэты сталі непараўнальна менш грашыць прымусова-заказной ідэйнасцю. Сведчаннем таму паэтычныя кніжкі для дзяцей, якія пабачылі свет у апошнія гады, у прыватнасці, «Загадкі Зайкі-загадайкі» Уладзіміра Мацвеенкі, «Зай, які лічыў варон» Віктара Гардзея, «Кобра ў торбе» Рыгора Барадуліна, «Хітрыя літары» Івана Курбекі, калектыўны зборнік «Пахі вясны» і інш. Гартаю дзіцячыя кніжкі 1993 г. і радуюся, што на іхніх старонках няма ранейшай кідкай ідэалагічнай аздобы. Няма той псеўдатворчасці, якая культывавала і выхоўвала ў дзіцячых сэрцах фанатычныя, фальшыва-казённыя пачуцці. І трэба радавацца, што прыйшла пара вяртання да сапраўдных каштоўнасцей. Шчыра кажучы, чамусьці ўзнікае боязь, каб хаця нашы паэты не наважыліся красамоўна тлумачыць дзеткам, што такое вялікія грошы, як весці бізнес і г.д. Дзеткам трэба вучыцца любіць і шанаваць святое, людскае: маці, бацьку, Бога, роднае слова, Бацькаўшчыну-Радзіму, прыроду, магілы продкаў... Дык няхай беларуская дзіцячая кніжка дапаможа ім у гэтым.*

### ПРА МРОІ, ХІТРЫКІ, КРЫЎДЫ...

Дзіцячае жыццё ўмяшчае ў сябе багацце і шматстайнасць праяў, учынкаў, кожная грань якіх люструе ўнутраны свет, псіхалогію маленькага чалавека. У многіх вершах паэтаў якраз і выяўлена праніклівае, псіхалагічна трапнае бачанне дзіцячых характараў. А. Пісьмянкоў у сваёй кніжцы імкнецца абудзіць у малога чытача ўнутраны позірк на паводзіны, норавы аднагодкаў, крытычна ацаніць іх. Але, на шчасце, паэт не становіцца ў позу дарослага дыдакта і пазбягае ўсялякага лабавога павучальніцтва ды сюсюкання. Паэт апавядае лёгка, проста, ярка. Ён досыць ашчадны ў слове, піша лаканічна, без нуды. Часта канцоўка ягоных вершаў дасціпна-іранічная:

**Наш Максім рыбак заўзяты,**
**Печкуроў лавіць аматар.**
**Для яго рыбалка — свята:**
**Чарвякоў капае... тата.**

*/«Рыбак»/*

Сціслась, вобразная яснасць, даходлівасць дзіцячых вершаў А. Пісьмянкова мне асабліва імпануюць. Паэт размаўляе з малым чытачом добра ведаючы, што адначасна ў ім жывуць чыстая, ранімая душа і летуценнік, гарэза, хітрун ды свавольнік. Разнаісныя праявы дзіцячай псіхалогіі паўстаюць з вершаў «Саўка ды Грышка», «Хітрун», «Рыгорава гора», «Марскі воўк». Знаёмая ўсім бацькам праблема ў вершы «Як быць?»:

**Без марожанага**
**Гіну,**
**А з марожаным —**
**Ангіна.**

З дасціпнай усмешкай, іроніяй малююць норавы дзятвы С. Шушкевіч у вершы «Бывалы хлопец» і А. Якаўлева ў вершы «Асілак-спартсмен».

М. Бусько і Х. Гурыновіч больш узіраюцца ў псіхалогію дзяцей школьнага ўзросту. Аднак жа мала карысці ад «голай» маралі тыпу «зман дабра не прынясе». Дзеці ўсё ж такі без староннняй падказкі павінны бачыць і ацэньваць як добрае, так і кепскае.

У кніжцы Х. Гурыновіча нямала радкоў пра тое, што цешыць і хвалюе дзяцей, не дае спакою іхняму ўяўленню, прыносіць хвілі асалоды /«Супер—8», «Калаўрот», «Караблебудаўнік», «Уюн» і інш./. Удаецца паэту трапна перадаць сутнасць дачыненняў між дарослымі і дзецьмі і між самімі дзецьмі.

Калі чытаеш лепшыя вершы пра дзяцей, яскрава бачацца іхнія натуры, праявы псіхалогіі, якая так лёгка, безабаронна ўсмоктвае ўсё, што дае ім акаляючы свет ды жыццё. Нельга не адчуць шчырага, высакароднага намеру паэтаў — клапаціцца пра незамглёнасць дзіцячай зямлі, яе маральны імунітэт і чысціню.

## ГУЛЯЕМ-ВУЧЫМСЯ

Жанравай разнастайнасцю прыкметна вылучаецца «Вярэнька» М. Чарняўскага. Для маленькага чытача ёсць тут шмат займальнага, вабнага: моўныя гульні, задачкі, загадкі, лічылка, калыханка ды песенька. Верш «Хто разгадае?» пабудаваны ў форме дыялога. Паэт заклікае «разгадаць слоў сакрэт, гаворку ўсю». Дзяўчынка адказвае на пытанні, няправільна вымаўляючы словы. Перакаверканыя, зусім няхітрыя словы /«кусіла», «басака», «маляваю», «ясю»/ дзеці сапраўды з лёгкасцю і ўсмешкаю адгадваюць, таму што, як слушна заўважыў К. Чукоўскі, «правільныя формы... слоў ужо паспелі зацвердзіцца ў іх свядомасці». Падобныя вершы-гульні, бясспрэчна, развіваюць моўнае чуццё. Больш складаная на ўспрыманне, але вельмі пазнавальная слоўная гульня ў вершы «Вярэнька і варэйка». Тут блізкія па гучанні тры назоўнікі: вярэнька, варэйка і Вярэйцы. Аўтар патлумачвае значэнні даўніх, цяпер ужо малаўжывальных слоў. Гэты верш можна залічыць і да скорагаворкі:

**Пацікавіўся Валерка:**<br>
**— Дзед, нашто табе**<br>
**Вярэнька?**<br>
**Адказаў стары Валерку:**<br>
**— Панясу я ў ёй**<br>
**Варэйку.**

**На кірмаш пайду ў Вярэйцы —**<br>
**Будуць рады там**<br>
**Варэйцы.**

Вільмі дасціпныя і забаўныя ў кніжцы М. Чарняўскага загадкі пра карову, хмарку і парсючка. Да творчай удачы варта аднесці «Калыханку» ды «Сонечную песеньку», якія паклала на музыку Ларыса Сімаковіч. Тут жа змешчаны ноты, што, прынамсі, рэдка надараецца ў дзіцячых кніжках.

## А ЯК ЖА БЕЗ КАЗКІ?

Дзіцячы свет немагчыма ўявіць без казкі. Не сказаць, каб у нашай сённяшняй дзіцячай літаратуры было шмат выдатных вершаваных казак. Але зрэдчасу паэтычная казачная скарбонка ўсё ж папаўняецца добрымі, цікавымі творамі. Да іх ліку, на мой погляд, варта залічыць казку А. Пісьмянкова «Пра цара Міхалку, што любіў мёд змалку», адрасаваную дашкалятам. Твор гэты невялікі па аб'ёме, мае дасціпны забаўны сюжэт. Аўтар інтрыгуе малога чытача: цар звяроў Міхалка-мядзведзь адрокся ад кароны. Што ж здарылася? Гучыць запрашэнне «нам самім на сход падацца І там праўду ўсю дазнацца». Аказваецца, надакучыла старому Міхалку ўлада, бо ён, вялікі мёдаліз і мёдалюб, змалку хацеў быць у лесе пчаляром, а змушаны быў цараваць. Апавядаючы пра перапалох звяроў, іхнюю ліслівасць, паэт дасягае яркага жартоўнага эфекту:

**Зноў завылі ўсе звяры:**<br>
**«Не хадзі у пчаляры!**<br>
**Без цябе мы ўсе памром,**<br>
**Будзь нам, бацюхна, царом!»**<br>
**І ударылі чалом.**

Казка поўніцца пералівамі інтанацый, вясёлай настраёвасцю.

У кніжцы М. Бусько змешчаны аж чатыры казкі. Разлічаны гэтыя творы на чытача малодшага школьнага ўзросту. Асабіста мне больш даспадобы прыйшлася казка «Павучок і пчолка». Радок у ёй вельмі рытмічны, прасякнуты шматлікімі сугуччамі слоў, якія нітуюцца, бы павуцінка, і прамаўляюцца з жывым апавядальніцкім імпэтам:

**Ад лісцінкі**<br>
**да сучка**<br>
**без кручка,**<br>
**без чаўнача**

**цягне,**<br>
**цягне**<br>
**павучынку**<br>
**і не ведае**<br>
**спачынку,**<br>
**сетку вяжа**<br>
**павучок,**<br>
**пачапіўшы на сучок.**

У казцы «Ракавінка», як падаецца, зацягнута экспазіцыя. Казцы «Вецер Шкляр» бракуе цікавасці, напружанасці дзеяння, незвычайнасці канфлікту. А напрыканцы «Казкі-загадкі», мусіць, не варта было падаваць адгадку, бо яна і так прыходзіць сама па сабе. Урэшце, трэба памятаць і пра тое, што малога чытача важна заінтрыгаваць, абудзіць у ім дапытлівасць, цікаўнасць.

### *Зігзаг другі.*

## *ПРА ПАЭЗІЮ ДАРОСЛУЮ І ДЗІЦЯЧУЮ*

*Дарослая паэзія часам пачынае стамляць і, калі мовіць шчыра, нават надакучаць. Чаму? Ды з тае прычыны, што ў кнігах лірыкі, часопісных публікацыях нярэдка пераважае правільна-разважнае ці нуднае вершапісанне, а не Паэзія. Не сказаць, каб многім сучасным паэтам бракавала культуры мыслення, майстэрства слова, надзённасці. Здаецца, чаго яшчэ жадаць. Але праглядаецца таксама іншае: вобразная аднастайнасць, змрочнагнятлівыя настроі /крыжы, магілы, малітвы перад крывавай чашай, юды, груганы.../ Назіраецца няшчадная эксплуатацыя адраджэнскай тэматыкі, гучаць перапевы матываў чарнобыльскага смутку. Паспрабуй сябе настроіць на ўспрыманне пафаснай адраджэнскай патэтыкі вершатворцы, які ў рэальным жыцці ўсяго толькі дэмагог-перараджэнец, бо ў імя гэтага Адраджэння нічым не жадае ахвяроўваць. Не стае нашай лірыцы жывой трымклівасці пачуцця, душэўнай першароднасці самавыяўлення, адзінанепаўторнага, нязмушанага гучання слова-эмоцыі. Вал вершаванай прадукцыі для некаторых стаў ледзь не самамэтай: паэты Б., Л. і М. ледзь не кожныя два-тры гады ціснуць тоўстыя кнігі ЛІРЫКІ...*

*Таму радуюся, што сённяшняя паэзія для дзяцей далёкая ад аднатоннасці, уніфікацыі, зададзенай прагматычнай вершатворчасці дарослых дзядзек і цётак. Часта проста дзівуешся, як непазнавальна пераўвасабляецца той ці іншы паэт у сваіх творах для маленькіх чытачоў, бо спасцігаюцца чуйным адкрывальнікам цуду, хараства, выказвае сябе шчыра, з асаблівай настраёвасцю пачуццяў, вельмі далёкіх ад беспрасветнага мінору, панылых вобразаў-эпітэтаў. Памятайма, што дзіцячая паэзія, як і дарослая, не церпіць рамесніцкай халоднасці, няшчырасці, нуднай абстрагаванасці, маловыразнай апісальнасці.*

## КАБ «НЕ БЫЛО РАДКОЎ ТАМ ЛІШНІХ»

У «Запаветах для дзіцячых паэтаў» К. Чукоўскі пераканальна даводзіць, што «літаратурныя вартасці дзіцячых вершаў павінны вымярацца тым жа самым крытэрыем, якім вымяраюцца літаратурныя вартасці ўсіх іншых вершаў». І з высокай патрабавальнасцю зазначае: «... Паэзія для маленькіх павінна быць і для дарослых паэзіяй!» Сапраўды, пісаць для дзяцей ніколькі не лягчэй, чым для дарослых. Няўдалыя, нецікавыя творы, якія пачуе-прачытае малы чытач, могуць адбіць усялякую ахвоту да чытання, да паэзіі, беларускай кніжкі. Таму вока часам крытычна, а мо, даруйце, крыху і прыдзірліва запынялася на паасобных старонках ды радках новых кніжак.

Найперш там-сям кінуліся перапевы знаёмага. А Пісьмянкоў у невялічкім вершы «Карась» яўна паўтарае чутае намі яшчэ з буквара параўнанне «зловім карася, як парася», якое тут асноўны вобразны сродак і нібыта павінна ўразіць.

Прачытаеш у «Калыханцы» М. Чарняўскага пра ката, які «шыбаваў дамоў наўпрост, наступіў сабе На хвост» і адразу згадваецца рытміка песенькі пра няўклюднага мядзведзя: «И шагая через мост, наступил лисе на хвост». А мо і невялікая ў тым бяда, што надараюцца параўнанні-блізняты ды знаёмыя інтанацыі?..

Гэта ўжо аксіёма, што прывучаць дзяцей да працы неабходна з ранняга маленства. Таму зразумелы намер паэтаў выхоўваць павагу да працы, паэтызаваць працалюбства, распавядаць пра шматлікія прафесіі. І нічога ў гэтым дрэннага няма. Выклікае ўнутранае пярэчанне, калі тэма працы вырашаецца ў традыцыйназвыклым ключы, павярхоўна ды ілюстрацыйна. Поруч з цудоўнымі вершамі «Працавітыя швачкі», «Шаўцы-яноты» ў С. Шушкевіча сустракаюцца радкі безадносна-агульныя, банальныя /прыблізна гэтак выказваўся яшчэ Я. Журба/:

**Дзеці выбеглі на поле,**<br>
**Сёння ўвесь загон прапалюць.**<br>
**Вучні ўмеюць працаваць,**<br>
**Сваім мамам памагаць.**

*/«Зацвітаў на полі лён»/*

Прымітыўная, банальная дыдактыка — галоўны хіб многіх вершаў Х. Гурыновіча і М. Бусько. Агульшчынай, адкрытай устаноўкай на павучальнасць грашыць апошні ў вершы «Юннаты»:

**Малайцы юннаты —**<br>
**Ураджай багаты.**<br>
**Вучацца выдатна**<br>
**І да працы здатны.**

Ягоны верш «Жнівень» у мастацкіх адносінах таксама не лепшага гатунку. Апавядальна-сухі тон, бясколернасць пануюць тут:

**Рухавік няспынна**<br>
**Цэлы дзень гудзе...**<br>
**Спрытную машыну**<br>
**Тата наш вядзе.**

**Гэта і не дзіва —**<br>
**Вопыт у яго:**<br>
**За штурвал садзіцца**<br>
**Больш за дваццаць год.**

Успрымаюцца гэтыя радкі як вершаваная заметка вучня ў райгазеце. Увогуле М. Бусько не заўсёды ўдаецца пісаць выразна, даходліва. Прыкладаў, каб дазваляла газетная плошча, можна было б прывесці шмат. Акрамя таго, хацелася б пажадаць паэту імкнуцца да лаканізму, глыбей засяроджвацца на выяўленні сваіх пачуццяў у слове, вобразе, радку.

У горшых традыцыях так званай дзіцячай савецкай паэзіі напісаны наступныя вершы Х. Гурыновіча:

**За Папаніна гарою**<br>
**І сябры мае, і я:**<br>
**Наша вуліца героя**<br>
**Носіць слаўнае імя.**

*/«Глобус — рэбус»/*

**Дрэнна вучышся ты, Сцёпка,**<br>
**І на Марс ты не гатоў,**<br>
**Мелі ў дзённіках пяцёркі**<br>
**І Гагарын, і Цітоў.**

*/«Буду касманаўтам»/*

Таксама бракуе Х. Гурыновічу вобразнавыяўленчай важкасці слова, яго мілагучнасці: «кола з воза на калу», «зазвінеў шкляны ставок на марозе сталлю», «Хвост адлаў і стала рыссю тое воблака ў свой час» і інш. Месцамі не на карысць паэтычнаму радку невыразная рыфмоўка альбо яе адсутнасць. Не прэтэндуюць на вобразную арыгінальнасць так званыя каляндарныя вершы «Маміна свята» і «На ёлцы».

Як бачым, недахопаў ды пралікаў нямала, асабліва ў першых кніжках для дзяцей. Можна засмуціцца, што ў зборніках, адрасаваных малодшым школьнікам, няма вершаў пра нашу беларускую гісторыю, яе лепшых сыноў і яшчэ шмат пра што. Ды будзем спадзявацца на будучыню, калі ўжо новыя кніжкі пашыраць тэматычныя далягляды дзіцячай паэзіі.

### *Зігзаг трэці.*

## *ПРЫВІД СТРАШНАГА ЗЛОДЗЕЯ*

*Сённяшні абсурдны, вычварны час пераходу да жаданага рыначнага раю яўна не спагадае беларускай дзіцячай кнізе, увогуле маленству. Мала хто клапоціцца як пра духоўнае, так і фізічнае пачуванне маленькіх грамадзян. У іх настойліва адбіраюць усё, што толькі можна: цацкі і кніжкі, цукеркі і абутак, вітаміны і лекі, кінатэатры і паркі... З'явіўся страшны, небяспечны злодзей, які хоча ўкрасці ў нашых дзяцей маленства. Мусіць, нездарма мне ўсё часцей згадваецца вобраз вялікага злодзея з рамана Чорнага «Пошукі будучыні». Ён, нібы прывід, паўстае паўсюль на нашай гаротнай зямлі. Бо тут забыліся на дзяцей, пастаянна абдзяляюць іх, недадаюць ім — гэта значыць, робяць замах на будучыню нацыі. Зайдзіце, напрыклад, у кнігарню. Паліцы напаўпустыя альбо іх запаўняе літаратура на рускай мове, цэны на якую дужа куслівыя. Увішныя прадпрымальнікі і гандляры найперш дбаюць пра ўласную кішэню, таму дзіцячыя кніжкі на роднай мове, што з цяжкасцямі прабіваюцца на свет, не цешаць сваімі накладамі. І гэта ў пару нацыянальнага Адраджэння, калі клопат пра дзіцячую беларускую кнігу павінен быць асаблівы!*

## «ЗЗЯЕ РАДАСНА ВЯСЁЛКА»

... Перагорнута апошняя старонка новай кніжкі. На гэты раз з маімі дзецьмі, якія былі не толькі слухачамі, але міжволі сталі і строгімі экспертамі. Па іхніх вачах адчуваю, якія з твораў спадабаліся больш, якія менш. Радкі, што запалі ў памяць, асабліва дасціпнажартоўныя, згадваем амаль увесь дзень. Мне і самому становіцца радасна, крыху бесклапотна і гулліва. А ноччу маю ісотуту агарнуў дзівосны сон: нібыта бягу я з дзятвою па стракатай вясёлцы да зыркага сонейка. На ранку падумалася, што гэтая каляровая ўява мусіць навеяна малюнкам Машы Гарулькі, вучаніцы 20-й школы г. Мінска, якая з дзіцячай шчодрасцю фарбаў, вобразнай непасрэднасцю афарміла «Вярэньку» М. Чарняўскага. Шчаслівая гэта ўцеха — вяртацца ў свет маленства...

**Алесь БЕЛЬСКІ**

***Аўтар нататкаў абапіраўся на кніжкі: М. Бусько «Ад галінкі да сучка — тэлефон у павучка», Х. Гурыновіча «Пасадзім па дрэўцу», А. Пісьмянкова «Заўзятары», М. Танка «Лемантар», М. Чарняўскага «Вярэнька», С. Шушкевіча «Непаседлівыя вавёркі», А. Якаўлевай «Мае сябры — басаногія вятры».***



Сярод кніг

## НЕ ЗАБЫЦЬ НАМ ГЭТА...

Кніжка апавяданняў, нарысаў «Пабрацімы» /укладальнікі М. Пазнякоў і Б. Чайкоўскі/ — яе адначасова выпусцілі выдавецтвы «Юнацтва» і «Веселка» /адпаведна на беларускай і ўкраінскай мовах/ — прайшла, можна сказаць, незаўважана. А шкада! Якіх бы палітычных поглядаў мы ні прытрымліваліся, як бы ні ставіліся да свайго мінулага, але пра гераізм народа ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі нельга маўчаць, як і не даравальна забываць таго, што побач з дарослымі ў шарэнгі актыўных барацьбітоў за свабоду станавіліся дзеці.

Сёй-той гатовы растлумачыць гэта камуністычнай прапагандай, якая, маўляў, дзеля дасягнення ўласных мэт нікога не шкадавала. Можа, у нейкай ступені і так. Ды хіба ад гэтага меней значным становіцца подзвіг тых, хто ў суровую для радзімы гадзіну стаў на яе абарону? Хіба не застанецца ў народнай памяці подзвіг Марата Казея? А кніжка ж «Пабрацімы» — пра іх, юных герояў вайны, беларускіх і ўкраінскіх хлопчыкаў і дзяўчынак. У тым ліку і пра М. Казея /змешчаны тут старонкі «Апавяданняў пра Марата Казея» С. Шушкевіча/.

Сярод персанажаў кнігі — і канкрэтныя асобы, і тыя, чые вобразы народжаны аўтарскай фантазіяй. Скажам, тут змешчаны вядомыя апавяданні «Васількі» М. Лынькова і «Зялёная школа» Я. Брыля.

З украінскіх аўтараў змешчаны творы Ю. Яноўскага, П. Панча, Я. Гуцалы, К. Грыба, І. Выргана, А. Давыдава і многіх іншых. Яны, як і творы беларускіх пісьменнікаў, паказваюць, наколькі страшнай была мінулая вайна, якія разбурэнні нёс з сабой фашызм.

Большасць апавяданняў украінскіх аўтараў перакладзена на беларускую мову М. Валошкам /два ўзноўлены Л. Салаўём, адно — М. Зарэмбам/. Звычайна, пра пераклад з блізкіх моў амаль нічога не гавораць: маўляў, і так усё зразумела, шмат жа падобных слоў. І ўсё ж не магу не адзначыць, што М. Валошку тут спадарожнічае сапраўдны поспех: па-беларуску творы ўкраінцаў гучаць гэтаксама шчыра, натуральна.

Карацей кажучы, ёсць усе падставы гаварыць пра кніжку «Пабрацімы» як пра неабходную і своечасовую для дзятвы. І беларускай, і ўкраінскай.

**Т. Т.**

## ВЫДАДЗЕНА Ў ГОРКАХ

У апошні час у Горках з'явіліся новыя брашуры і кнігі, якія ўяўляюць цікавасць не толькі для мясцовых жыхароў.

Па-першае, брашура «Максім Гарэцкі — жыццё і творчасць» /метадычны матэрыял і парады ў дапамогу прапагандыстам кнігі/, падрыхтаваная Горацкім гістарычна-этнаграфічным музеем і выдадзеная на сродкі Магілёўскай абласной арганізацыі таварыства «Кніга». У брашуры можна знайсці прыкладны сцэнарый літаратурнага вечара «Таленавіты сын Магілёўшчыны», спіс літаратуры аб жыцці і творчасці М. Гарэцкага, што выйшла за апошнія гады, спіс выданняў твораў пісьменніка, віктарыну і артыкул пра асноўныя моманты жыцця і творчасці М. Гарэцкага.

Даведнік «Горки и окрестности» /аўтар У. Ліўшыц/ выдадзены ў Оршы за кошт сродкаў горацкай фірмы «Трымакс» /дырэктар М. Трыфаненка/. Расказваецца аб гісторыі Горак, вуліцах і плошчах, памятных мясцінах горада і наваколля, знакамітых земляках. Чытач знойдзе інфармацыю аб розных службах горада і ўсіх відах паслуг, якія можна атрымаць у Горках.

Не забываюць у Горках і аб паэзіі. Па ініцыятыве Горацкага гістарычна-этнаграфічнага музея і на сродкі раённага і гарадскога Савета народных дэпутатаў, аддзела культуры райвыканкама, таварыства «Верасень» друкарня БСГА выпусціла кніжку паэтэсы Ніны Кавалёвай /яна інвалід першай групы, жыве ў Горках/ «Напиток певчих птиц».

Гэтыя выданні можна набыць, калі зрабіць заяўку па адрасе, 213410, Магілёўская вобл., г. Горкі, зав. Якубоўскага, д. 2, Горацкі гістарычна-этнаграфічны музей. Кошт даведніка «Горки и окрестности» — 200 руб., зборніка вершаў «Напиток певчих птиц» — 140 руб. Кнігі высылаюцца накладной платай.

**М. СТУДНЕВА,**<br>
**супрацоўніца музея**

Паэзія

Мікола МАЛЯЎКА



## АДРАДЖЭННЕ

*Ніну ГІЛЕВІЧУ*

**Навальнічныя хмары над краем,
І не гаснуць паходні ў руках —
Мы шляхі Адраджэння шукаем
У мінулых вяках.**

**Абакралі духоўна суседзі,
Апаганілі наш радавод,
І не ведаюць працнураў дзеці,
І марнее без мовы народ.**

**Да крыві адкрываюцца тайны,
Да магіл праясняецца свет —
Першадрукі Скарыны чытаем,
Каліноўскага ліст-запавет.**

**Як у лесе, бывае, блукаем,
Выкарчоўваем злыбеды пні —
Мы шляхі Адраджэння шукаем
У сягоннянішнім дні.**

**Прадзіраемся ўдзень, як уночы,
Праз хлусні і зняваг буралом,
Не на ісціны голас прарочы,
А за рэхам часамі ідзём.**

**Падымаем не крыўду, не зброю,
Падымаем вышэй, як штандар,
Багушэвіча слова жывое
І Купалавай спадчыны дар.**

**Навальнічныя хмары над краем,
І не гаснуць паходні ў руках —
Мы шляхі Адраджэння шукаем
У наступных вяках.**

## АТАМНЫЯ ВУЛКАНЫ

*На Бога спадзявайся,
на чорта наракай,
ды сам маху не давай.*
*Прыказка*

**На зямлю маю, напэўна,
Бог спагадным вокам глянуў,
І на ёй, крынічнай, спеўнай,
Не было здаўна вулканаў.**

**Клаў народ жыццё на плаху,
Ды прайшла вайны навала —
І стыхійнай смерці страху
Мы не ведалі, бывала.**

**Там, дзе красавала ніва,
Там, дзе дыхаў луг духмяны,
Самі мы ўзвялі рупліва
Станцый атамных вулканы.**

**Гаспадарылі як дзеці,
Бы рэактар выбуховы —
Гэта тая ж печ надзейная,
У якой палаюць дровы.**

**І вулкан жыццё захмарыў,
І цяпер яшчэ, патухшы,
Ён нявечыць нашы мары,
Нашы сэрцы, нашы душы.**

**Расцяклася скрозь імклівa
Лава страшнай небяспекі —
Апыліла нашы нівы,
Атруціла нашы рэкі.**

**На зямлю маю, напэўна,
Чорт нядобрым вокам глянуў,
І паліс над ёю, спеўнай,
Вырак атамных вулканаў.**

●

**На шчасце, помню,
Салаўі спявалі
За кожнай вёскай нашай уначы.
І серабрыліся рачныя хвалі,
Святло ў душу бяссонную льючы.
Прыйшло яно,
Чарнобыльскае ліха, —
І павуціна тчэцца на акне,
І птушкі пеўчыя лятаюць ціха,
Нібыта ў нейкім
Летаргічным сне.
Маліся, брат!
Над беднаю айчынай
Нябёсы сцьмелі ад жалобных хмар,
А на зямлі, калісьці салаўінай,
Сабакі выюць,
Быццам на пажар.**

## ПАКЛАНІСЯ ДНЮ

*Уладзіміру ЛІПСКАМУ*

**Дружа мой прыўкрасны, мы — не вечныя.
Падстаўляй даждку і сонцу твар,
Кожны дзень, ад раніцы да вечара,
Успрымай душой, як божы дар.**

**Жыта сей, касі траву мурожную,
Закалыхвай яблыкі ў кашы.
Даражы ў жыцці гадзінай кожнаю,
Кожнаю хвілінай даражы.**

**Абнадзей вандроўніка нязчаснага,
Па галоўцы сірату пагладзь.
Пажадай дабра сваім нашчадкам
Кожны раз, калі кладзешся спаць.**

**Хоць у думках пралятай над пожнямі,
Абдымай бярозку ці сасну,
Быццам гэта ноч твая — апошняя,
Быццам ты не выплывеш са сну.**

**Зоркі ў небе дагараюць свечкамі.
Сонца ўсходзіць, як упершыню.
Дружа мой прыўкрасны, мы — не вечныя:
Ноч правёўшы, пакланіся дню!**

●

**Адыходзяць сябры —
Як на фронце,
І адзін за адным,
І па двое.
Ад нагрузак зямных
І ад стронцыю
Разрываецца
Сэрца жывое.**

**Разам мы
Летуценілі смела,
Жартавалі,
Смяяліся ўчора.
А сягоння —
Плячо засмылела
Ад цяжару труны
І ад гора.**

**Хто наступны?
Жывым невядома.
О загадкавы
Лёс чалавечы!
Расстаёмся,
Але — ненадоўга.
Да сустрэчы, сябры,
Да сустрэчы.**

## ЖАНЧЫНА

**Не спім, сумуем, усміхаемся,
А вінаватая — яна:
За шлюб без памяці змагаемся,
Нібы аб'яўлена вайна.**

**У наступ, ад пяшчоты п'яныя,
Ідзём, бывае, напралом,
Каб паланіць яе, каханую,
Хто ласкай ціхаю, хто злом.**

**Яна танюсенькая, хілая,
Ды ў гэтай слабасці — метал:
Не возьмеш грубасцю і сілаю,
Няхай ты нават генерал.**

**Перамагаем, адступаючы:
Яна сама губляе сон,
Яна сама тады без памяці
Бяжыць і просіцца ў палон.**

## УСЕ МЫ ХОДЗІМ ПАД БОГАМ

**Усе мы ходзім пад Богам,
Хто прама, хто сцежкай крывой.
Нялёгка жыць на Зямлі,
Прыгнечанай вечнай трывогай,
Залітай слязьмі і крывёй.
Усе мы ходзім пад Богам.**

**Усе мы ходзім пад Богам,
А святасці ў сэрцы — няма.
І што нас чакае там,
За новага веку парогам?
Мо ядзерная зіма?
Усе мы ходзім пад Богам.**

**Усе мы ходзім пад Богам —
І ўспомніць пра гэта пара,
Каб стала наша Зямля
Сусветным храмам любові,
Сусветным храмам дабра.
Усе мы ходзім пад Богам.**

Проза

Лёшка прахапіўся сярод ночы...

Ён ужо колькі тыдняў адчуваў, што з ім нешта адбываецца, нават не з ім, а вакол яго. Нешта насоўваецца, сціскаецца, а ён не можа зразумець, што ж гэта такое — халоднае і цяжкае, як восеньская вада.

...У дзяцінстве яму давялося перажыць вясновую паводку. Вада насоўвалася на вёсачку, заліла яе, і два дні давялося сядзець на гарышчы дзелавай хаты і глядзець праз маленькае ваконца на цёмнае, да самага далягляду, мутнае мора. Ні холад, ні плач бабы, ні роспачнае рыканне каровы не палохалі. Жах і смяротная небяспека сыходзілі ад ракі, якая насоўвалася на вёску, хавала кусты, сцежкі, платы і нізенькі ганак. Лёшка сядзеў на гарышчы пад астылым комінам, а на каленях трымаў котку, хаваў азяблыя пальцы ў густую шэрую поўсць. Тады яму было гадоў пяць з паловай...

Лёшка падышоў да вакна і адсунуў край фіранкі. Грабеньчык штыкетніка з выламанымі зубкамі, крывая вішня, кусты, ліхтар і пустая вуліца. Ён апусціў край фіранкі і пайшоў да другога вакна: калюгі, бліскучы лёд, цёмны абрыс суседняга барака з нежывымі завешанымі вокнамі.

Потым ён доўга ляжаў на канапе і разглядаў жаўтлявы прамакутнік святла на стале. Узіраўся так уважліва, быццам за свае трыццаць гадоў бачыў столь свайго дома ўпершыню. Ён прыпальваў цыгарэту ад цыгарэты і атрасаў попел на падлогу.

...Два тыдні таму ў бітма-набітым аўтобусе Лёшка зрэзаў дамскую сумачку. На наступным прыпынку вылез, а жанчыну ў карычневым скураным паліто аўтобус павёз далей, да чыгуначнага вакзала. Падцягваючы правую кульгавую нагу, падаўся ў двары, да ржавых гаражоў. Было па-вясноваму брудна і мокра, але ён знайшоў прыдатнае месца — вузкі тупік пад бетонным парканам. У сумачцы ляжалі жоўтая скураная партманетка, маніста ключоў, пашпарт, памада, насоўка, люстэрка, прыгожы грабеньчык і даведка з паліклінікі. Пачак грошай узрадаваў і спалохаў, бо яшчэ ніколі яму не даводзілася трымаць у руках столькі пяцітысячных паперак. Сумачку з усім начыннем ён тут жа выкінуў, запхаў пад вугал гаража, у ямку з розным ламаччам і смеццем, а пашпарт і прыгожую партманетку схаваў пад кашулю.

Дома ён доўга вывучаў пашпарт і білет на самалёт да Растова...

За свае трыццаць гадоў ён так ні разу і не лятаў на самалёце...

Жанчына была на год маладзейшая за яго, мела шасцігадовую дачку, два няўдалыя шлюбы, бо і першы, і другі скасоўваліся. Здзівіла гучнае імя — Рэгіна, а вось твар не спадабаўся ні на першым, яшчэ дзявочым, ні на другім здымках. Білет ён спаліў са спачуваннем, а пакуль зеленкаватая паперка курчылася ў полымі і ператваралася ў попел, яму думалася пра неба, аблокі і пра тое, якімі ж дробненькімі падаюцца з вышыні гарады, вёскі і людзі. Адтуль, з-пад аблокаў, чалавека немагчыма разгледзець, і не відаць, прыгожы ён ці калека, высокі ці маленькі, як карлік, — усе аднолькавыя.

А грошы і пашпарт Лёшка схаваў. Пра схованку ведала толькі Кася.

Калі ў роце зрабілася горка і суха ад тытуню, Лёшка папіў вады і вярнуўся на канапу. Кася ляжала на жалезным ложку і сачыла за ім.

...Глухаватая Касцючыха — Лёшкава баба, пасля таго, як выйшла на пенсію, працавала колькі гадоў прыбіральшчыцай у заводскай канторы. Яна пражыла дзевяноста гадоў, а праславілася тым, што знесла з дырэктарскага кабінета будзільнік. Украла, схавала ў панталоны, а калі выходзіла праз прахадную, гадзіннік пачаў званіць. Ён зазваніў раней, яшчэ да прахадной, але старая не пачула, а вось мужчыны з чырвонымі павязкамі на рукавах і ў форменных картузах, што стаялі на два бакі ад бліскучай круцёлкі, пачулі і злодзея затрымалі. Старую звольнілі, і ў дадатак яна займела мянушку — «Будзільнік». Нават Лёшка, калі злаваў, звяртаўся да бабы не інакш, як па мянушцы...

Лёшкава маці, дачка Касцючыхі, славу займела яшчэ большую. Яна адсекла свайму мужу, дробненькаму і злоснаму, як абшчыпаны пеўнік, сантэхніку Хведару Міхальчуку, галаву...

Яна здзейсніла абяцанне, якое чулі ўсе суседзі і ведалі ўсе знаёмыя, але ніхто такім абяцаннем, як водзіцца, веры не дае.

Упершыню ў "ЛіМе"

# «Я СЦЕЖКУ ДА ЦЯБЕ ШУКАЎ...»

Вячаслаў КОРБУТ



***Слуцкая зямля заўсёды была шчодрая на таленты. Вось і яшчэ адзін случак падаў голас. Знаёмцеся — Вячаслаў Корбут.***

***Вячаславу — дваццаць гадоў. Ён студэнт філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта. У яго свой свет і свае фарбы. «Дарога да сябе, яе шукаю» — прызнаецца Вячаслаў у адным з вершаў. Прызнанне шчырае і вартае ўвагі і павагі, асабліва калі ўлічыць, што дарога да сябе — дарога няпростая.***

***Алесь ПІСЬМЯНКОЎ***

●

**Дарога да сябе, яе шукаю,
Малыя дні і ночы з ліхтаром...
За грукатам паўночнага трамвая,
Я не знайшоў вялікі светлы дом.**

**Мінуў трамвай і, вецер падхапіўшы,
Іржавы ліст нясе яго за ім...
Вось так і я, глыток вады адпіўшы,
За ветрам мкну, як млосны серафім.**

**На позірк зоркі вочы закрываю,
Які вялікі свет хвіліну жыў!
Я жыць хачу у грукаце трамвая,
Дзе рух і ноч, як вечныя нажы.**

**А гэты дом, разрэзаны стагоддзем...
Я не знайшоў паверха і акон.
Як ліст, кружу у вечным карагодзе,
Ці я жыву, ці гэта толькі сон?**

●

**Я сцежку да цябе шукаў
Сярод ламачча і лістоты.
А ноч з асеннаю самотай
Мяне пужала сярод траў.**

**Лісты марную, як жыццё,
Чытаю памяці старонку,
А вершы б'юць па сэрцы звонку
І крышаць лёд, зімовы лёд...**

●

**Вы мяне не забыліся, не,
Нас з'яднала апошняя восень.
Ваш самотны партрэт на сцяне
Толькі думкі жывыя прыносіць.**

**У вачах пацалунак душы.
Лістапад і журбота, журбота...
Маёй свечцы згарэць у глушы,
Вашай свечцы — каханне ды цнота.**

**Я аднойчы прыйду туманом
І ахутаю вашыя плечы,
Прынясу Вас у яблычны дом,
Дзе партрэт і вясёлыя свечкі.**

Уладзімір СЦЯПАН

# ЛЁШКА-ЛІЛІПУТ



НАВЕЛА

...А яшчэ раней старэйшы сын, васемнаццацігадовы Лёшкаў брат Мікіта па мянушцы Буян, выбіў бацьку вока. Лёшка добра памятаў той святочны вечар: сядзелі ўсёй сям'ёй і выпівалі, ціхамірна гамапілі, потым заспрачаліся, бацька не саступіў, і Мікіта схапіў са стала відэлец і дзеўбануў бацьку ў твар. Правае вока выцекла. Потым яго замянілі шкляным, але калі хто не ведаў той гісторыі з відэльцам, то і не здагадваўся, чаму сантэхнік Міхальчук так смела глядзіць на яго правым вокам.

Мікіта сышоў з дому. А праз якія паўгода за згвалтаванне непаўналетняй дурненькай Валькі з суседняй вуліцы Мікіту пасадзілі. Замест таго, каб ісці на два гады ў войска, павезлі Буяна ў Казахстан на восем гадоў...

...А яшчэ праз год аднавокага Хведара Міхальчука правялі ў апошні шлях. Пахавалі пад вялікай крывой сасной. Яе вясной паваліў вецер, і яна зламала ржавую агароджу і блакітны крыж.

...За наўмыснае забойства мужа жанчына атрымала адзінаццаць гадоў.

Лёшка не любіў ні бацьку, ні маці, ні брата, бо замест шкадавання і любові брат і бацькі грэбавалі кульгавым, дробненькім хлопчыкам і ніяк не хацелі лічыць яго сваім.

Адно, хто шкадаваў яго — старая Касцючыха, якая, як і Лёшка, не любіла ні дачку, ні зяця, ні старэйшага ўнука.

Пасля ўсіх судоў васьмігадовага Лёшку хацелі забраць у інтэрнат, але старая сабрала даведкі, абхадзіла розныя ўстановы і пераканала, што хваравіты сірата Лёшка мусіць жыць з ёй.

Усе тыя жахлівыя падзеі хлопчык перанёс спакойна, яму было восем, ён яшчэ не вельмі разумеў, што і да чаго ў гэтым жыцці. Ён глядзеў на свет насцярожана, а ў шэрых, як сухія каменьчыкі, вачах ужо даўно перасталі з'яўляцца слёзы. Ён ківаў у адказ глухаватай бабулі і прыгладжваў цыганскія валасы доўгімі пальцамі з бруднымі пазногцямі...

Бабуля ўнука шкадавала і супакойвала, раіла не наракаць на жыццё, не сварыцца на Бога, бо спадзявалася, што і яму, кульгаваму і дробненькаму, знойдзецца месца і хопіць сонца. А яго калецтва — гэта памылка, пакаранне за грахі бацькоў, за тое, што неўтаймаваны Хведар біў жонку, а яна піла і пра дзяцей не дбала, а потым яшчэ засекла мужа...

Лёшка не любіў згадваць сваё жыццё, бо радаснага там было мала — дробныя кроплі ў бясконцай чарнаце і сцюжы.

...Першы раз ён залез у чужую кішэню і выцягнуў тры пакамечаныя рублі ў другім класе, калі пазайздросціў суседскім падлеткам, якія пакуплялі сабе чорныя пластыкавыя акуляры. Лёшка выцягнуў грошы з кішэні доктаркі, якая прыйшла зрабіць укол старой Касцючысе. У той жа дзень ён кульгаў па двары ў карычневых акулярах, якія былі завялікія на яго вузкім бледным твары. Суседскія падлеткі смяяліся, потым штурхнулі, акуляры зляцелі, і Лёшка сам расціснуў іх кульгавай нагой. Ён не адчуў ні сораму, ні страху, калі краў грошы, а толькі радасць ад таго, што, як і іншыя, як усе, ён будзе мець тыя цёмныя акуляры і нічым не будзе вылучацца з гурту аднагодкаў...

Яго ніхто не вучыў складанаму і вытанчанаму майстэрству кішэннага злодзея, ён сам, спакваля зрабіўся майстрам, і ў чатырнаццаць гадоў за паўдня мог здабыць дзве-тры партманеткі ці насоўку, у якой вясковая кабета хавала пакамечаныя траячкі — вынік удалага гандлю на гарадскім кірмашы.

Ён навучыўся рэзаць у перапоўненых аўтобусах і цягніках сумкі, прасоўваць доўгія чуйныя пальцы за крысо паліто ці ватоўкі і вышморгваць ці павольна вымаць тонкія кашалькі, нататнічкі з тэлефонамі і грашамі.

Толькі двойчы яго злавілі. У прыгарадным аўтобусе прыціснулі да высокага мужчыны ў шэрым капелюшы і доўгім габардзінавым плашчы. Лёшка не меў намеру красці, але сітуацыя была настолькі ўдалай і прыдатнай, што не стрымаўся, і левая рука слізганула ў кішэнь плашча. Кончыкамі пальцаў ён заціснуў кашалёк і па штуршках аўтобуса пачаў выцягваць. Кішэня была глыбокая, і ён не паспеў. Мужчына заціснуў яго руку, і яны разам выйшлі з аўтобуса. Боль быў нясцерпны. Здавалася, што яшчэ імгненне — і захрубасцяць, раструшчацца пальцы. На прыпынку мужчына пачаў біць Лёшку. Ён трымаў, як ціскамі, яго руку ў кішэні, а вольнай рукой біў па твары. Лёшка назаўсёды запомніў той халодны позірк, тую задаволеную ўсмешку тонкага, як шнар, рота. Мужчына разбіў яму нос і губы, але кроў яго не спыніла, і ён пачаў выкручваць руку і штурхаць каленам у жывот. Тады адратавалі жанчыны. Яны пачалі крычаць, спалоханыя крывёй, і мужчына адштурхнуў падлетка на лаву. Лёшка ўпаў спіной на востры кант, скукожыўся, але падхапіўся і, кульгаючы, сагнуты пабег да прыпынку праз дарогу, ледзь не патрапіўшы пад тралейбус. А той, у шэрым плашчы, выцер рукі насоўкай і крыкнуў у твар жанчынам: «Каго бароніце, злодзея, злодзея!» Але Лёшка не чуў, ён не азіраўся, сыходзіў, знікаў з таго месца...

Калі загаіўся збіты твар, а пальцы пачалі згінацца, Лёшка ізноў узяўся за сваё. Але пасля таго выпадку ён уцяміў, што лепш красці ў п'яных мужчын, якія стомленыя вяртаюцца з працы, і што тыя — прыгожа апранутыя, заўсёды напагатове, у адрозненне ад рабочых...

Другі раз яго злавілі цыганы. На вакзале, сярод заўсёднага тлуму і мітусні, калі ўсе лезуць да маленькіх вакенцаў па білет, па кардонныя прамакутнічкі, Лёшка заўважыў маладую цыганку, стракатую ад хустак і спадніц, якая зняла пярсцёнкі і схавала ў кішэню блакітнай, як восеньская калюга, курткі. Кішэня зашпільвалася металічнай «маланкай». Цыганка палезла без чаргі да касы, а Лёшка падаўся следам. Натоўп віраваў, сварыліся, цыганка адказвала на кожную абразу і паступова набліжалася да вакенца з заціснутымі ў руцэ грашамі. Лёшка як прыклееены рухаўся за ёй. Калі цыганка прасоўвала руку ў вакенца і замаўляла чатыры білеты да Буды-Кашалёўскай, Лёшка расшпіліў «маланку» і выцягнуў два пярсцёнкі, ланцужок і памаду. Ён выслізнуў з чаргі і праз высокія дзверы выбег на людны перон. Цягнік крануўся, і Лёшка ўскочыў на чорную прыступку. Натоўп, жанчыны з клункамі, дзеці, будынак вакзала павольна адплывалі...

Лёшка не заўважыў, што цыганы паспелі заскочыць у прадапошні вагон.

Ён згледзеў іх праз бруднае шкло тамбура, калі цягнік набраў хуткасць і імчаў, аддаляўся ад горада. Цыган у вялікай кепцы, у чорнай куртцы з каракулевым каўняром спрабаваў адчыніць дзверы тамбура, за ім размахвала рукамі і крычала тая, у стракатай хустцы. Лёшка рвануўся па вагоне. Ён збіваў, адштурхоўваў дзяцей, паваліў жанчыну са стосам часопісаў і газет, праскочыў адзін вагон, потым другі і схаваўся ў прыбіральні. Праз колькі хвілін жалезная ручка пачала сутаргава калаціцца, а дзверы хістацца. Вакно было зачынена, Лёшка ўскочыў на ўнітаз і выглянуў... Цягнік імчаў. Высокі адхон і цёмны хвойнік ляцелі, як кінастужка...

На прыпынку паўжывога Лёшку выкінулі на платформу, выкінулі, як анучу — скрываўленую, брудную, падраную і непатрэбную...

Цыганы яго так змясілі, што старая Касцючыха ледзь не самлела, калі ўбачыла ўнука на парозе. Лёшка праляжаў месяц. Ён мачыўся і харкаў крывёй, скрыгатаў зубамі, калі спрабаваў сесці ці стаць на ногі, але адышоў. І зарокся — з цыганамі не звязвацца.

Ён не сказаў, ні хто, ні за што яго так пабіў, а прыдумаў і ўсім даводзіў, што быў п'яны і выпаў з дызеля. Яму паверылі, бо хто ж так можа паздзекавацца з калекі, з маленькага кульгавага падлетка...

За акном пачало святлець. На стале знік прамакутнік жаўтлявага святла, а ліхтар амаль зліўся з небам. Загрукаталі дзверы, за сцяной прачнуліся суседзі і пачалі сварыцца. Кася саскочыла з ложка і пайшла хадзіць па пакоях. Лёшка чуў, як яна п'е ваду... Потым яна вярнулася з кухні, прайшла побач з канапай і ўскочыла на жалезны ложак.

Лёшка згадаў, як год таму, пад раніцу, ён вярнуўся дадому. Дзверы былі прычыненыя, але не замкнёныя. Лёшка прайшоў на кухню, сеў да стала і з каструлі паеў халоднага супу. Потым зайшоў у пакой. Старая Касцючыха, апранутая ва ўсё белае, ляжала на сваім ложку. Лёшка пачаў распранацца і толькі калі зачапіў шкляную попельніцу на табурэтцы і яна гучна раскалолася, разляцелася па падлозе, зразумеў, што баба не спіць... Ён крыкнуў... Перавязаў нагу, якую парэзаў аб аскепак... Апрануўся і пайшоў да суседзяў паведаміць, што старая Касцючыха, яго родная баба — ноччу памерла...

На пахаванні ён не напіўся, не мог, а вось потым піў два тыдні. Вяртаўся ў пусты дом, падаў на канапу і засынаў.

...У шостым, калі ўсе аднагодкі выцягнуліся, Лёшка застаўся, як быў, самым меншым. Нават дробненькія дзяўчаткі былі на галаву вышэй за яго. Тады нехта і сказаў, што ён — ліліпут, карлік. Па недасведчанасці націск трапіў не на апошні склад, а на першы, і падлетак атрымаў мянушку Лёшка-Ліліпут, бо ў класе быў яшчэ адзін Лёшка, цыбаты, доўгі выдатнік.

Ён любіў хадзіць у кіно. Яго пускалі без білета, бо кантралёрка, маці аднакласніка, шкадавала калеку. Аднойчы ён зрабіў жанчыне падарунак — маленькі гадзіннік. Жанчына сарамліва адмаўлялася, а ён пераконваў, што гадзіннік той знайшоў і што яму ён непатрэбны.

...Лёшка сядаў на першы рад і зачаравана сачыў за зменлівымі каляровымі выявамі, ён адчуваў сябе адным з каўбояў, героем, якога кахаюць прыгожыя жанчыны... Яму падабалася тое жыццё, якое зводзіла ад рэчаіснасці ў іншы свет, на вуліцы далёкіх гарадоў, пад цёплае сонца, да сініх хваляў акіяна. Яго сэрца трывожна калацілася, калі герою пагражала небяспека, і ён гатовы быў крыкнуць, спыніць, дапамагчы... Запальвалася святло, і Лёшка ізноў рабіўся кульгавым Ліліпутам, нікому непатрэбным...

Не, ён быў патрэбны Касі. Яна адзіная яго чакала і па-свойму любіла, бо Лёшка яе карміў і дазваляў рабіць усё, што тая хацела. Яна нават спала з ім, нягледзячы на смурод ад бясконцых цыгарэт і гарэлкі.

...А жанчыны? У Лёшкі была жанчына, якая за грошы спала з ім, але яна яго кінула, выйшла замуж за бухгалтара — лысага і тоўстага, гаваркога, як сапсаваны кран. І калі Лёшка прыйшоў да яе, прагнала, абразіла, сказала, што ён гнюсны, смярдзючы карлік, а яна жанчына прыстойная, і яе муж — чалавек салідны. А што да грошай, то яна іх сумленна адпрацавала...

Кася саскочыла з ложка, падышла да канапы і легла да Лёшкі. Яна была цёплая і мяккая, яе цела выгіналася і паслухмяна прымала ласкі, яна вуркатала і шчыльней прыціскалася да яго.

Лёшка глядзеў у столь і казаў, што ў яго шмат грошай, што ён купіць білет на самалёт і яны паляцяць на Поўдзень ці, можа, не на Поўдзень, а куды яшчэ, куды яна пажадае, туды і паляцяць.

Ён шаптаў, шаптаў, а Кася слухала і пазірала сваімі жоўтымі вачамі на яго вусны, якія рухаліся, вымаўлялі незразумелыя і непатрэбныя словы...

Потым ёй надакучыла ляжаць і яна пайшла ў калідорчык, дзе пачала спрабаваць адчыніць дзверы, але дзверы былі замкнёныя, і Кася вярнулася ў пакой.

Яна глядзела, як Лёшка адкрыў схованку, выцягнуў з-за шпалеры пашпарт і грошы. Потым сышла з кухні, бо не любіла дыму, і таму не ўбачыла, як гарэлі грошы і пашпарт, але адчувала пах дыму.

...Яму ізноў згадалася вясновая паводка, цёмная вада і той халодны жах. Згадалася мяккая цёплая котка, і таму ён адчыніў дзверы, і Кася выйшла на ганак. А потым зачыніўся ў цесным пакойчыку кухні, пусціў з усіх фаерак газ, лёг на маленькі тапчан і яму падалося, што цёмная вада, якая сціскалася вакол яго, засталася ўнізе, а ён ляціць на самалёце над аблокамі, над маленькімі постацямі людзей...

Ён не чуў, як шкрабалася ў дзверы Кася, як трывожна яна каўкала і прасілася ў дом... Ён ляцеў...



Малюнак У.СКРЫГАНАВА

***Сёлета сусветная мастацкая супольнасць адзначае 100-годдзе з дня нараджэння выдатнага мастака, беларуса Уладзіслава Стрэмінскага. Яму вызначыў лёс большую частку жыцця правесці за мяжой, у Польшчы. Як Фердынанду Рушчыцу ці Генрыху Вейсенгофу, Станіславу Жукоўскаму ці Казіміру Стаброўскаму і многім іншым, работы якіх, маючы дачыненне да беларускага мастацтва, не проста захоўваюцца ў калекцыях суседніх нам краін. Яны амаль цалкам уведзены ў кантэкст іх мастацкай спадчыны і нам, на вялікі жаль, так позна ўзгадаўшым пра свае правы на многіх «польскіх» альбо «расейскіх» творцаў, неабходны для іх вяртання не толькі час, але і вялікая ўпартасць.***

# З БЕЛАРУСКАГА РОДУ СТРЭМЯ

Уладзіслаў Стрэмінскі нарадзіўся 21 лістапада 1893 г. у Менску. Яго бацькі Максімільян Бенядыкт і Ева Разалія з роду Аляхновічаў мелі свой драўляны дом на вуліцы Гарбарскай, 21 /зараз Ульянаўская/. Бацька ўсё жыццё служыў у чыне падпалкоўніка, а ў пенсійным узросце працаваў бухгалтарам у ашчаднай касе Менска, што сведчыць аб сціплых матэрыяльных магчымасцях сям'і. Таму старэйшага «хлопчыка Уладзю» ў адзінаццацігадовым узросце вырашылі аддаць у Маскоўскі кадэцкі корпус імя Аляксандра II. Вайсковая кар'ера дазволіла і ўладкаваць сына і даць яму пры гэтым добрую адукацыю. У 1911—1914 гг. ён вучыўся ўжо ў пецярбургскім Вышэйшым вайсковым інжынерным вучылішчы. Падчас вайны як афіцэр сапёраў трапіў на фронт, на тэрыторыю Беларусі. Тут, пад мястэчкам Першаі на Наваградчыне, ён быў цяжка паранены выбухам гранаты. Дваццацітрохгадовы Уладзіслаў трапіў у маскоўскі шпіталь, дзе ў яго часткова ампутавалі левую руку і правую нагу. На адно вока ён страціў зрок.

Скарыцца з незайздросным будучым інваліда? Гэта не было выйсцем для яго. Дапамагла маладая санітарка Кацярына Кобра, яго будучая жонка. Яна сама марыла стаць скульптарам-авангардыстам, была знаёма з творчасцю куба-футурыстаў, не абмінала іх сенсацыйныя выставы. Нам невядомы развагі Стрэмінскага, але пасля шпіталя ён, па сутнасці, — ужо сфармаваны ў сваіх светапоглядах і канцэпцыях творца-наватар, хоць і не далучаны да актыўнага асяроддзя аднадумцаў. У 1918 г. ён наведвае Першыя Дзяржаўныя Свабодныя Майстэрні ў Маскве, дзе блізка сыходзіцца з К. Малевічам і У. Татліным. Але часу на сістэматычную навучальную працу яму было шкада. Не давалі спакою наватарскія ідэі, і ён надзіва актыўна ўключаецца ў мастацкае жыццё, удзельнічае ў авангардных выставах у Маскве, Разані, Віцебску. Ніхто не мог вытлумачыць, як Стрэмінскі, толькі з'явіўшыся ў мастацкім асяроддзі, стаў прафесійным творцам і адразу набыў незвычайную вядомасць!

На пачатку 1919 года ён, натхнёны вялікімі мастацкімі ідэямі, вяртаецца ў родны Менск і пачынае працаваць у Аддзеле выяўленчага мастацтва народнага камісарыята асветы. Тут раскрываецца талент Стрэмінскага як арганізатара авангарднага афармлення горада. Прыхільнік канцэпцый «вуліцы і плошчы — нашы палітры», ён аздабляе Менск усё новымі нязвыклымі формамі. Напрыклад, разам з менскім скульптарам М. Цэханоўскім стварае помнік ваяру, як заклік да адкрыцця і выкарыстання новых пластычных магчымасцяў і матэрыялаў, найбольш адпаведных сучаснасці. Такая праграма найбольш адпавядала аўтару шматлікіх канструктыўных жывапісных рэльефаў. Уклад яго ў мастацкае жыццё Менска вялізны, сляды яго дзейнасці моцным рэхам аддаюцца на працягу 20-х — пачатку 30-х гг., калі Менск пераўтвараецца ў буйны асяродак сучаснай беларускай культуры.

Восенню 1919 г. Стрэмінскі ўжо ў Смаленску, куды быў запрошаны працаваць у якасці кіраўніка сектара мастацтва аб'яднаных пададдзелаў музеяў і выяўленчых мастацтваў у тамтэйшым Аддзеле асветы. Потым — сакратар Мастацкай рады Смаленска, на той час побач з Віцебскам асяродка авангарднага мастацтва. Разам з Кацярынай Кобрай, скульптарам-футурыстам, выкладае ў мастацкай майстэрні сярэдняй школы для таленавітай моладзі. Як толькі ў Віцебску 20 красавіка 1920 г. быў створаны УНОВІС на чале з Малевічам /суполка бескампрамісных сцвярджальнікаў новага мастацтва/, туды ўвайшлі Стрэмінскі і Кобра як актыўныя сябры. У красавіку яны ўзначалілі філію УНОВІС у Смаленску. Сустракаліся з Малевічам, у якога ўжо выйшлі ў свет яго слынныя віцебскія выданні «Аб новых сістэмах у мастацтве», «Супрэматызм», абмяркоўвалі надзвычай далекасяжныя творчыя праекты, тэарэтычныя распрацоўкі мастацтва будучыні. Ідэі абодвух былі блізкімі, хоць кожны шукаў свайго ўласнага шляху. Блізкасць творцаў падмацавалася і іх шлюбам на пачатку 1922 г. Гэта самаахвярная жанчына гатова была апекавацца Стрэмінскім, непаўнацэнным фізічна. Але яна стала і паплечніцай мастака. Надзвычай таленавітая асоба, па лініі бацькі з нямецкага роду фон Кобра, яна стала прадстаўніцай самых радыкальных тэндэнцый авангарда Беларусі пачатку 1920-х гг.

Новы этап у сумесным творчым і асабістым жыцці Стрэмінскіх пачынаецца ў сярэдзіне 1922 г., калі яны вырашылі пераехаць у Вільню, да родных Уладзіслава — маці, брата, сястры. Гэта было абумоўлена ціскам з боку непрымірымых апанентаў «левага мастацтва», што прывяло да спынення дзейнасці УНОВІСа ў Віцебску і Смаленску. З другога боку, узнікала натуральная неабходнасць несці назапашаныя ідэі на Захад, балазе польска-бальшавіцкая вайна нарэшце скончылася. Мастакі марылі пакарыць Парыж, далучыўшы яго да сваіх здабыткаў, але мастацкай сталіцай іх стала Вільня, адарваная ад Менска польскай акупацыяй.

Стрэмінскі становіцца першым прапагандыстам рэвалюцыйнага авангарда ў Заходняй Беларусі і Польшчы. Ён сыходзіцца з кракаўскім асяроддзем творцаў-наватараў, друкуе ў часопісе «Зваротніца» /Стрэлка/ свае тэарэтычныя артыкулы аб Малевічу і іншых сваіх калегах з Віцебска, Смаленска, Масквы, Петраграда. А ўлетку 1923 г. у Вільні адбываецца сенсацыйная выстава новага мастацтва, арганізатарамі і ўдзельнікамі якой былі Стрэмінскі, Кобра і іх новыя, хоць і нешматлікія кракаўскія і варшаўскія прыхільнікі. Былі закладзены моцныя падваліны канструктывізму, супрэматызму ў вялікім еўрапейскім рэгіёне, які, такім чынам, далучыўся да самых рэвалюцыйна-радыкальных віцебскіх пачынанняў. І лідэрам гэтага працэсу стаў Стрэмінскі, хоць матэрыяльнае становішча яго было вельмі няўстойлівым. Ён выкладае малюнак у Вілейскай гімназіі, а таксама на вайсковых курсах у Вільні. Для Стрэмінскага пачынаюцца складаныя часы — непрыманне і неразуменне свайго мастацтва ў кансерватыўных колах польскай адміністрацыі. Кацярына ж вымушана на пэўны час з'ехаць у Рыгу да сваіх родных, сутыкнуўшыся з нецярпімасцю польскіх шавіністаў, што ў Вільні дэманстратыўна зневажалі ўсё ўсходняе. І толькі пасля касцельнага шлюбу са Стрэмінскім у 1924 г. яна атрымала польскае грамадзянства і магчымасць вярнуцца да мужа. Але польскую мову так да канца і не асвоіла, падкрэсліваючы гэтым сваю незалежнасць у краіне, дзе сярод абывацеляў гэтулькі пыхі, неталерантнасці, ксенафобіі пры яўным перайманні ўсяго замежнага, як заходняга, так і ўсходняга.



*Уладзіслаў Стрэмінскі. 40-я гады.*

Але гэтыя адносіны не тычыліся маладой польскай інтэлігенцыі, якая намагалася зламаць усе бар'еры, што рабілі настворaную Польшчу культурнай правінцыяй. У. Стрэмінскі быў на чале гэтага руху. Ён наватар не толькі ў сваёй майстэрні, дзе малюе першыя сінтэтычныя вобразы, простыя, абстрактна-лаканічныя, ён гуртуе вакол сябе мастакоў-авангардыстаў, якія разам з К. Кобрай, Г. Стажэўскім, Г. Бэрлеві, В. Кайрукшцісам, Т. Жарнаверуўнай, М.Шчукай — удзельнікамі віленскай выставы — утвараюць у 1924 г. суполку «Блок». Маналітная назва, аднак ненадоўга згуртавала аднадумцаў. Стрэмінскі ўсё больш горнецца да радыкалізму як рэдактар часопіса, як арганізатар і актыўны ўдзельнік выставаў у Варшаве, Рызе, Кракаве. Пры гэтым Стрэмінскі, не маючы магчымасці ўладкавацца ў буйных гарадах, жыве і працуе ў маленькіх цэнтральна-польскіх мястэчках Шчэкаціны, Бжэзіны, Жакавіцэ, Калюшкі. У 1926 г. Стрэмінскі стварае першую архітэктанічную кампазіцыю, што звязана з падрыхтоўкай яго новай тэарэтычнай канцэпцыі і стварэннем суполкі «Прэзэнс», куды ўвайшлі разам з ім радыкалы Г. Тхужэўскі, Б. Лахерт, Ю. Шанайца, Х. і Ш. Сыркус. Першая іх выстава адбылася ўвосень 1926 г. у Варшаве, наступныя, разам з іншымі польскімі суполкамі, — у Бельгіі, Галандыі, у Восеньскім парыжскім салоне 1929 г. Расце вядомасць Стрэмінскага ў еўрапейскіх мастацкіх колах, і ён наладжвае персанальную выставу ў Варшаве, задумвае збіраць у Нацыянальным музеі ў сталіцы Польшчы калекцыю сучаснага мастацтва. Ездзіць, дамагаецца па дэпартаментах і чыноўніцкіх кабінетах. Але дарэмна. Пасля 1926 г., калі ў Польшчы па сутнасці адбыўся разгром дэмакратычнага Сойма вайсковымі сіламі, адносіны да авангарднага мастацтва сталі нецярпімымі.

Шчаслівым момантам для Стрэмінскага і яго калег з «Прэзэнс» была сустрэча з Казімірам Малевічам, які па дарозе ў Берлін затрымаўся ў Варшаве ў сакавіку 1927 г. Малевіч наладзіў у Польскім мастацкім клубе гатэля «Палонія» сваю выставу, прачытаў лекцыю «Аналіз сучасных мастацкіх кірункаў». Поспех быў надзвычайны. У авангардным друку пісалі, што Малевіч намнога апярэдзіў Захад сваімі здабыткамі, што такога мастака не стае ў Польшчы, што гэта жывы сімвал бескампраміснага наватара. Нарэшце Стрэмінскі пабачыў вынікі сваёй асветніцкай дзейнасці, калі дэмакратычныя колы польскай інтэлігенцыі з энтузіязмам прынялі Малевіча як свайго мастака, нат жадалі б надаць яму польскае грамадзянства. На што ўлады паспяшаліся выправадзіць Малевіча разам з яго «бальшавіцкім, камуністычным» мастацтвам за межы краіны.

Але Стрэмінскі працягвае справу свайго сябра і ўжо ў наступным годзе выдае у бібліятэчцы суполкі за прыватныя сродкі сваю сенсацыйную тэарэтычную працу «Унізм у жывапісе». Падобна К. Малевічу, які ў віцебскі перыяд творчасці выклаў свае тэарэтычныя канцэпцыі, Стрэмінскі вызначыў не столькі законы і эстэтыку выяўленчай бясконцасці, колькі прынцыпы сучаснага мастацкага адлюстравання на плоскасці. Ён дакляруе аўтаномнасць вобраза, яго незалежнасць ад трохмернай прасторы, ад сюжэта і ідэі. Арганічнасць усіх сродкаў выражэння, падпарадкаваных прастаце і логіцы плоскасці, Стрэмінскі назваў унізмам. Гэтым самым ён увёў новы тэрмін і падтрымаў змаганні Малевіча за правы выяўленчага мастацтва і жывапісу, як яго «авангарднага першапраходца», займацца фарматворчасцю. «Кожны квадратны сантыметр, — сцвярджае ён у сваёй канцэпцыі, — мае аднолькавую вартасць і прычыняецца аднолькава да канструкцыі вобраза». У гэты час яго займае «даследчыцкая» праца з фарбамі на плоскасці палатна. Ён стварае свае найбольш аскетычныя і простыя кампазіцыі з архітэктанічнай серыі: геаметрычныя формы манахромных колераў рознай насычанасці і танальнасці, якія пазней перараслі ва «уністычныя кампазіцыі» /1931—1934 гг./ з рэльефным нанясеннем фарбы, з рытмічнымі зігзагамі, пасячкамі і іншымі даследчыцкімі наваўвядзеннямі. Пошукі Стрэмінскага носяць вельмі сканцэнтраваны характар, у вонкава простых формах ён вынаходзіць гатовыя формулы для далейшага развіцця выяўленчага мастацтва другой паловы XX ст. /мінімалізм, канцэптуалізм, оп-арт і інш./.

1923 год стаў для У. Стрэмінскага пацвярджэннем яго бескампраміснай авангарднай арыентацыі ў новай суполцы «а.р.» /«авангард сапраўдны»/. Сучаснае мастацтва павінна кардынальна змяняць адносіны чалавека да ўсяго, што ёсць у свеце, такую думку праводзіць Стрэмінскі ў сваіх футуралагічных артыкулах. Ствараюцца новыя уністычныя вобразы, узмацняюцца сувязі з парыжскімі авангардыстамі, што стартавалі з пазіцыи парадаксальнага дадаізму, збіраецца ў Парыжы калекцыя сучаснага мастацтва, з'яўляецца, нарэшце, падтрымка не толькі М. Эрнста, Х.Арпа, Т. ван Доэсбурга, П. Клее і іншых нонканфармістаў Захаду, але і мясцовых дальнабачных інтэлігентаў Лодзі. І вось у 1931 г. урачыста адкрываецца Міжнародная калекцыя сучаснага мастацтва са збораў «а.р.» у Музеі гісторыі і мастацтва Лодзі імя Я. і К. Барташэвічаў. З гэтай падзеяй і сам горад стаў пасля Віцебска і Гановера трэцім у Еўропе, дзе былі калекцыі авангарда і дзе закіпела мастацкае жыццё ў наватарскіх формах. Тым больш, што Стрэмінскія абралі яго для свайго сталага жыхарства.

Наступны год мо самы святочны для Стрэмінскага, які атрымаў мастацкую ўзнагароду Лодзі за яго вялікія здабыткі ў сучаснай авангарднай творчасці. Праўда, злыя філіпікі, шарады, абсурдныя абвінавачанні ў друку надалі гэтай гісторыі прысмак скандальнасці. Улічваючы беларускае /«усходняе»/ паходжанне Стрэмінскага і дэмакратычную пазіцыю Магістрата, ад якога залежала ўзнагарода, мясцовыя шавіністы нат правялі мітынг з лозунгамі «Прэч з бальшавізмам у мастацтве!»

Але праца працягваецца, выстаўляюцца творы Стрэмінскага і яго калег, што ўвайшлі ў міжнародную суполку авангардыстаў «Абстраксьён Крэасьён» /«Abstraction Création»/, мацнеюць сувязі з Варшавай, Кракавам, Львовам. Бальшавіцкая мяжа пад Вілейкай не дазваляла падтрымліваць кантакты з радзімай, але даходзілі зрэдку лісты К. Малевіча.

У. Стрэмінскі ў гэты час адыходзіць ад пурыстычна-лабараторных доследаў жывапісу. Яго вобразы ўзбагачаюцца матывамі рэальнасці — гарадскіх пейзажаў, марскіх даляглядаў — як мастацкіх пераўвасабленняў у самых незалежных формах. Пластычная лінія, арганічныя абрысы, плямы, вытанчаная лакальная каларыстыка. Час вялікіх надзей і аптымізму. Разам з К. Кобрай ён выдае на пачатку 30-х гг. за кошт суполкі манаграфію «Кампазіцыя прасторы і вылічэнні часапрасторавага рытму». У працы разглядаецца магчымасць пашырэння канцэпцый унізму ў трохмернай прасторы. Актуальнасць манаграфіі не знікла і сёння.

У 1936 годзе ў Стрэмінскіх нарадзілася дачка Ніка. Дадалося клопатаў, асабліва для жонкі, якая павінна была даглядаць інваліда-мужа, рупіцца аб дзіцяці і не забывацца, што яна, апрача гэтага, творца. Але неяк усё б склалася, каб не пачалася вайна.

Стрэмінскія шукаюць паратунку, вяртаючыся ў Вілейку, да брата мастака Валяр'яна. Там можна было разлічваць на працяг творчай дзейнасці і адносна спакойнае жыццё. Але 17 верасня ў Заходнюю Беларусь уваходзяць савецкія войскі. Першыя тыдні — эйфарыя вызвалення ад пілсудчыны. Стрэмінскі паспрабаваў уключыцца ў культурнае жыццё, ён стварае ў 1939 г. свой слынны графічны цыкл «Заходняя Беларусь», дзе адлюстроўвае лёгкай контурнай уністычнай лініяй

*Цыкл «Заходняя Беларусь». 1939 г.*

сінтэтызаваныя ўражанні ад вясковай архітэктуры, вобразаў людзей. Нібы аднаўляе тыя тонкія повязі, што злучалі яго з гэтым куточкам свету, дзе ўпершыню пачаў складаць сваю авангардную тэарэтычна-практычную мастацкую канцэпцыю светабачання і светаадлюстравання.

Прыгадаў ён тут і сваю менскую маладосць, калі ў Вілейцы на свята 1-га мая, што ўпершыню адзначалася пасля польскай акупацыі ў 1940 г., зрабіў вельмі смелае, «феерычна-колеравае аздабленне з пpасторавых кампазіцый». Улады яшчэ не кемілі, як кіраваць мастацтвам «у новай свабодзе», і дазволілі яму літаральна ўсё. Але гэта не ўмацавала Стрэмінскага на радзіме. Цяжкія бытавыя варункі, пагроза рэпрэсій, што акурат пачыналіся для тых, хто хоць нечым выдзяляўся сваімі здольнасцямі і паводзінамі, адыгралі сваю канчатковую ролю. Пакуль яшчэ Трэці Рэйх і Савецкі Саюз былі ў сяброўскай згодзе і ўзаемных пагадненнях, а Польшча ўжо лічылася проста «зонай палітычных інтарэсаў Германіі», Стрэмінскія вырашылі вяртацца ў Лодзь, бліжэй да свайго ранейшага жытла. Скарыстаўшы тое, што жонка мае нямецкае паходжанне, мастак з сям'ёй атрымаў візу і назаўжды пакінуў родныя мясціны. Трэба сказаць, што Стрэмінскія апошнія са свайго пакалення творцаў-авангардыстаў, якія эміхравалі ў гэты трагічны час.

Аднак жыццё Стрэмінскіх у Лодзі таксама аказалася нечакана складаным. Яны былі ўвесь час занятыя тым, каб ратаваць створанае імі, неяк выжыць на вадзе і хлебе, расціць дачку. Але пры гэтым Стрэмінскі з небывалай экспрэсіяй і уністычным лаканізмам стварае графічныя цыклы «Дэпартацыя», «Грамадзянская вайна», «Твары», «Таннае, як багна» з публіцыстычнай і антызлачыннай скіраванасцю. Гэта была яго непахісная пазіцыя,за якую яго з жонкай ужо занеслі калабаранцкія эксперты ад культуры ў чорныя спісы «мастакоў-выраджэнцаў». Творы іх падлягалі знішчэнню, а іх жыццё на волі было пад пытаннем.Ужо была запакавана ў скрынкі калекцыя сучаснага мастацтва, каб з Лодзі адправіцца на агульнанямецкую выставу-знішчэнне «Энтартэтэ Кунст», але, на шчасце, яна так і прастаяла ў скрынях. Дапамагала Стрэмінскім і іх няпольскае,немясцовае паходжанне. Акупацыйныя ўлады, вядома ж, найбольш спрыялі асобам,хоць неяк звязаным з германскімі вытокамі, балазе, немцаў у Лодзі,як эканамічна-развітым горадзе, было шмат.Але Кацярына Кобра не пажадала мець палёгку ад «карычневых» і ў адпаведнай анкеце запісала — руская. Стрэмінскі ж, як распавядалі некаторыя яго сябры, пазначыў — беларус.Асаблівых пераваг гэта не давала.Але ў тым выказалася прынцыповасць Стрэмінскіх, што не жадалі хлусіць ці прыстасоўвацца. І хоць іх творы былі пад забаронаю, а на хлеб прыходзілася вырываць крохі маляваннем партрэтаў са здымкаў і вырабамі розных распісных сумак /во дзе зараз быў бы найкаштоўнейшы прыклад іх тагачаснай вытворчасці для любой калекцыі/, яны ўсё ж хавалі ў сваёй кватэры працы даваенных гадоў з вераю ў лепшыя часы.

«Рукі, якія не з намі», «Маім сябрам габрэям» — так завуцца яго графічны і калажны цыкл 1945 года. Стрэмінскія сустрэлі вызваленне з годнасцю, хоць цяжкія часы адклалі адбітак на іх узаемаадносіны. Адыграла сваю ролю тут і анкетная графа з паходжаннем, асабліва для К.Кобры.Ёй пагражала турэмнае зняволенне як асобе, што не пацвердзіла сваю прыналежнасць да польскай нацыі.

Для Стрэмінскага, што сустракаў сваё другое пяцідзесяцігоддзе без сямейнай апекі,у неўпарадкаванай кватэры, пачаўся апошні, самы трагічны перыяд жыцця і творчасці. Адзіную надзею давала яму пасада выкладчыка ў Вышэйшай школе пластычных мастацтваў у Лодзі. У асяроддзі моладзі, калег ён мог аднаўляць і працягваць свае наватарскія распрацоўкі. Балазе, што на яго лекцыі студэнты хадзілі як на свята. «Тэорыя бачання», якую ён тлумачыў на занятках па гісторыі мастацтва, дазваляла аналізаваць з пластычнага пункту гледжання ўсе з'явы мастацкай спадчыны ў цэласнай сістэме, каб як мага хутчэй знайсці свой уласны стыль і кірунак у творчасці. Вядома ж, самы авангардны і незвычайны.

Стрэмінскі з натхненнем супрацоўнічае і з Музеем мастацтва ў Лодзі, куды перадае свае 78 абразоў і 7 цыклаў малюнкаў, для якога ў 1947 г. стварае праект неапластычнай залы. Тут у трохмернасці як бы паўстае ў разгорнутым выглядзе ўся яго тэорыя і практыка. Праз год ён ужо сябра міжнароднай суполкі «Рэалітэс Нувэлес» /Realites Nouvelles/, што была спадкаемцай перадваеннай «Abstraction Creation». Стварае віртуозны цыкл т.зв. «салярыстычных вобразаў», што канцэптуальна развівалі выяўленчыя сродкі яго папярэдніх перыядаў. На гэты час яго вабіла тэма сонца з яе энергіяй і вобразнымі варыяцыямі.

Але ніхто не здолеў абараніць паважанага маэстра перад тым тэрорам, які пачаўся супраць яго ў канцы 40-х гг., калі да ўлады ў Варшаве прыйшлі камуністы сталінскай закалкі. Хто хоць раз наведаў Варшаву і бачыў Палац культуры і навукі, што быў узведзены ў тыя гады, зразумее, які злавесны цень кінулі яго ўладальнікі на духоўнае жыццё Польшчы. Яны жадалі не адстаць у цкаванні «за фармалізм» ад сваіх таварышаў з Масквы. Над Стрэмінскім рыхтавалі расправу, хоць яго званне дэмакратычнага творцы. атрыманае ў гады санацыйнага тэрору, давала яму «шанц» выратавацца, «пакаяўшыся і асудзіўшы ўласныя памылкі». Для гэтага яго і запрасілі ўдзельнічаць у канферэнцыях у Варшаве і Лодзі напрыканцы 1949 г. па праграмах вышэйшых мастацкіх навучальных устаноў, у прыватнасці, Лодзінскай школы. Пагромную кампанію вёў падтасаваны «хор» на чале з Міністрам культуры В.Сакорскім.

Жыццё паставіла мастака перад выбарам. Сябры не падтрымаюць, маўчаць — здрадзіць уласным прынцыпам, бараніць іх — значыцца страціць пасаду і магчымасць працаваць з моладдзю. А ў яго — малая дачка, ужо хворая жонка...

Стрэмінскі выступіў з жорсткай крытыкай т.зв. «сацыялістычнага рэалізму» з усім убоствам яго эстэтычных прынцыпаў і супраць тых камуністычных кан'юнктуршчыкаў, што гвалтам гэты прынцып навязвалі дзеячам мастацтва. Праз лічаныя дні ён быў звольнены з працы, выключаны з Саюза польскіх мастакоў. Спакутаваны інвалід застаўся без сродкаў да існавання, і ў першыя месяцы халоднага 1950 г. літаральна памёр бы з голаду, каб не сціплая матэрыяльная дапамога верных яму студэнтаў.

Нарэшце, ён сяк-так уладкаваўся афарміцелем вітрын у мясцовым кааператыўным гандлі, малюе вясковыя абразкі для сувенірнай крамы. Аднак лёс бязлітасны. 21 лютага 1951 г. адыходзіць з жыцця яго жонка Кацярына, і ён застаецца адзін, сам-насам са сваімі клопатамі, перажываннямі. Дачку Ніку давялося аддаць у дзіцячы дом. Тая неаднойчы бачыла, як яго, скалечанага, старога чалавека, абражаюць нявыхаваныя падлеткі пры поўнай абыякавасці дарослых. А ён скакаў ва ўсіх на вачах на адной назе, прымацоўваючы ў вітрынах афармленне. Гэта быў самы трагічны пэрформэнс, які толькі ведала гісторыя сучаснага авангарда.

Па сутнасці — запланаванае злачынства дзяржаўных камуністычных улад над таленавітай асобай. Аднойчы Стрэмінскі страціў прытомнасць літаральна на вуліцы. У шпіталі дыягнасціравалі — сухоты. Толькі аператыўная дапамога Ю.Пшыбася, што цудам прывёз з-за мяжы патрэбныя лекі, дазволіла цяжкахвораму сабраць апошнія сілы і аформіць у сваім непаўторным стылі інтэр'ер адной з кавярняў Лодзі. Але і тут яго «дастаў» мастацкі савет, які вынес прысуд — знішчыць усё створанае да чыстай тынкоўкі. Ад Лодзі — дзень-другі аўтамабільнага шляху да Парыжа, дзе свабодна ладзіліся выставы М.Эрнста, П. Пікаса, М. Шагала, Ф. Лежэ. А ў «народнай Польшчы» на вачах у напалоханай інтэлігенцыі і партыйнага кіраўніцтва гінуў адзін з выдатных мастакоў нашага стагоддзя. Ён памёр 25 снежня 1952 г.

Але назаўжды выкрасліць з культурнай памяці творчасць Уладзіслава Стрэмінскага і Кацярыны Кобры не ўдалося. У 1956—57 гг. выставы У. Стрэмінскага і К. Кобры трыумфальна прайшліся па Лодзі і Варшаве. Вярнулася зацікаўленасць да іх мастацкай спадчыны. Але традыцыі Стрэмінскага ўсё ж не распаўсюдзіліся, застаўшыся як бы сімвалам вышэйшай радыкальнасці аднаго-двух пакаленняў. Можна назваць толькі таленавітых адзінак. Да канца 80-х гг. упарта працягваў у творчасці уністычны канструктывізм калега Стрэмінскага Г. Стажэўскі. Не пакідае прынцыпаў уністычнага жывапісу па-за сюжэтам і трохмернасцю вучань Стрэмінскага С. Фіялкоўскі. А вучань Фіялкоўскага М.Давідзюк, што родам з Беласточчыны, развіў традыцыі настаўніка да невычэрпнай фарматворчасці ў жанры містычнага жывапісу. Паслядоўнікам ідэй Стрэмінскага лічаць сябе і Лявон Тарасэвіч, беларус, мастак з Беласточчыны. І нельга не адзначыць самаадданасць даследчыка, прапагандыста і асветніка творчасці і жыцця бацькоў — Нікі Стрэмінскай, што зараз жыве і працуе ў Варшаве. Урач па адукацыі, яна па сутнасці выдатны гісторык-эсэіст. Яе кніга «Каханне, мастацтва, нянавісць» /1991 г./ стала адкрыццём не толькі ў Польшчы, а таксама і ў іншых заходніх краінах, дзе імя Стрэмінскага ніколі не траціла вагу. Многія з сучасных карыфеяў мастацтва, як, напрыклад, Г. Юкер, В. Вазарэлі, Е. Бойс і іншыя, вызнавалі свае творчыя повязі з вялікім першапраходцам мастацкіх шляхоў XX стагоддзя і ў якасці прызнання даравалі Музею мастацтва ў Лодзі свае творы.

Нарэшце, Стрэмінскі вяртаецца і на радзіму. Разам з новымі духоўнымі працэсамі, культурнымі зрухамі. Ці прымем, зразумеем мы яго спадчыну? Якую старонку ў гісторыі нашага народа яна зойме? Яна можа і павінна стаць чарговым крокам да вызначэння беларусамі свайго месца ў свеце. Годнага і роўнага, а не правінцыйнага. І доказ таму, што беларускаму мастацтву наканавана не карыстацца нечым другасным, перапетым, але дэманстраваць сваё наватарства, — жыццё і творчасць беларускага тэарэтыка і практыка авангарда Уладзіслава Стрэмінскага.

**Яўген ШУНЕЙКА**

**P.S.**

**Пытанні з пераасэнсаваннем спадчыны Уладзіслава Стрэмінскага, яго ўкладам у тэорыю і практыку мастацтва будуць абмеркаваны навуковай канферэнцыяй. якая адбудзецца 1—2 снежня ў Мінску. У ёй прымуць удзел прадстаўнікі Акадэміі навук, Акадэміі мастацтваў Беларусі, крытыкі, мастацтвазнаўцы, ганаровыя госці, а таксама дачка мастака. У наступным годзе плануецца выстава твораў Уладзіслава Стрэмінскага.**

**Я.Ш.**



*Уністычная кампазіцыя. 1934 г.*



*Тапаграфіка. 1924 г.*



*Маці з дзіцем. 1933 г.*



*Архітэктанічная кампазіцыя. 1929 г.*

Анонс

# ЛЕПШЫ ТВОР — ДЗЕЦЯМ!

**У адпаведнасці з Рэспубліканскай праграмай нацыянальнага адраджэння Рэспубліканскі цэнтр эстэтычнага выхавання дзяцей з 15 лістапада 1993 года па 1 красавіка 1994 года праводзіць конкурс на лепшы твор для дзяцей /музычная п'еса, аднаактовая драматычная п'еса, песня, гумарыстычныя сцэнкі, вершы/.**

**I. АСНОЎНЫЯ ЎМОВЫ КОНКУРСУ**

**Кожны ўдзельнік /пісьменнік, кампазітар, аўтар/ мае права прадставіць на конкурсе толькі адзін твор /гумарыстычныя вершы — да пяці/, які не быў апублікаваны і не перададзены па тэлебачанні і радыё. Творы павінны быць надрукаваныя на машынцы праз два інтэрвалы на стандартным лісце паперы ў двух экземплярах з адрасам аўтара, ці аўтараў. Узрост аўтараў, якія маюць права ўдзельнічаць у конкурсе, — не абмежаваны.**

**II. МУЗЫЧНАЯ П'ЕСА /КАЗКА/**

**Тэкст і клавір /партытура/ дасылаюцца асобна.**

**III. ПЕСНЯ**

**Вершы беларускія, рускія, украінскія, польскія, клавір /партытура/ пры мажлівасці і магнітазапіс. Вершы, як новыя, так і надрукаваныя раней: паходныя, жартоўныя, гістарычныя, песні скаўтаў, школьныя, рэлігійныя і інш.**

**IV. ГУМАРЫСТЫЧНЫЯ ВЕРШЫ, СЦЭНКІ**

**Толькі арыгінальныя, якія раней не былі надрукаваны і не выконваліся са сцэны.**

**Да аўтарскіх твораў дадаецца асобны ліст з поўнымі звесткамі пра аўтара: прозвішча, імя, імя па бацьку, адрас, месца работы, альбо вучобы, тэлефоны. Усе дадзеныя пісаць поўнасцю.**

**Конкурсныя работы не рэцэнзуюцца, аўтарам не вяртаюцца.**

**Для пераможцаў конкурсу ўстанаўліваюцца наступныя прэміі па жанрах:**

**Музычная п'еса:**
**першая прэмія — адна**
**другая прэмія — адна**
**трэцяя прэмія — дзве**

**Песня: першая прэмія — адна**
**другая прэмія — тры**
**трэцяя прэмія — тры**

**Аднаактовыя п'есы:**
**першая прэмія — адна**
**другая прэмія — дзве**
**трэцяя прэмія — тры**

**Гумарыстычныя вершы, сцэнкі: першая прэмія — адна**
**другая прэмія — тры**
**трэцяя прэмія — тры**

**Для падвядзення вынікаў конкурсу ствараецца журы ў наступным складзе:**

**Для ацэнкі музычных п'ес:**
**Старшыня — А. Смялкоўскі, члены — А. Чыркун, В. Жуковіч, Л. Мазурына, А. Клеванец.**

**Для ацэнкі аднаактовых п'ес і гумарыстычных сцэнак:**
**старшыня — Г. Марчук, члены — С. Лаўшук, М. Федасеенка, Н. Загорская, Т. Гаробчанка.**

**Творы, адзначаныя прэміямі, з'яўляюцца ўласнасцю Рэспубліканскага цэнтра эстэтычнага выхавання дзяцей.**

**Творы на конкурс дасылаюцца на адрас:**
**220030, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 32"б".**
**Рэспубліканскі цэнтр эстэтычнага выхавання дзяцей.**

**Аўтары Расіі, Польшчы, Украіны дасылаюць свае творы на мове арыгінала.**

Музыка

# ВАНДРОЎКІ СПРЫЯЮЦЬ ТВОРЧАСЦІ

Як сцвярджалі яшчэ ў старажытнасці — людзі, вандруючы, сталеюць. І таму імкнуліся шукаць суседзяў ды спадарожнікаў з добрымі чалавечымі якасцямі. Гэта выслоўе і сёння не страціла свайго значэння. Сустрэчы ды зносіны асабліва патрэбныя творчым асобам — для несупыннага ўдасканалення сваёй прафесійнай дзейнасці. А гэтаму спрыяе толькі пэўнае асяроддзе: а менавіта — творчае супрацоўніцтва, тая жыватворная крыніца, якая сілкуе кожнага, хто да яе прыпадае.

Вырашэнне актуальных праблем духоўнага адраджэння нацыі, уздыму культуры і мастацтва на Беларусі без творчых кантактаў з іншымі краінамі і народамі асуджанае на змарнаванне. Таму, імкнучыся актывізаваць і ўзбагаціць музычнае жыццё ў нашай рэспубліцы, кіраўніцтва Саюза музычных дзеячаў ужо ў 1990 г. пачало наладжваць сяброўскія творчыя кантакты з краінамі бліжняга і дальняга замежжа, у прыватнасці, з Музычным саюзам зямлі Бадэн-Вюртэмберг /Германія/.

За гэты час ажыццёўлена вялікая і разнастайная культурная праграма. У Германіі пабывала ўжо 11 беларускіх мастацкіх калектываў. На Беларусі выступалі камерны аркестр зямлі Бадэн-Вюртэмберг, духавы аркестр зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія, сімфанічны аркестр г. Цюбінгена, розныя ансамблі — саксафаністаў, брас-перкусіён...

Такія сустрэчы — незаменная школа ўзаемнага навучання. І справа, вядома, не ў параўнанні якіх-небудзь мастацкіх і адукацыйных канцэпцый /хоць і гэта, несумненна, важна/. Самае ж галоўнае — гэта непасрэдныя творчыя зносіны.

Не так даўно пабываў у Мінску маладзёжны аркестр акардэаністаў зямлі Бадэн-Вюртэмберг. Ягоны канцэрт у Міжнародным маладзёжным цэнтры «Юнацтва», звязаныя з гэтым гутаркі, абмен вопытам могуць быць добрым прыкладам для пошуку новых, мабільных мадэляў структуры баянна-акардэонных ансамбляў і аркестраў у нашай рэспубліцы.

Заўважу, што ў Германіі сёння, як і ў іншых заходнееўрапейскіх краінах, а таксама ў ЗША ў маладзёжным асяроддзі вялікая перавага аддаецца музыцы акадэмічнага кшталту, а не рок- і поп-напрамкам. Пра гэта сведчыла і праграма маладзёжнага аркестра акардэаністаў. І-е аддзяленне складалася з арыгінальнай музыкі для акардэонных аркестраў: «Чакона» Г. Ё. Веніга, «Канцэрт для акардэона са струнным ці акардэонным аркестрам» Х. Германа, «Балетная сюіта» Г. Брэме, «Ірландская Сюіта» М. Себера. У 2-м аддзяленні гучала класіка: «Венгерскі танец» N 1 І. Брамса, «Іспанскія танцы» М. Машкоўскага, Уверцюра да аперэты «Цыганскі барон» І. Штрауса і іншыя.

На пытанне: хто фарміруе праграму і чым пры гэтым кіруецца, якая агульная эстэтычная сутнасць праграмы, што выконваецца, — дырыжор аркестра Бернд Мальтры і дырэктар калектыву Георг Пенц адказалі, дапаўняючы адзін аднаго. Праграму фарміруюць дырыжор і дырэктар аркестра. Галоўны крытэрый — мастацкая паўнавартаснасць сучасных і класічных твораў, клопат пра слухачоў, імкненне абуджаць у іх духоўнае.

Дзякуючы цудоўнаму інструментарыю і высокапрафесійным партытурам аркестр дасягае сапраўднай ансамблевасці, высокага выканаўчага майстэрства. Аднак сапраўдная паэзія музыкі, непасрэднасць, жывое, эмацыянальнае творчае дзейства, што ажыццяўляе калектыў музыкантаў, у значнай ступені залежыць, вядома ж, ад асабістых якасцяў саміх артыстаў.

Нягледзячы на тое, што гэты маладзёжны аркестр пераважна складаецца з аматараў, дзякуючы высокай кваліфікацыі дырыжора і ўлюбёнасці музыкаў у сваю справу, гранне іх досыць прафесійнае. У інтэрпрэтацыі розных твораў грунтам робіцца не моц гучання і не штучная сімфанізацыя музычнай ідэі, а непасрэднасць выказвання і святочнасць душы, «моўныя» спосабы інтанавання і ясная дыферэнцыраванасць музычнай тканіны.

Публіка на тым канцэрце складалася ў асноўным з людзей даволі маладога ўзросту. У канцы праграмы яна, узняўшыся з крэслаў, наладзіла авацыю аркестру зямлі Бадэн-Вюртэмберг. Так што размовы пра тое, што моладзь «заражана вірусам» рок-груп, поп-музыкі, хоць і маюць падставы, але ўжо не здаюцца такімі змрочнымі. Бо сімпатыі і антыпатыі моладзі — выбарныя. І калі са сцэны гучыць высокапрафесійная музыка, калі яна ідзе ад сэрца, то як правіла яе энергія дасягае сэрцаў нават скептычных слухачоў, у тым ліку і моладзі.

Адзначу яшчэ адну асаблівасць аркестра акардэаністаў з Германіі. Такія калектывы, у адрозненне ад нашых, непастаянныя, можна сказаць — сезонныя. Яны ствараюцца з лепшых музыкантаў, спецыялістаў у сваёй галіне, прафесіяналаў і аматараў. Галоўная ўмова — талент, улюбёнасць у свой інструмент і вялікае жаданне прапагандаваць любімую музыку сродкамі калектыўнага грання. Пэўная частка аркестра захоўваецца, але людзі іншых прафесій пасля заканчэння гастрольных турнэ вяртаюцца да сваёй асноўнай дзейнасці. Звычайна аркестр пачынае працаваць у кастрычніку, да студзеня, як правіла, бывае гатовае адно аддзяленне канцэрта, а да Вялікадня — другое. З велікодных святаў пачынаюцца гастрольныя паездкі. За 8 гадоў існавання аркестр акардэаністаў пабываў у Бельгіі, Аўстрыі, Даніі, Швецыі, Галандыі, Венгрыі, Канадзе, ЗША, Расіі. Падарожжа па краінах і кантынентах, прапаганда лепшых узораў музыкі ёсць сутнасць жыцця такіх творчых калектываў.

Культура зносін вымагае ўзаемнай павагі, ветлівасці, чуласці. Таму ўжо ў верасні з творчым візітам у адказ Германію наведалі аркестр народных інструментаў Мінскага педагагічнага універсітэта і акадэмічны хор Белдзяржуніверсітэта.

**Міхась СОЛАПАЎ,**
**прафесар Беларускай акадэміі музыкі, заслужаны дзеяч мастацтваў рэспублікі**

Перапіска

# УСІМ ЦЯЖКА, А КЕБІЧУ БОЛЬШ ЗА ЎСІХ

## ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

Чытаеш некаторыя артыкулы лімаўцаў, напрыклад, Пётры Васілеўскага, і дзіву даешся: «Куды і на што скіравана энергія гэтага лімаўца? На адраджэнне Бацькаўшчыны, на згуртаванне беларусаў, творчай інтэлігенцыі ў імя Адраджэння, ці, можа, наадварот?.. Складваецца такое ўражанне, што беларусаў нехта хоча пасварыць. Інакш як зразумець тыя артыкулы, якія аднабакова прадстаўляюць сённяшні ўрад. І прэм'ер Кебіч яму не падабаецца, і прызначаны на пасаду першага намесніка міністра замежных спраў Георгій Таразевіч — таксама, і шмат іншае. Ну, можа мець сваю думку і Пётра Васілеўскі, але ж гэта яшчэ не думка ўсёй творчай грамадскасці, альбо заснавальнікаў газеты — Саюза пісьменнікаў і Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. А рэдакцыя дзяржаўнага выдання наогул адмежавалася ад таго, што рэдагуе, прыпіскай на апошняй старонцы: «Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый». Вось і прыходзіцца чытачам «з нагоды» асабістых меркаванняў супрацоўнікаў «ЛіМа» рабіць высновы аб аб'ектыўнасці і ўсебаковым асвятленні падзей і фактаў...

Калі аўтар вырашыў «паспытаць» сябе ў ралі палітычнага каментатара на старонках газеты творчай інтэлігенцыі, дык, можа, трэба было б паспрабаваць падаць і другі бок спраў прэм'ера Вячаслава Кебіча, ці Георгія Таразевіча /дзеля аб'ектыўнасці/, ці даручыць другім — спецыялістам, якія, несумненна, скажуць аб справах гэтых людзей шмат станоўчага. Ну, ды гэта і так відавочна. Ужо добра тое, — калі ўсё звальваць на В. Ф. Кебіча, — што не льецца кроў ракою, як у іншых краінах, і хлеб ёсць, а ў П. Васілеўскага, з улікам дзяржаўных ганарараў, і тое-сёе да хлеба. Цяжка, безумоўна, цяжка ўсім, і прэм'еру больш за ўсіх, але трэба хоць бы пазнаёміцца з абставінамі развалу-перабудовы, у якіх прыходзіцца працаваць на карысць Бацькаўшчыны таму ж Кебічу...

Праблема Адраджэння ў імя Бацькаўшчыны цікавіць усіх неабыякавых да роднага. /Іншая справа, як хто Адраджэнне разумее/. Я думаю, што і ўрад мае дзяржаўную пазіцыю па гэтай праблеме — аплачвае ж ён антыўрадавыя практыкаванні М. Гіля і П. Васілеўскага. Ведаю, што і грамадзянін Рэспублікі Беларусь прэм'ер Кебіч таксама можа выказацца і на роднай матчынай мове, куды больш багатай, чым у многіх нованароджаных «патрыётаў».

Не трэба, спадар Васілеўскі, толькі дзяліцца. Адраджэнне — у яднанні, зыходзячы з рэальнай рэчаіснасці і аб'ектыўных абставін, гэта кансалідацыя нацыі, як падкрэсліваюць лепшыя прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі, чый уклад у абеларусізацыю адлічваецца дзесяцігоддзямі.

Ведаючы Вас, як улюбёнага ў сваю справу крытыка-журналіста ў галіне дэкаратыўна-прыкладнога і выяўленчага мастацтва, чакаем ад Вас менавіта ў гэтай галіне аб'ектыўных і прынцыповых артыкулаў. А палітычна-заказныя замалёўкі, — ну, дальбог, не ваша гэта справа.

**Чэслаў МУЛІЦА**

# КАЛІ СТАМІЎСЯ ЧАЛАВЕК...

## ЛІСТ З РЭДАКЦЫІ

Мне сапраўды не падабаецца прэм'ер Кебіч. На маю думку, з яго быў, здаецца, неблагі дырэктар завода, але кіраваць урадам Рэспублікі Беларусь — ну, дальбог, не ягоная справа. Ну, не атрымліваецца...

А калі я прыгадваю Дзяды 1988 года ў Мінску, неспраВакаваны гвалт улады супраць народа, цынізм камісіі, створанай нібыта для высвятлення ісціны, а на самай справе дзеля таго, каб тую справу замяць /узначальваў камісію Г.Таразевіч/, — дык мне не падабаецца і першы намеснік міністра замежных спраў. Чалавек з такой палітычнай біяграфіяй наўрад ці мае маральнае права займаць такую пасаду.

Дарэчы, я таксама не падабаюся Кебічу /і Таразевічу/. Ну і што з таго?

Далей. Скажыце, калі ласка, чаму мая думка павінна быць «думкай усёй творчай грамадскасці, альбо заснавальнікаў газеты — Саюза пісьменнікаў і Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь»?

Вы, спадар Муліца, раіце «паспрабаваць падаць і другі бок спраў прэм'ера Вячаслава Кебіча». Уважліва сачу за сесіяй Вярхоўнага Савета — нешта не атрымліваецца «другога боку спраў», нешта не атрымліваецца «шмат станоўчага». Сам Кебіч вымушаны прызнаць уласную віну крызіснай сітуацыі, што склалася на Беларусі /праўда, дадаўшы, што «вінаваты ўсе»/.

На Вашу думку, нацыя ўвогуле і я, як грамадзянін, у прыватнасці, павінны быць удзячны Кебічу, што «не льецца кроў, як у іншых краінах, і хлеб ёсць, а ў П.Васілеўскага, з улікам дзяржаўных ганарараў, і тое-сёе да хлеба...» Я ж думаю, што за наша адносна спакойнае ў параўнанні з іншымі краінамі СНД жыццё і наяўнасць хлеба трэба быць удзячным не ўраду, а народу. Урад жа цягне Беларусь у крывавыя разборкі, у так званую «коллективную безопасность». І хлеба ў нас было б болей на сталах, каб мелі іншы ўрад. Паглядзіце на прылаўкі крам Таліна, Вільні ці нават Разані ды параўнайце з нашымі.

Цяпер наконт маіх ганарараў... Сярод прыстойных людзей не прынята лічыць грошы ў чужой кішэні. Іншая справа — фінансавыя махінацыі, накшталт трох мільёнаў долараў з дзяржаўнай казны, у прысябечанні якіх абвінавачвалі жонку нашага прэм'ер-міністра. Але ж гэта ўжо, мабыць, крымінал. Мы ж вядзем гаворку пра людзей прыстойных. Таму і пастаноўку Вашага пытання нельга прызнаць этычнай. Вы што, прапануеце, каб я працаваў задарма, каб мне за работу наогул не плацілі?

Раю Вам самому пакаштаваць журналісцкага хлеба. На лімаўскія ганарары катэдж не пабудуеш. Прыйдзіце ў касу атрымліваць грошы за публікацыю Вашага ліста — самі адчуеце.

Вельмі спрэчным падаецца мне і Ваш тэзіс «ўрад аплачвае антыўрадавыя практыкаванні М.Гіля і П.Васілеўскага». Што да мяне, дык я да ўрада ў парабкі не наймаўся. Вы, спадар Муліца, увогуле блытаеце «ўрад» і «дзяржаву» — а гэта зусім не адно і тое ж. Урад увогуле нічога не можа аплачваць, бо сваіх грошай не мае.

І апошняе. Я згодны з Вамі: Кебічу сапраўды цяжка. Таму і паводзіць сябе часам неадэкватна сітуацыі. Што на гэта сказаць? Цяжкі выпадак. Стаміўся чалавек? Значыць, трэба адпачыць...

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ,**
**рэдактар аддзела навін «ЛіМа»**

# КРАІНА ЛЕСУ Ў ПАНАРАМЕ ГЕАПАЛІТЫКІ

*(Пачатак на стар. 5)*

Ідэя балтыйска-чарнаморскага саюза належыць да ліку найбольш вядомых знешнепалітычных дактрын, народжаных на беларускай зямлі. Разам з тым, любая спроба рэалізацыі такога саюза немінуча наткнецца на шэраг непераадольных перашкод геапалітычнага характару. Па-першае, няпэўная ўстойлівасць саюза строга тэлуракратычнай краіны /Беларусь/ і краін з больш /Балтыя/ ці менш /Украіна/ акрэсленымі таласакратычнымі рысамі. Па-другое, калі менавіта Беларусь выступіць ініцыятарам такога саюза, то ёй і ў далейшым давядзецца рабіць асноўныя намаганні па яго падтрыманні, пошуку кампрамісу сярод яго ўдзельнікаў, што загадзя дапускае ўлік і абарону ўласных інтарэсаў у апошнюю чаргу. Іншае дапусціць цяжка, таму што Беларусь па сваёй тэрыторыі, колькасці насельніцтва, ваенным і эканамічным патэнцыяле заведама не здольна дамінаваць у гэтым саюзе. Любая ж спроба апоры на Украіну ці краіны Балтыі прывядзе да расколу такога саюза па лініі славяне-балты. Па-трэцяе, ідэя такога саюза заснавана на лжывым тэзісе, што Расія — сугуба азіяцкая дзяржава. Між тым, у класічнай геапалітыцы, Уладзівасток — такі ж еўрапейскі горад, як і Дублін. Балтыйска-чарнаморскі саюз падзеліць дзве самыя магутныя тэлуракратычныя дзяржавы Еўразіі - Германію і Расію. Дастаткова ўспомніць бясслаўны гістарычны канец «санітарнага кардона», «малой Антанты», «балканскай Антанты», каб адчуць усю хісткасць новага бар'ера паміж гэтымі гігантамі. Пры гэтым менавіта Беларусь, як гэта ўжо бывала ў гісторыі, акажацца тым полем, аперыруючы на якім, мірным ці ваенным шляхам, сувязь паміж дзвюма звышдзяржавамі будзе аднаўлена...

З геапалітычнага пункту гледжання з бліжэйшых суседзяў найбольш падобна да Беларусі па сваіх характарыстыках Славакія. Гэта вельмі тэлуракратычная краіна, супараўнальная з намі па памерах тэрыторыі і колькасці насельніцтва. Нас родніць падабенства гістарычнага шляху, мяккая неакрэсленасць знешніх межаў, агульныя рысы ў эканоміцы — магутныя прадпрыемствы ваенна-прамысловага комплексу і даволі развітая сельская гаспадарка; аналагічныя праблемы ва ўзаемаадносінах з краінамі-дамінантамі ў былых саюзах-дзяржавах, адпаведна з Расіяй і Чэхіяй. Новая Славакія, як і Беларусь, якая нядаўна заявіла аб сваёй самастойнасці — наш патэнцыяльны саюзнік і партнёр... У перспектыве зусім верагодна, што новая цэнтральнаеўрапейская палітыка-гістарычная вось можа прайсці праз Мінск—Львоў—Браціславу...

Беларусы належаць да групы народаў, што чэрпаюць сілы ў саміх сабе, а не за межамі сваёй тэрыторыі, у іншых народаў. Гэта палітыка — унутранай сілы — з'яўляецца поўнай процілегласцю імперыялізму. Імперыялізм выкарыстоўвае жывыя сілы нацыі-метраполіі для каланізацыі аддаленых тэрыторый і іх эксплуатацыі.

Палітыка сілы, прымальная для Беларусі, уяўляе сабой, галоўным чынам, палітыку раўнавагі. Яе сіла заключаецца ў майстэрстве ствараць пастаянную раўнавагу, нягледзячы на зменлівасць гісторыі. Супярэчнасці паміж краінамі, што складаюць бліжэйшае акружэнне Беларусі — Расіяй, Украінай, Польшчай, Літвой, Латвіяй, — настолькі моцныя, а іх пазіцыі ў адносінах да яе настолькі розныя, што гэта дазваляе праводзіць палітыку раўнавагі, абапіраючыся не толькі і не столькі на ўласны патэнцыял, колькі на гэтыя супярэчнасці і адрозненні, г. зн. прымяняючы ў сваю карысць сілу суседніх дзяржаў.

ЛІТКУР'ЕР

## ВАБНЫ ПАХ ФАРБЫ



На традыцыйнай выстаўцы-праглядзе ў мінскім Доме кнігі прадстаўлены так званыя сігнальныя экземпляры кніг, якія літаральна днямі выйшлі з друку.

Няблага выглядае выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі — вось, напрыклад, цудоўна аформлены фаліянт «Чырвоная кніга Беларусі». Парадавала навінкамі і «Мастацкая літаратура», у прыватнасці, — кнігай «Не пакідай нас, Вера» — зборнікам успамінаў пра выдатную пісьменніцу і чалавека Веру Сямёнаўну Палтаран. Нягледзячы на ўсе цяжкасці, спяшаецца да чытача калектыўная манаграфія «Музычны тэатр Беларусі: 1917—1959», выпушчаная выдавецтвам «Навука і тэхніка». Аператыўным аглядам сучаснай беларускай паэзіі з'яўляецца кніга «На парозе 90-х».

Маляўнічыя кніжкі выдавецтва «Юнацтва», якое рупіцца, каб дзеткі своечасова атрымалі для сябе цікавыя творы. Прадстаўлены плён дзейнасці выдавецтваў «Вышэйшая школа», «Універсітэцкае», «Народная асвета», а таксама недзяржаўных выдавецкіх структур. Поле іх дзейнасці шырокае — стэнд «Рэлігійныя выданні» з'явіўся не без іх дапамогі. Хоць, думаецца, маглі б яны выпускаць куды больш беларускамоўнай літаратуры.

## ПРЫЦЯГНУЎ «СЛЕД ВАЎКАЛАКА»

Раманам Леаніда Дайнекі «След ваўкалака» зацікавіліся артысты Барысаўскага гарадскога тэатра «Відарыс». Паводле сцэнарыя, спектакль, які паставіў рэжысёр Уладзімір Буйко /ён жа — аўтар інсцэніроўкі/, паглядзеў і сам Л. Дайнека падчас сустрэчы са сваімі чытачамі ў тэатральнай зале гарадскога Палаца культуры. У хуткім часе з работай барысаўчан змогуць пазнаёміцца і мінчане — «Відарыс» запрошаны для выступлення ў Доме літаратара.

## РАДАСНА З... «ВЯСЁЛАЙ АЗБУКАЙ»

Прэм'ера кнігі У. Ліпскага «Вясёлая азбука» ў Доме літаратара адначасова стала больш блізкім знаёмствам чытачоў і з самім аўтарам. Пра ягоную мастакоўскую і грамадзянскую дзейнасць гаварылі народны пісьменнік Беларусі І. Шамякін, М. Маляўка, У. Скарынкін, дзіцячы ўрач, сябра Дзіцячага фонду Л. Літвіновіч і іншыя.

Акцёр тэатра юнага гледача А. Станілевіч і вучні сярэдніх школ NN 56 і 198 прачыталі асобныя творы з новай кнігі. У канцэртнай праграме прыняў удзел ансамбль танца «Чабарок».

П. ГАРДЗІЕНКА

## І СЛОВАМ, І ПЕСНЯЙ

На мінулым тыдні ў Доме літаратара віталі лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Вячаслава Адамчыка. Пачалася вечарына з чароўных народных песняў у выкананні фальклорнага жаночага гурта вёскі Ахонава Дзятлаўскага раёна. Н. Гілевіч, І. Шамякін, М. Аўрамчык, С. Законнікаў, Н. Загорская, У. Марук, В. Зуёнак, які вёў вечар, міністр інфармацыі А. Бутэвіч, Г. Далідовіч, загадчык аддзела культуры Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі А. Суша, зямляк пісьменніка Л. Кіт, мастак А. Марачкін з суполкай «Пагоня» віншавалі Вячаслава Уладзіміравіча з 60-годдзем, адзначалі яго важкія набыткі ў літаратуры.

У. Бярбераў праспяваў любімую баладу В. Адамчыка «Із-пад гаю». Творы юбіляра гучалі ў выкананні мінскіх артыстаў. Была паказана мастацкая стужка «Ятрынская ведзьма» паводле твораў юбіляра.

П. Г.

АСВЕТА

## СВЯТА БЕЛАРУШЧЫНЫ Ў ШКОЛЕ

Гэты дзень у сталічнай сярэдняй школе N 171, што ва Уруччы, стаўся сапраўдным святам. Маладыя жанчыны і дзяўчаты ў нацыянальных строях. Хлопцы ў вышываных кашулях. Два маладыя, але самавітыя дзецюкі ў чорных адзежынах ды квадратовых шапках. Ці то бакалаўры, ці то магістры навук. Як пазней высветлілася — Гусоўскі і Скарына. Госці і ўдзельнікі свята разглядалі адмыслова выкананыя рукамі дзяцей самаробкі — вышыванкі, выцінанкі, аплікацыі, вырабы з саломкі і дрэва. Радаваў вока садавінай ды гароднінай куток дароў зямлі беларускай.

Гучала музыка, спевы, вяліся скокі, разыгрываліся дасціпныя сцэнкі. Была нават свая «валюта». І ўдзельнікі рознага роду спаборніцтваў, выйграўшы прыз, маглі на каляровыя жэтоны рознага кошту набыць на «кірмашы», дзе гаспадарылі персанажы з купалаўскай «Паўлінкі», смачныя смажні, дранікі, абаранкі, заліць іх гарбатай.

А прысвечана свята было немалаважнай падзеі — адкрыццю школьнага гісторыка-краязнаўчага музея. Экскурсаводы-школьнікі знаёмілі гасцей з экспанатамі, знойдзенымі пры раскопках курганоў і гарадзішчаў, з прадметамі побыту беларусаў, што захаваліся са старажытных часоў, з гербамі беларускіх гарадоў...

У свяце прыняў удзел паэт Артур Вольскі, які пажадаў стваральнікам музея далейшага плёну, выказаў упэўненасць, што музей будзе спрыяць выхаванню ў вучняў любові да роднай зямлі, прачытаў свае вершы.

Л. ГОРЦАВА

## ГІСТОРЫЮ ПІШАМ... САМІ

Газетна-выдавецкая фірма «Белая Русь» мяркуе выдаць да пачатку 1994-95 навучальнага года кнігу пад умоўнай назвай «Гісторыя Беларусі. 100 поглядаў у мінулае Бацькаўшчыны». Але каб кнігу выдаць, яе трэба напісаць. Таму і вырашана на старонках газеты «Чырвоная змена» /адным з заснавальнікаў яе і з'яўляецца згаданая фірма/ увесці рубрыку «100 артыкулаў з гісторыі Беларусі». Весці яе будзе прафесар кафедры паліталогіі Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта, доктар гістарычных навук М. Кузняцоў. Ён, а таксама іншыя аўтарытэтныя аўтары /а іх больш як 15 чалавек/ у сваіх артыкулах адлюструюць найбольш важныя моманты нашай шматпакутнай і багатай гісторыі.

ТЭАТР

## БЕНЕФІС, БЕНЕФІС...



Аднавіць у Віцебску добрую традыцыю акцёрскага бенефісу ўзяўся Акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа. На ролю бенефіцыянта выбраны нядаўні юбіляр — 50-гадовы народны артыст Беларусі Яўген Шыпіла.

З маналогаў, сцэн лепшых спектакляў, у якіх іграў акцёр, узнік своеасаблівы монаспектакль «Яшчэ не вечар...» Пасля яго коласаўцы паказалі капуснік, дзе вобразы, створаныя Шыпілам, ажывуць у інтэрпрэтацыі ягоных калег. «Маем надзею, — гаворыць загадчык інфармацыйнай часткі тэатра Святлана Дашкевіч, — што гледачы адкрылі для сябе нямала новага, бо народны артыст рэспублікі прадстаўлены на імпрэзе і як кінаакцёр, і як знаходлівы апавядальнік, і нават як паэт...»

Ю. СЦЯПАНАЎ

## ДЛЯ ДЗЕТАК МАЛЕНЬКІХ, І НЕ ТОЛЬКІ...

Самыя маленькія, а значыць, і самыя ўдзячныя гледачы прыйшлі 14 лістапада на прэм'еру ў Берасцейскі тэатр лялек. Казку па п'есе Я. Спяранскага «Незвычайныя спаборніцтвы» /у перакладзе на беларускую мову/ паставіў для іх заслужаны артыст Беларусі Юрый Сарычаў. Лялькі і дэкарацыі для спектакля зрабіў Уладзімір Зайцаў, а музыку напісаў Анатоль Багданаў. Разлічаная на дзетсадаўскі ўзрост, пастаноўка перш за ўсё пабудавана на акцёрскіх работах, што ажыўляе і «расфарбоўвае» даволі просты і сціплы сюжэт пра тое, як Вожыкі і Заяц спаборнічалі ў бегу за пірог з капустаю... Дзятва ж на дзеянне рэагавала непасрэдна, жыва і весела.

У той жа дзень, 14 лістапада, тэатр распачаў шэраг мерапрыемстваў, прысвечаных дзецям-сіротам, дзецям са шматдзетных сем'яў і дзецям-інвалідам. Першае адкрылася дабрачынным спектаклем А. Абу-Бакара «Збанок-гаварун» у пастаноўцы Сяргея Юркевіча. Дапамагала яго ладзіць ТАА «Алент», якое выказала жаданне стаць першым фундатарам запланаванай акцыі. Увогуле, падобныя мерапрыемствы будуць праходзіць штомесяц, наступным разам такое свята для абдзеленых лёсам дзяцей мяркуецца наладзіць 19 снежня, напярэдадні Калядаў.

Ігар СІДАРУК,
загадчык літаратурнай часткі Берасцейскага тэатра лялек

ПАМЯЦЬ

## ДЗЕ ЖЫЎ ПАЭТ

Мемарыяльная дошка з'явілася на доме нумар дзевяць па мінскай вуліцы Казлова. Адкрыта яна ў гонар вядомага беларускага паэта, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Анатоля Грачанікава, які доўгі час жыў у гэтым доме — да таго самага дня, калі бязлітасная смерць забрала яго з жыцця ў самым росквіце фізічных і творчых сіл.

Прыгадаць Анатоля Сямёнавіча добрым, удзячным словам прыйшлі яго калегі па пяры, чытачы, сябры-маладосцеўцы — А. Грачанікаў, як вядома, працаваў галоўным рэдактарам часопіса «Маладосць». Адзначалася, што таленавітыя творы паэта перажываюць свой час, бо нясуць у сабе агульначалавечыя каштоўнасці, ідэі дабрыні, шчодрасці, гуманізму, якім заўсёды ёсць месца на зямлі.

*Фота М. ХАМЦА*

## «ПАЛЕССЯ МІЛАЕ ДЗІЦЯ...»



*Помнік Я.Янішчыц на Маскоўскіх могілках. Аўтар — Л.Гумілеўскі.*

Менавіта так называецца дакументальная стужка, прысвечаная жыццёваму і творчаму шляху Яўгеніі Янішчыц і паказаная Беларускім тэлебачаннем у суботу, у дзень нараджэння паэтэсы. Усяго толькі было б ёй зараз сорак пяць... Стваральнікі фільма /аўтар сцэнарыя У. Субат, рэжысёр В. Гумілеўская/ імкнуліся паказаць шырокаму гледачу, кім была Я. Янішчыц для беларускай літаратуры і кім застанецца яна назаўсёды ў ёй. /Дзякуй Богу, знайшліся фундатары гэтай стужкі, за што ім вялікі дзякуй!/.

Воблік Я. Янішчыц, якая калі і выдзялялася сярод іншых, дык сваім вялікім талентам і вялікай любоўю да Бацькаўшчыны, паўстаў з расказаў блізкіх ёй людзей — маці М. Янішчыц, суседкі Л. Саўчуковай, іншых землякоў. Слова пра яе сказалі народны паэт Беларусі Н. Гілевіч, Н. Мацяш, з якой Я. Янішчыц сябравала. Вершы сваёй знакамітай зямлячкі чыталі школьнікі, гучаў голас і самой Яўгеніі Іосіфаўны...

А яна, як слушна сказаў Н. Гілевіч, не толькі адна з многіх у нашай беларускай паэзіі, але і адна з нямногіх. Шэраг гэты яму ўяўляецца такім: Цётка — Арсеннева — Геніюш — Янішчыц .

Н. К.

ВІНШУЕМ!

## НА НІВЕ ПАБРАЦІМСТВА

29 лістапада спаўняецца 70 гадоў польскаму літаратуразнаўцу-славісту, фальклярысту Францішку Сяліцкаму. Нарадзіўся ў вёсцы Мікуліна цяперашняга Вілейскага раёна, таму ў сваёй навуковай дзейнасці выходзіць і на беларускі матэрыял. У прыватнасці, Ф. Сяліцкі з'яўляецца аўтарам падручніка «Беларускі фальклор», што пабачыў свет у 1983 годзе. Дачыненне да зямлі бацькоў маюць такія яго працы, як «Беларускія вясельныя абрады і песні з вёскі Мікуліна» /1979/, «Беларускія жартоўныя песні і вершы ваколіц вёскі Мікуліна» /1980/. «Пахавальныя і дзядоўскія песні, якія выконваліся ў б. Вілейскім павеце» /1982/, «Відовішчы ў вёсцы Мікуліна б. Вілейскага павета ў міжваенны перыяд» /1982/ і іншыя.

АНОНС

## КАБ ЗАГУЧАЛІ ПАЛАНЕЗЫ

Міжнародны музычны фестываль-конкурс імя М. Кл. Агінскага адбудзецца 3—5 снежня ў Смаргоні. Сюды прыедуць таленавітыя юныя музыкі з розных мясцін нашай Беларусі, а таксама госці з Літвы, Польшчы, Францыі, Італіі, тых краін, з якімі быў цесна звязаны жыццёвы і творчы лёс славутага кампазітара.

Гэты фестываль-конкурс будзе мець шырокі грамадскі рэзананс і стане яшчэ адным упэўненым і плённым крокам на шляху адраджэння нацыянальнай музычнай спадчыны і культуры, адукацыі і выхавання маладога пакалення, развіцця і ўмацавання культурных сувязей паміж народамі розных краін.

Каб арганізаваць і правесці важнае мерапрыемства на добрым узроўні, неабходны значныя грашовыя сродкі, якіх, на жаль, востра не хапае ў бюджэтах мясцовых гаррайсаветаў.

Таму звяртаемся да кіраўнікоў прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў, калгасаў і саўгасаў, камерцыйных структур, прыватных прадпрымальнікаў нашай рэспублікі з просьбай аказаць пасільную фінансавую дапамогу ў арганізацыі і правядзенні гэтага мерапрыемства.

Грашовыя сродкі просім пералічваць на разліковы рахунак 142430 у смаргонскім аддзяленні Белаграпрамбанка.

Тэлефоны для даведак: /01592/ 2-25-91, 2-29-21, 5-13-95.

АРГКАМІТЭТ

## ЗАПРАШАЕ ДОМ ЛІТАРАТАРА

Снежаньская афіша багата на шэраг мерапрыемстваў. *1 снежня* мяркуецца правесці прэм'еру кнігі П. Праднікава «За калючым дротам».

*3 снежня* Барысаўскі народны тэатр «Відарыс» пакажа спектакль «След ваўкалака» паводле аднайменнага рамана Л. Дайнекі.

Старонкі жыццёвага і творчага шляху Н. Арсенневай будуць «перагорнуты» ў час вечарыны «Будзеш жыць і расці, Беларусь!» *7 снежня.* Вечарына прысвечана 90-годдзю паэтэсы.

На прэзентацыю кнігі «Свой чалавек» */10 снежня/* М. Вяршынін запрасіў тэатр мініяцюр і тэатр гумару «Плюс-мінус».

Прэм'ера фільма «Магілёў» /аўтар сцэнарыя Ю. Чудзін, рэжысёр У. Колас/ пройдзе *14 снежня.*

Спаўняецца 75 гадоў з дня нараджэння К. Кірэенкі. «Хачу жывую думу думаць...» — так называецца вечарына, прысвечаная яго памяці. Яна адбудзецца *16 снежня.*

Вечарына дакументальных музычна-этнаграфічных фільмаў «Палескія калядкі» і «Крывавыя вечары» /аўтар сцэнарыя З. Мажэйка, рэжысёры адпаведна Н. Сава і Ю. Лысятаў/ прызначана на *21 снежня.*

А *23 снежня* — прэм'ера першай кнігі паэзіі К. Кудласевіча «Плакун-трава».

Бліжэй да Новага года, *28 снежня,* Згуртаванне Беларускай Шляхты прапануе калядную канцэртную праграму.

Запомніце: згаданыя мерапрыемствы пачынаюцца ў *18 гадз. 30 мін.*

Секцыя ж перакладу збярэцца *15 снежня а 15 гадз.*

Беларускае замежжа

# Янка ХАНЕНКА:
# «МАГЧЫМА, Я БЫЎ ПЕРШЫМ БЕЛАРУСКІМ ДЫСІДЭНТАМ...»

**— Янка, колькі гадоў, як ты пакінуў Беларусь і падаўся ў эміграцыю?**

— Мо з 20 ужо.

**— І вось вясной мінулага года ты ўпершыню адважыўся паехаць на радзіму... Напэўна, было вялікае жаданне ўбачыць родную зямлю і родных людзей, але, мабыць, быў і страх?..**

— Так, нейкі чарвячок грыз... Хоць супраць мяне, як мне заявілі афіцыйна, ніякіх абвінавачванняў не было. Але ўсё роўна я не ведаў, што будзе, калі прыеду. Мой бос



пытаўся ў мяне некалькі разоў: а ці можна табе ехаць? Ці не арыштуюць цябе? А я рашыў: што будзе, тое будзе...

**— Адчайны ты чалавек...**

— Можа, але каб на Беларусі была тая самая сістэма, што і пяць гадоў таму, я ніколі не паехаў бы. Гэта было раўнасільна таму, што я сам прыехаў і здаўся на расправу. А што расправа была б — не сумняваюся...

**— А як дома ўспрынялі вяртанне «аблуднага» сына?**

— Вельмі прыхільна. Усе былі рады ўбачыцца пасля столькіх гадоў расстання. Паўвёскі сабралася ў нашай хаце. Людзі казалі: маладзец! Добра зрабіў, што застаўся ў Амерыцы...

**— Янка, як, па-твойму, сёння на Беларусі?**

— Бедна ды весела. З палітычнага гледжання нічога не мяняецца.

Яшчэ горш становіцца. Эканамічна таксама вельмі цяжка... Кідаецца ў вочы недавер людзей да ўлады. Рабочы чалавек па-ранейшаму бяспраўны...

**— Пасля Амерыкі табе, мусіць, дзіка было бачыць нашы крамы?**

— Калі я казаў многім людзям, што ў Амерыцы ўсё ёсць, — яны не верылі: як гэта можа ўсё быць? Як гэта так — у нас няма, а недзе ёсць? Лухта, кажуць...

**— Ты быў на Беларусі з чыста практычнымі мэтамі: наладзіць сувязь паміж амерыканскімі і беларускімі вытворцамі грузавых аўтамабіляў?**

— Так, я прадстаўляў фірму «Steel industry contractors», у якой зараз працую. Мы цікавіліся беларускімі самазваламі, пагрузчыкамі, хацелі купіць некалькі БЕЛАЗаў, апрабаваць іх тут і пасля паспрабаваць прадаваць. Падпісалі адпаведны кантракт. Машыны нам вельмі спадабаліся, і ўся справа зараз толькі ў цэнах: якія яны будуць...

**— Ці ўяўляў ты, калі прымаў рашэнне стаць невяртанцам ці эмігрантам, што некалі стануць магчымы такія паездкі на бацькаўшчыну, стануць магчымы нармальныя чалавечыя кантакты з тваёй былой радзімай?**

— Тады гэта было нерэальна. Нават не марыў пра такое, назаўсёды змірыўся з думкай, што бацькаўшчына — маё мінулае жыццё... Я не быў эканамічным эмігрантам. У СССР я не хацеў жыць па сваіх палітычных перакананнях. Беларускай палітычнай эміграцыі ў пачатку 70-х гадоў практычна не існавала. Магчыма, я быў першым беларускім дысідэнтам...

**— Янка, раскажы, калі ласка, пра савецкі кавалак свайго жыцця.**

— Родам я са Светлагорскага раёна Гомельскай вобласці. Адтуль паехаў у Новарасійск, дзе ў марской школе вучыўся на матарыста. Служыў у арміі, там уступіў у партыю. Пасля таго, як мне выдалі партыйны білет, я казаў бацьку, што гэта не тая партыя, у якой я хацеў бы быць. Але, сам ведаеш, выбіраць не прыходзілася...

Пасля вучобы, як член партыі, я мог застацца ў Новарасійску альбо паехаць у Рыгу ці Мурманск. Я выбраў Мурманск. Уладкаваўся ў параходстве загранплавання. Служыў у гандлёвым флоце. На савецкіх суднах абышоў амаль увесь свет. Разоў шэсць быў у Канадзе, па некалькі разоў ва ўсіх марскіх еўрапейскіх краінах.

Палітычная апрацоўка маракоў тады была на вельмі высокім узроўні. Я быў сакратаром камсамольскай арганізацыі на караблі. Меў добрую рэпутацыю ў камандавання: не піў, не гуляў, вёў грамадскую работу...

**— Але, нягледзячы на гэта, прыйшоў дзень, калі ты рашыў назаўсёды пакінуць Савецкі Саюз і папрасіць палітычнага прыстанішча ў ЗША?**

— Так. І яшчэ адной з прычын, чаму я так зрабіў, было тое, што перад рэйсам я даведаўся: мяне павінны забраць афіцэрам у ваенна-марскі флот. Мне не хацелася быць ваенным. Рана ці позна я ўсё роўна апынуўся б за мяжой...

І вось вясной 1972 года сухагруз, на якім я служыў, выйшаў з Мурманска і ўзяў курс на Англію, з Англіі — на Амерыку. У ЗША мы прышвартаваліся ў порце на возеры Эры. Адтуль і пачынаецца мая эміграцкая адысея. Я прадумаў усё да дробязей. У Мурманску ў мяне засталася жонка. У час рэйса я звязаўся з ёй і папрасіў, каб яна тэлеграфавала мне: ці не цяжарная яна. Жонка дала тэлеграму: не! І я падумаў: альбо цяпер альбо невядома калі, бо мне ўжо сказалі, што гэта апошні мой рэйс. Вырашыць і прыняць рашэнне было нялёгка, але я не хацеў вяртацца. Я шмат быў за мяжой, бачыў, як жывуць людзі, бачыў дзве сістэмы, два лады жыцця. Мне таксама хацелася жыць цывілізавана. У плаванні пасля наведвання заходніх портаў я неаднойчы ўспамінаў сівую стогадовую бабулю, якая жыла ў нашай вёсцы. Яна, калі мы хадзілі ў ягады на балота, усё любіла даўніну ўспамінаць. Калісьці, расказвала яна, на Беларусі была паншчына і нашы людзі тры дні працавалі на пана, чатыры на сябе. А цяпер, казала бабуля, сем дзён на пана робяць. Пасля я часта пераконваўся, што бабуля праўду казала. У порце на Эры мы павінны былі прабыць некалькі дзён. Я рашыўся: пара, лепшага выпадку не будзе! На другі дзень мы пайшлі ў горад. Нас адпускалі толькі па траіх. Адарвацца ад сваіх напарнікаў у мяне праблемы не было. Я непрыкметна выйшаў з магазіна і змяшаўся з вулічным натоўпам. І тут я зразумеў: пачынаецца маё новае жыццё...

**— Хваляваўся ці не?**

— О, моцна хваляваўся! Пасля тры дні галава балела. Я ж не ведаў, як павядуць сябе амерыканцы — ці пакінуць мяне тут, ці аддадуць назад. Нас папярэджвалі, што нібыта з Амерыкай ёсць спецыяльнае пагадненне, згодна з якім яны перадаюць Савецкаму Саюзу ўсіх яго ўцекачоў. Да таго ж паангельску я ведаў толькі пару слоў... У першага сустрэчнага спытаў: дзе тут руская царква? Ён паказаў мне, куды ісці. У канцы вуліцы я зноў спытаў дарогу. Чалавек, да якога я звярнуўся — бывае ж такое, — ведаў рускую мову! Пытае ў мяне: «Ты з рускага карабля?» — Так, — кажу. «Заблудзіўся?» — Не! «А то, калі заблудзіўся, дык мы цябе адвязём на карабель» — Не, не, не хачу, — я замахаў рукамі. — Лепш у паліцыю.

**— А ты быў у форме?**

— Не, мы ніколі формы не насілі за мяжой, пераапраналіся ў цывільнае. Дык вось, прывезлі мяне ў паліцыю. Там працавала шмат палякаў. Калі я расказаў, хто я такі і чаго хачу, мне сказалі: мы табе паможам. Пакуль я размаўляў з начальнікам паліцыі, у паліцэйскае ўпраўленне прыехаў капітан карабля і афіцыйна заявіў, што ў горадзе прапаў савецкі марак, прасіў дапамагчы знайсці яго... Мне паабяцалі, што на карабель мяне не выдадуць, а мой лёс будуць вырашаць эміграцыйныя службы...

**— Янка, што ты адчуваў у тыя хвіліны?**

— Я быў на раздарожжы, але ўжо цвёрда ведаў, што назад ходу няма. Бо калі б я вярнуўся, то ў першым жа савецкім порце трапіў бы ці ў дурдом, ці ў турму... З Эры мяне адправілі ў Пітсбург. Там дапыталі. Цікавіліся, дзе я народжаны, хто з пахо-джання, ці належу да камуністычнай партыі, ці жанаты... Я сказаў усю праўду, нічога не хаваў. Тым часам мяне пачало шукаць савецкае пасольства. Яны запатрабавалі сустрэчы са мной. Амерыканцы кажуць: сілай мы цябе не павязём, але мы хацелі б, каб ты паехаў і сам сказаў, што ты не хочаш вяртацца, бо Саветы нам закідаюць, што мы цябе трымаем насільна... Мы прыляцелі ў Вашынгтон. Там адбылася сустрэча з прадстаўнікамі савецкага пасольства і амерыканскага ўрада. Я пацвердзіў сваё рашэнне аб тым, што не хачу вяртацца ў Савецкі Саюз і застаюся ў Амерыцы. Мне прадстаўнік пасольства кажа: адумайся, ты зрабіў невялікую памылку і ў цябе ёсць шанц выправіць яе, радзіма даруе табе гэту правіннасць, вяртайся назад! Я катэгарычна адмовіўся. Тады мне кажуць, што ў іх — савецкіх дыпламатаў — ёсць пісьмы з такой жа просьбай ад маіх бацькоў, жонкі, двух братоў... А я сяджу і думаю: а чаму ад двух братоў? Я ж маю трох... На гэтым сустрэча закончылася. Ніякай палітычнай заявы я не рабіў. Што я мог заяўляць, калі не ведаў, дзе апынуся заўтра...

**— А тыя пісьмы з дому табе аддалі?**

— Не. Мне іх нават не паказалі. Але, калі я быў цяпер дома, бацька расказваў мне, што назаўтра ж, як я застаўся ў Штатах, да нашай хаты пад'ехалі дзве машыны, выйшлі цывільныя людзі, паказалі пасведчанні і сказалі бацьку, што я ўцёк у Амерыку. У бацькавай хаце яны ператрэслі ўсе мае рэчы, забралі ўсё, што знайшлі: здымкі, лісты... Бацьку, братам загадалі пісаць лісты. Пад іх дыктоўку. Але я не думаю, што на сустрэчы былі тыя лісты. Прайшло толькі два дні і яны не паспелі б так хутка іх даставіць... Пасля гэтай сустрэчы амерыканцы заявілі, што даюць мне статус палітычнага бежанца і цяпер мной будзе апекавацца адна расейская эміграцкая арганізацыя... Усе першыя дні мяне суправаджаў чорны ўзброены паліцыянт...

**— Чаму цябе ахоўвалі?**

— Я не ведаю, але так было. У суправаджэнні таго паліцыянта я прыляцеў у Нью-Йорк. Нас спаткаў князь Кірыл Галіцын. Ён прадстаўляў Талстоўскі фонд — вядомую рускую эміграцкую арганізацыю, заснаваную дачкой Льва Талстога. Яны дапамагалі праваслаўным эмігрантам, якія прыязджалі з Расіі, Кітая, Турцыі... На Талстоўскай ферме жылі яшчэ першыя паслярэвалюцыйныя эмігранты. Фонд фінансаваў дамы састарэлых. Былі там і шыкоўныя пабудовы, — для старой рускай арыстакратыі, якая мела грошы. У старых пабудовах знайшлі прыстанак тыя, у каго даходы былі больш сціплыя — афіцэры, артысты... Там прыпыніўся і я... Мне сказалі, — пабудзь, акліматызуйся, падвучы ангельскую мову, а тады сам вырашыш, што рабіць далей... Іншага выбару ў мяне не было...

**— Янка, колькі табе было гадоў?**

— Дваццаць тры. На Талстоўскай ферме мне спадабалася. Побач са старымі эмігрантамі там жылі таксама палітычныя бежанцы апошняга часу. Напрыклад, маракі з танкера «Туапсе», якіх захапілі чайканшысты, перабежчыкі з Савецкай Арміі...

**— А ці прыходзілася табе сустракацца з вядомымі дзеячамі рускага замежжа?**

— Спатыкаўся я з князямі Радзянкамі, Галіцынымі, Талстымі... Яны запрашалі мяне ў госці. Сябраваў з сынам князя Радзянка. Ён выкладаў рускую мову ў амерыканскай разведшколе. Памятаю, расказваў мне, што вучыць амерыканцаў гутарковай мове — жаргону, рускай лаянцы... Было шмат цікавых сустрэч. Цяпер шкадую, што не рабіў нататкаў для памяці... На ферме я прабыў каля двух месяцаў. Прыбіраў у сталовай, разносіў абеды, чысціў бульбу, вывучаў у школе ангельскую мову. Першае, што я прачытаў у Амерыцы, быў «Архіпелаг ГУЛАГ» Аляксандра Салжаніцына. Я быў страшэнна здзіўлены і ўражаны прачытаным. Кніга раскрыла мне вочы на злачынствы сталінізму, перакanала ў правільнасці майго ўчынку. Я не хацеў жыць у краіне, дзе ні за што забівалі мільёны людзей. У бібліятэцы фонду было вельмі шмат літаратуры, выдадзенай па-руску за мяжой. Безумоўна, у асноўным гэта была антысавецкая літаратура, якая раскрыла мне вочы на рэальны стан рэчаў у маёй былой краіне.

Аднойчы, калі я сядзеў у бібліятэцы, мяне паклікалі ў вестыбюль: Янка, да тэлефона! Хто ж мне можа званіць сюды? Я ж нікога не ведаю!.. Званок быў ад Янкі Запрудніка, Вітаўта Кіпеля, Анатоля Цярэшкі... Кажуць: не пужайся! Гэта свае, беларусы. Хацелі б спаткацца з табой. У мяне, здаецца, сэрца спынілася. Беларусы! Я ж нічога не ведаў пра беларусаў у Амерыцы. На палітзанятках на караблі нам казалі, што тут ёсць нацысты, фашысты, здраднікі. А каб беларусы? Я ўпершыню з такім нецярпеннем чакаў гасцей. А пазнаёміўшыся, пераканаўся, што гэта цудоўныя людзі, патрыёты. Так я трапіў на радыё «Свабода». Тады там працавалі Адамовіч, Каханоўская, Шукелайць, Станкевіч.

**— Ты, напэўна, быў першы беларус з бацькаўшчыны, з якім яны сустрэліся на эміграцыі...**

Хутчэй першым эмігрантам-беларусам савецкага часу... Большыня старых эмігрантаў мяне сустрэла вельмі добра. Але былі і такія, хто закідаў, нібыта я падасланы, каб шпіёніць у асяроддзі беларускай эміграцыі. Такія заходы я ўспрымаў з гумарам. Смех ды годзе!

А ў хуткім часе ў Кліўлендзе меўся адбыцца з'езд арганізацыі беларуска-амерыканскай моладзі. Адзін з арганізатараў з'езда — Сяргей Карніловіч запрасіў мяне прыняць удзел у гэтым мерапрыемстве. Я з задавальненнем прыехаў у Кліўленд. Там я пазнаёміўся з Сяргеем Плотнікавым. Яго бацька — былы царскі афіцэр. Маці Сяргея жыла ў манастыры. І мы паехалі праведаць яе. Зайшлі ў пакой, а там усе сцены ў іконах і партрэтах. Я прыгледзеўся, бачу — усюды адзін і той жа чалавек. Ён мне падаўся знаёмым, але я не пазнаў яго. А хто гэта, пытаю ў маці Плотнікава. Можа, хто ваш? Наш, а як жа. Наш ЦАР! Яна з такой гордасцю вымавіла ЦАР, што я ад сваёй нетактоўнасці пачырванеў і гатовы быў у той момант праз зямлю праваліцца... На з'езд у Кліўлендзе сабралася беларуская моладзь з усёй Амерыкі. І зноў мне прыйшлося здзівіцца: мае равеснікі ці мо крыху старэйшыя хлопцы і дзяўчаты размаўлялі па-беларуску...

**— А ты?**

— І я таксама. Перайсці мне было няцяжка. Я ж гадаваўся ў вёсцы. Але не думаў, што такое магчыма ў Амерыцы. Пачуўшы родную мову, старадаўнія песні, убачыўшы беларускія танцы, я перажыў сапраўднае ўзрушэнне! Я сустрэў тое, што мне памяталася з дзяцінства. Я пачуўся, як у сваёй вёсцы... Пазней я шмат разоў выязджаў з Кліўленда, але мяне заўжды цягнула сюды. Пасля Кліўленда я вярнуўся ў Нью-Йорк. Працаваў на суднаверфі. Хацеў трапіць у амерыканскі флот, але гэта аказалася не так лёгка. Зноў вярнуўся ў Кліўленд. Была праблема з ангельскай мовай. Сумаваў. Я ж тут быў адзін, вакол нікога роднага! Дома засталіся бацькі, жонка, якіх мне вельмі не хапала. Не мог змірыцца з думкай, што ўжо ніколі не ўбачу іх. Правёў не адну бяссонную ноч, перажыў не адну гадзіну роспачы і адчаю. Цяжка было. Асабліва першыя чатыры гады. Перадумаў усё на

свеце. Я здзейсніў сваю мару — застаўся ў Амерыцы, але згубіў спакой і духоўную раўнавагу...

**— Ці не шкадаваў ты ў тыя хвіліны, што тваё жыццё прыняло такі нечаканы паварот?**

— Былі і такія моманты. Як бы тут добра ні было, але ж гэта не сваё. Не было да каго прыгарнуцца. Адзінота. Я шмат думаў, ці добра я зрабіў? Але я ніколі не падумаў, каб папрасіцца назад, у Савецкі Саюз. Я вырашыў аднойчы і канчаткова: як ні будзе, але буду тут! Быў нават момант, калі я хацеў пайсці служыць у амерыканскае войска. Але мяне не ўзялі: недастаткова ведаў мову і не меў грын-карты... Амерыканцы ў той час ваявалі ў В'етнаме...

**— І ты гатовы быў ехаць у В'етнам?**

— Я гатовы быў служыць. Думаў, у войску хутчэй мову вывучу.

**— Але ж калі б цябе ўзялі, — ты трапіў бы на вайну...**

— Магчыма. Я тады на ўсё быў згодны...

**— Цяпер, мабыць, дзякуеш Богу, што так не здарылася...**

— Так, бо маё жыццё неўзабаве прыняло зусім іншы накірунак. Я прычыніўся да беларускага асяроддзя, да грамадскага жыцця. Менавіта беларусы працягнулі мне руку дапамогі. Мне захацелася нешта рабіць для людзей. Вялікі ўплыў на мяне зрабіла нью-йоркская беларуская грамада. Памятаю, калі быў пасаджаны на турэмнае зняволенне Міхась Кукабака, мы стварылі камітэт за яго вызваленне. Мяне абралі старшынёй. Мы рабілі дэманстрацыі, мітынгі перад будынкамі савецкага пасольства, беларускай місіі ў ААН. Усе гэтыя нашы мерапрыемствы так званыя «дыпламаты» здымалі на камеру..

**— Дык вас там ужо ведалі?..**

— Не толькі там, але і ў Беларусі. Да бацькі ў вёску па два разы на год прыязджалі з раённага КДБ, каб ён пісаў лісты да мяне. Казалі, пішы, каб ехаў дадому, бо прападзе твой сын у Амерыцы, сап'ецца... А я актыўна працаваў у Беларуска-амерыканскім задзіночанні, згуртаванні моладзі, прымаў удзел у царкоўным жыцці. Мала-памалу ўцягнуўся ў грамадскую дзейнасць, жыццё набыло сэнс і пэўнасць.

**— Янка, як склаўся твой асабісты лёс?**

— Было ўсяго — і добрага, і кепскага. Амерыканцы, калі дадуць дазвол на жыхарства, на працу, — адразу забываюць, што ты эмігрант. Клапаціся пра сябе сам, выбірай сваё жыццё сам, а не хочаш, — едзь туды, адкуль прыехаў. Год за годам у мяне ўсё ўсталявалася. Але заставалася праблема кантактаў з бацькамі. Мае лісты не даходзілі. Тады бацька звярнуўся да дзяржаўнага сакратара ЗША Кісенджэра: што з маім сынам? У Міністэрстве замежных спраў мне сказалі: напішы ліст і мы праз амерыканскую амбасаду ў Маскве перададзім яго бацьку. Я так і зрабіў. Пасля гэтага ўсталявалася трывалая перапіска. Напісаў я і сваёй былой жонцы. Напісаў усё, як ёсць, — што назад не прыеду, а цябе да мяне не выпусцяць, таму выходзь замуж і прабач... Цяпер у яе новая сям'я... Жаніўся і я. Жонка мая таксама беларуска. У нас расце сын — Янка...

**— Сына ты выхоўваеш у беларускім духу ці ён у цябе амерыканец?**

— Я хачу, каб ён вырас беларусам. Дома мы стараемся размаўляць толькі па-беларуску, каб ён з малых год чуў, як гучыць роднае слова.

**— Янка, у Амерыцы ты знайшоў сваю долю, стаў беларускім палітычным дзеячам...**

— Ведаеш, усю беларускую працу мы робім тут не дзеля нейкай славы ці падзякі. Гэта наша разуменне, што мы мусім працаваць дзеля Беларусі. І мы робім усё, што можам, што ў нашых сілах... Для мяне ўзорам самаадданага служэння бацькаўшчыне з'яўляецца дзейнасць двух беларускіх падзвіжнікаў і маіх старэйшых сяброў — Сяргея Карніловіча і Кастуся Калошы, якія заснавалі ля Кліўленда грамадска-культурнае селішча «Полацак». Мы хочам, каб наш «Полацак» быў маленькай Беларуссю ў Амерыцы. Тут мы святкуем нашы нацыянальныя даты, ладзім супольныя імпрэзы... Але грамада наша ўбывае. Новых эмігрантаў прыязджае мала. Хацелася б, каб у нас часцей бывалі госці з Беларусі, каб сувязь з Бацькаўшчынай дапамагала нам пераадольваць ростань, каб наш «Полацак» лучыў Беларусь з Амерыкай...

**— Янка, мне падалося, што за 20 гадоў эміграцыі ты так і не стаўся амерыканцам...**

— Ну не ведаю... Я грамадзянін Злучаных Штатаў. Але тое, што на эміграцыі я стаўся большым беларусам, чым быў ім дома, — гэта факт!

**Гутарыў Леанід ПРАНЧАК**

# ПАД ПЫТАННЕМ — ЗАХАВАННЕ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ПАМЯЦІ

## БІБЛІЯТЭКІ БЕЛАРУСІ Ў НОВЫХ ЭКАНАМІЧНЫХ УМОВАХ

Культурны ўзровень краіны ў цывілізаваным свеце ацэньваецца па ўзроўні пастаноўкі бібліятэчнай справы. У якім жа стане сёння знаходзяцца публічныя бібліятэкі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, якія з'яўляюцца часткай нацыянальнай культуры і заклікаsuccessfully служыць справе адраджэння духоўнасці народа? Сёння, ва ўмовах рынку, бібліятэкараў ахоплівае непакой за лёс бібліятэк. Так, у рэспубліцы ідзе ўпарадкаванне і рэарганізацыя сеткі бібліятэк з улікам мясцовых умоў, стварэнне шматгаліновых культурных устаноў /бібліятэк сямейнага чытання, бібліятэк-музеяў/, аб'яднанне сельскіх і школьных бібліятэк. Але ў асобных раёнах назіраюцца трывожныя тэндэнцыі: мясцовыя Саветы, атрымаўшы вялікія правы ў сферы культурнай дзейнасці, пачалі самавольна ліквідоўваць бібліятэкі, а багатыя фонды, якія збіраліся гадамі, расфарміроўваць. Так, у Радунскай сельскай бібліятэцы Пружанскага раёна калгас проста-напроста забраў памяшканне, якое знаходзілася на яго балансе, і 360 чытачоў засталіся без бібліятэкі, без кніг. Валявым рашэннем Брэсцкага райвыканкама зачынена Плоскаўская сельская бібліятэка, якая абслугоўвала каля 500 чытачоў, а памяшканне, дзе яна размяшчалася, прададзена Брэсцкаму райспажыўсаюзу. Незайздросны лёс напаткаў і Ласоснаўскую сельскую бібліятэку, якая абслугоўвала 500 чытачоў. Фінскі домік, дзе яна размяшчалася, прададзены прыватнай асобе, а бібліятэка пераведзена ў цёмнае, халоднае памяшканне. І ўсё гэта — рашэннем сесіі Баранавіцкага с/с Гродзенскага раёна.

Інфляцыя, павышэнне арэнднай платы за памяшканні ставіць бібліятэкі ў жорсткія ўмовы. Так, Жыткавіцкая раённая бібліятэка за арэнду памяшкання павінна плаціць у некалькі разоў больш, чым запланавана бюджэтам, а ён, нягледзячы на інфляцыю, амаль не павялічваецца. З-за непамерна вялікага кошту арэнды, які спагнала БМУ, ліквідавалася бібліятэка Столінскай цэнтралізаванай сістэмы.

Адсутнасць неабходнага бюджэтнага фінансавання адбіваецца і на набыцці кніг, асабліва з павышэннем іх кошту. Так, толькі ў першым квартале 1993 г. адна кніга ў сярэднім каштавала 74 руб., у другім — 160 руб., а ўжо ў трэцім — 450 руб. Індэксацыя на камплектаванне ў шэрагу бібліятэк Беларусі зусім нязначная. Напрыклад, у параўнанні з 1991 г. на набыццё кніг і перыядычнага друку бібліятэкам Мінскай вобласці было адпушчана 13,8 % /1006,8 тыс. руб./ ад усіх выдаткаў на ўтрыманне бібліятэк, у 1992 г. — толькі 6 % /7273,8 тыс.руб./ з улікам інфляцыі. У асобных сістэмах бібліятэк скарачэнне сродкаў вельмі значнае. Так, у Валожынскай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэме грашовыя сродкі на камплектаванне паменшыліся з 19,3 % да 2,2 %, Мінскай ЦБС адпаведна — 20 % і 4,4 %, Дзяржынскай — 18,7 % і 3,5 % і г.д. У выніку змяншэння фінансавання скарацілася і паступленне новай літаратуры. У параўнанні з 1990 г. аб'ём паступленняў літаратуры ў дзяржаўныя публічныя бібліятэкі Беларусі скараціўся больш чым на чвэрць /было 5486,3 тыс. экз., стала — 4094,7 тыс. экз./, перыядычная падпіска зменшылася больш чым удвая. Сёння ў абласныя бібліятэкі не паступае рэспубліканскі абавязковы экземпляр, а гэта значыць, што не толькі парушана паўната паступлення нацыянальнай літаратуры, а пад пытаннем захаванне нацыянальнай памяці, падтрымка інтэлектуальнага ўзроўню грамадства. Трэба адзначыць, што і за тыя невялікія грошы, што адпускаюць бібліятэкам на камплектаванне, набыць неабходныя выданні няма як. Беларускія выдавецтвы не толькі скарачаюць выпуск сваёй прадукцыі як па тыражах /у параўнанні з 1990 г. на 34,0 %/, так і па назвах /на 18 %/, але і выпускаюць у асноўным «камерцыйную літаратуру»: «крутыя» дэтэктывы, кнігі жахаў, раманы пра секс. Значна скараціўся выпуск літаратуры, якая мае прыярытэтную сацыяльную і культурную значнасць — навуковай, навукова-папулярнай, даведачнай, кніг, якія далучаюць чытача да агульначалавечых каштоўнасцей. У той час, як паказваюць сацыялагічныя даследаванні, праведзеныя Нацыянальнай бібліятэкай, змяніліся інфармацыйныя патрэбы чытачоў. Адраджаецца інтарэс да гісторыі, філасофіі, галіновай літаратуры, класікі. Павысіўся попыт на даведнікі, слоўнікі, галіновыя энцыклапедыі, асабліва беларускамоўныя. Узрос інтарэс да беларускай /айчыннай/ гісторыі, літаратуры, мовы, вытокаў нацыянальнай культуры. Але задаволіць попыт няма чым. Сотні чытачоў кожны дзень не маюць магчымасці атрымліваць літаратуру па гісторыі Беларусі і культуры 20—30 гг., літаратуразнаўстве, асабліва па літаратурнай крытыцы, сучасных праблемах эканомікі Беларусі, пра ўдзел розных партый у рэвалюцыі і г. д. Вывучэнне чытацкага попыту, праведзенае Нацыянальнай бібліятэкай, паказала, што ў 63 выпадках са 100 у бібліятэках адсутнічае патрэбная кніга, вострадэфіцытная літаратура недаступна прыблізна пятай частцы чытачоў. Чытачы сталі менш звяртаць увагі, на якой мове напісана кніга. Сёння для іх галоўнае — яе мастацкая вартасць. Так, кнігі Э. Хемінгуэя «По ком звонит колокол», Ж. Сіменона «Под страхом смерти», К. Маккалоу «Поющие в терновнике» чытаюць з ахвотай і на беларускай мове. Але за тры апошнія гады на беларускай мове дзяржаўнымі выдавецтвамі выдадзена ўсяго 35 % назваў кніг /1152/ ад іх агульнай колькасці.

Для папулярызацыі беларускай мовы важна, каб лепшыя кнігі розных аўтараў, якія карыстаюцца павышаным попытам, выходзілі на роднай мове. Відавочна, што бібліятэкі, не маючы ў фондах актуальнай, неабходнай чытачам літаратуры, губляюць свае функцыі — інфармацыйныя і асветніцкія, бо без выданняў /кніг/ няма і бібліятэк.

Па-сапраўднаму адчуваюць кніжны голад дзіцячыя бібліятэкі. За два апошнія гады выдавецтвы «Юнацтва» і «Народная асвета» выканалі заказы бібліятэк на 26—40 % як па тыражах, так і па назвах. Меншай з кожным годам становіцца доля выпуску навукова-папулярнай літаратуры: у параўнанні з 1990 г. яе выпуск паменшыўся на 50 %. Калі палічыць, што дзіцячыя бібліятэкі будуць камплектаваць свае фонды толькі прадукцыяй «Юнацтва» і «Народнай асветы» /цяпер гэта так і ёсць, СССР — не існуе/, то за дзесяць год яны могуць набыць усяго 200—210 назваў кніг, што вельмі мала для больш чым мільёна /1181 тыс./ дзіцячых чытачоў. Адсутнічаюць, як паказала даследаванне, амаль на 70 % у бібліятэках кнігі, рэкамендаваныя для пазакласнага чытання, літаратура, якая карыстаецца попытам у чытачоў. Амаль няма для малодшага і сярэдняга ўзростаў выданняў пра нацыянальнае мастацтва, кніг пра паходжанне вёсак, гарадоў, дзяржаўных сімвалаў. Не знайсці гэтых кніг і ў кнігарнях. Даследаванне, праведзенае Нацыянальнай бібліятэкай на сяле, паказала, што ў большасці сельскіх дзяцей хатнія бібліятэкі вельмі сціплыя /усяго да 50 кніжак/, а ў кожнага восьмага яны наогул адсутнічаюць. Цяпер становішча яшчэ больш пагоршыцца, бо шалёныя цэны на кнігі і перыядычныя выданні, рэзкае абнішчанне насельніцтва пазбаўляюць іхніх бацькоў магчымасці набываць літаратуру, вымушаюць адмаўляцца ад падпіскі на перыёдыку. Далёка не ўсе бацькі могуць у наш час дазволіць сваім дзецям займацца ў розных гуртках, аб'яднаннях, спартыўных секцыях, бо за гэта цяпер трэба плаціць. Таму амаль адзінай даступнай і бясплатнай крыніцай ведаў застаюцца бібліятэкі, якім жыццёва неабходна падтрымка дзяржавы.

Сёння бібліятэкам патрэбна індэксацыя іх бюджэтных сродкаў у адпаведнасці з узроўнем цэн на кнігі, перыядычныя выданні і іншыя паслугі. На наш погляд, дзіцячая кніга павінна займаць прыярытэтнае месца. Патрэбен дзяржзаказ на выданні дзіцячай літаратуры. Неабходна перакласці на беларускую мову і перавыдаць лепшую галіновую літаратуру, так званую дзіцячую класіку. Бібліятэкам вельмі патрэбна беларускамоўная літаратура. Шэсць кніг, якія ўвайшлі ў дзяржзаказ на 1993 г. ад публічных бібліятэк Беларусі, — гэта крок, але зусім невялікі. Нацыянальнай бібліятэкай падрыхтаваны спіс шэрагу кніг, якія ў першую чаргу неабходны бібліятэкам.

Сёння бібліятэкам не хапае не толькі кніг, а і дакладнай інфармацыі аб тым, што друкуецца і выходзіць у Беларусі. Газета «Кнігарня» не дае поўнай інфармацыі пра ўсю выдаваемую ў рэспубліцы прадукцыю. Улічваючы, што кнігі беларускіх выдавецтваў сталі амаль адзінай крыніцай камплектавання бібліятэк рэспублікі і тое, што 50 % іх ідзе без аб'яў у сумесных прадпрыемствах і кааператывах, наяўнасць такой інфармацыі вельмі неабходная.

Вельмі засмучае і нізкі ўзровень матэрыяльна-тэхнічнай базы бібліятэк. Амаль палова бібліятэк /48 % — 2498/ маюць памяшканне да 50 кв. м, сярод іх 47 бібліятэк у гарадах і пасёлках. 53 бібліятэкі знаходзяцца ў аварыйным стане.

Не лепшае і тэхнічнае аснашчэнне бібліятэк. Адмоўна ўплывае на якасць абслугоўвання чытачоў, на захаванасць фондаў адсутнасць у бібліятэках множыцельна-капіравальных апаратаў, сучаснага абсталявання, асабліва пераплётных станкоў, празрыстай самаклейнай плёнкі і іншых матэрыялаў.

Адсутнічае ў бібліятэках практычная, шматфункцыянальная мэбля. Бібліятэкі — гэта інфармацыйныя цэнтры, у профіль камплектавання якіх павінны ўваходзіць і не кніжныя носьбіты інфармацыі: аўдыёвізуальныя матэрыялы, мікраафішы, мікрафільмы, тэхнічныя сродкі. Але ў час чарговай кампаніі барацьбы за эканомію па рашэнні фінансавых органаў у шэрагу раённых, гарадскіх бібліятэк забралі тэлевізары, магнітафоны, дыяпраектары, а цяпер невядома, як і за што іх набыць.

Слабая і сацыяльная абароненасць бібліятэкараў. Асабліва тых, якія працуюць у зоне чарнобыльскай аварыі. Працаваць там нялёгка, штогод памяншаецца колькасць жыхароў, а аплата бібліятэчнай працы залежыць ад колькасці чытачоў і кнігавыдач. Чаму б Дзяржкампрацы РБ не перагледзець гэтае палажэнне і не аднесці бібліятэкі Чарнобыльскай зоны мінімум да III групы па аплаце працы /існуе чатыры групы/.

Вырашыць усе гэтыя задачы — значыць выратаваць бібліятэкі, фундамент культуры.

**Г. КУЛАГА,**
**заг. аддзела бібліятэказнаўства Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі**

З пошты "ЛіМа"

# НАВОШТА ІГНАРАВАЦЬ СЛОЎНІКІ?

Напачатку, калі па Беларускім радыё пачуў, як дыктар аб'яўляе час і вымаўляе замест мінуты хвіліна, палічыў, што гэта выпадковасць. Але пазней пераканаўся, што хвіліна рашуча выжыла з маўлення мінуту не толькі ў дыктараў радыё. Хвілінай замест мінуты пачалі карыстацца на Беларускім тэлебачанні, у перыядычным друку.

Што гэта, даніна модзе? Ці што іншае? Нават цяжка сказаць — што?

Каб адшукаць правільны адказ на гэтыя пытанні, давайце зазірнём у «Русско-белорусский словарь», выпушчаны ў 1982 годзе выдавецтвам «Беларуская савецкая энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі.

Вось семантычны аналіз у ім рускага слова «минута» ў перакладзе на беларускую мову:

МИНУТ/А 1. */часть часа/* мінута, -ты ж; **без 20 минут четыре** без 20 мінут чатыры; **10 минут пятого** 10 мінут на пятую;

2. */короткий промежуток времени/* хвіліна, -ны ж, часіна, -ны ж; 3. */часть градуса/* мінута, -ты ж; **80 градусов 30 минут** 80 градусаў 30 мінут.

Далей у артыкуле «Минута» прыводзяцца пераклады ўстойлівых выслоўяў: **с минуты на минуту** з хвіліны на хвіліну; **в свободную минуту** ў вольную хвіліну /часіну/ і г. д.

А як перакладае словы «мінута» і «хвіліна» на рускую мову «Беларуска-рускі слоўнік»? /М., Дзяржаўнае выдавецтва замежных і нацыянальных слоўнікаў, 1962 г./

МІНУТА ж., в разн. знач. минута; **без дваццаці мінут чатыры** без двадцати минут четыре; **80 градусаў 30 мінут** 80 градусов 30 минут.

ХВІЛІНА ж. 1. */короткий промежуток времени/* минута, момент м., миг м.; **у вольную хвіліну** в свободную минуту; **у адну хвіліну** в один момент; 2. */мера времени/* см. **мінута.**

Хочацца запытацца ў зачынальнікаў карыстання словам «хвіліна» замест слова «минута»: навошта ігнараваць слоўнікамі, парушаць беларускую літаратурную мову, якая ўвабрала ў сябе характэрнае з народных гаворак. Перш чым уводзіць тую ці іншую навацыю, варта заглянуць у слоўнік. Відаць, ён складаўся не так сабе, а для захавання нормаў мовы.

Такім чынам, у значэнні слоў «мінута» і «хвіліна» ў беларускай мове ёсць розніца. Як вынікае з названых слоўнікаў, першае азначае пэўную частку гадзіны, а другое — кароткі прамежак часу, які можа працягвацца некалькі секунд і некалькі мінут.

Давайце не будзем уносіць блытаніну ў нашу мову, збядняць яе.

**Леанід АНЦІПЕНКА,**
**рэдактар шклоўскай раённай газеты «Ударны фронт»**

***Напрыканцы кастрычніка 1917 года бальшавікамі, толькі што ўзяўшымі ўладу, быў абнародаваны «Дэкрэт аб зямлі». Каму з гарапашцаў магло тады прыйсці ў галаву, што дакляраваныя ў «Дэкрэце» правы і свабоды сялян новымі ўладамі ў хуткім часе будуць трансфармаваны ў вытанчаную форму прыгоннага права — навечнага замацавання земляробаў за калгасамі. Калгасны лад, знішчыўшы селяніна-гаспадара, у нашым посткамуністычным грамадстве аказаўся і найбольш кансерватыўным, непадатлівым да перамен, ваяўніча-агрэсіўным у адносінах да рынбачных рэформ.***

***Але ўсё-такі час бярэ сваё. І ў нашай рэспубліцы ўсё выразней выспявае разуменне таго, што ў новым грамадстве калгасы ў старым іх выглядзе не маюць будучыні, будучыня — за селянінам разняволеным, селянінам-уласнікам, зацікаўленым у выніках сваёй працы.***

***Таму не можа не выклікаць выключнай увагі апублікаванае ў першым нумары газеты «Новая зямля» інтэрв'ю карэспандэнта Антона Басучка з фактычна ўжо былым старшынёй славутага ў мінулым калгаса «Рассвет» імя Арлоўскага, двойчы Героем Сацыялістычнай Працы Васілём Старавойтавым, якое мы з дазволу «НЗ» перадрукоўваем.***

# Васіль СТАРАВОЙТАЎ: «НЯМА Ў КАЛГАСЕ ТАКОЙ СІЛЫ, ЯКАЯ Б ПРЫМУСІЛА ЧАЛАВЕКА ДОБРА ПРАЦАВАЦЬ»

**— Васіль Канстанцінавіч, усё сваё жыццё вы аддалі калгасу. Вас называюць стаўпом калгаснага ладу. І раптам — вы здымаеце з параднага, як кажуць, пад'езда гэта цудоўнае слова: калгас.**

— Я не стоўп калгаснага ладу. Катэгарычна адмаўляю гэтае вызначэнне Старавойтава. Калі б у мяне было больш сіл, я паспрабаваў бы папрацаваць фермерам. Сапраўдным фермерам.

**— Сапраўдным? А які сэнс вы ўкладаеце сюды?**

— Не той, які ўкладаюць тыя, хто нібыта падтрымлівае фермерства. Далі фанатыкам кусты, пасадзілі на няўдобіцу, назвалі фермерам. Працуй, канкурыруй з калгасам, даказвай, што лепш. Не вытрымае такі фермер канкурэнцыі нават з самым кволенькім калгасам, не кажучы ўжо пра наш. Загіне. І гэтым нашкодзіць усяму фермерству, дыскрэдытуе яго. Я спытаў у сваіх мужыкоў, хто хоча ў фермеры. Знайшоўся адзін такі. Я з ім пагаварыў шчыра. Слухай, калі ты першы, выберы сабе лепшую зямлю. Я табе дам бясплатна трактар, машыну, набор тэхнікі. Паспрабуй. Пакажы, што гэта такое. Ён згадзіўся. А жонка сказала: калі ты пойдзеш у гэтае ярмо, я з табой не пайду. І яна праўду кажа. Фермерства нашы людзі ўспрымаюць як катаргу. Таму што памятаюць жыццё на хутарах. Я сам помню, як працаваў на хутары дзед. Умываўся потам і крою. Не, да гэтага вяртацца нельга. Трэба інакш.

**— Дык як жа, Васіль Канстанцінавіч? Канкрэтна!**

— Паўтараю: зямлю знайсці добрую. Пасадзіць яго не аднаго, а адразу некалькі чалавек побач. І святло правесці. І дарожку. Каб ён у бальніцу змог хутка трапіць. І дзетак у школу завёз. А інакш ён не вытрымае. Памучыцца — і кіне.

**— Вы кажаце зараз, што з'яўляецеся прыхільнікам фермерства. Гэта часта гавораць старшыні. Ды справа не ідзе. І землі тыя самыя, лепшыя, не даюць, і з тэхнікай цягнуць. Пра дарогу наогул ніхто ўсур'ёз не думае. І сапраўды, мучацца фермеры і могуць кінуць сваю справу. На ваш погляд, дзе тая сіла, якая стрымлівае фермерства? У чым яна? У кім?**

— А вы пашукайце яе ў нашай гаспадарцы. Не знойдзеце! А фермераў — няма. Не ідуць.

**— Але ж у Кіраўскім раёне ёсць фермеры?**

— Ёсць. Каб атрымаць крэдыт, яны ідуць да мяне. Я даю ім гарантыю. Бяры. Калі разарышся, калгас «Рассвет» заплаціць твае даўгі. Старшыні калгасаў не супраць фермераў. Гэта — хлусня. Не падтрымлівайце яе, калі ласка.

**— А вы за іншых не гаварыце.**

— Ну, ёсць некалькі дзівакоў сярод нас. Юнцэвіч. Ён у Мінску на плошчу выходзіў: не дамо разагнаць калгасы. Яшчэ ёсць адзін калгасны дзівак. Дубко. Я не падзяляю ягонай думкі, што калгас — непарушная форма на зямлі. І ў вочы яму казаў: падумай, памазгуй, а не змагайся...

**— Рукі прэч ад калгасаў і саўгасаў! Гэта іхні лозунг.**

— Гэта нават непрыгожа.

**— Але кажуць, што на прыкладзе «Рассвета» можна пераканацца ў жыццяздольнасці калгаса, у правільнасці калгаснай ідэі, за якую ваюе ваш сябар і калега Дубко. Вунь як у вас тут прыгожа наўкола.**

— Вы не пераварочвайце мяне. Я прывяду прыклад. Да «Рассвета» я працаваў у «Раднянскім». У гаспадарцы было 1200 кароў, і ў людзей столькі. Пароўну. Гаспадарка на лепшых участках — лепшых, роўненькіх — машынамі, касілкамі два месяцы нарыхтоўвала кармы для тых 1200 кароў. А калгаснікі атрымлівалі надзелы ў кустах, дзе пойдзе толькі каса. Дык вось! За тры дні яны запасалі корм для сваіх 1200 кароў. Няма гэтай сілы ў калгасе, якая б змусіла людзей так добра працаваць?

**— А ваш «Рассвет»? Вы ж дасягнулі многага.**

— Калі «Рассвет» выстаяў і нечага дасягнуў, то з той прычыны, што трымаўся на дзяржымордзе. Спачатку Арлоўскі, а потым такі ж быў — Старавойтаў. Чаму спаць лёг на пакосе? Чаму сена калгаснае замачыў? А ну адкруці назад! Вось так і крычыш. Ці ж можна так жыць і працаваць? Калгас — не жыццёвая арганізацыя. Паганая. Так, мы тут, у «Рассвеце», прыдумвалі ўсялякія стымулы. Бясплатнае харчаванне. Адзін раз на дзень. Потым — два. Бясплатны адпачынак. Усіх — у санаторый! Бясплатны дзіцячы сад. За капейкі — усю натуральную прадукцыю. Дык колькі ж можна — бясплатна? Гэта ж разбэшчвае чалавека. Адзін фізічна моцны, другі слабы. Адзін гультай, а другі рабацяга. А атрымліваюць аднолькава, таму што працуюць калектыўна. Гэта — парок калгаса. Гэта разумеюць старшыні.

**— Аднак ваш брат, старшыня, кажа інакш. У калгасе - будучыня. Акрамя калгаса, ніхто не накорміць людзей.**

— Наш брат не ведае, што рабіць. Гэта няпроста — справіцца з сістэмай, з якой і сам зросся. Па сабе ведаю. Скажу, што мы зрабілі ў «Рассвеце», каб разбурыць гэтую ўдаўку — калгас. Невытворчыя фонды мы падзялілі адпаведна з працоўным укладам. Скажам, я атрымаў 833 тысячы, а дачка мая Наташа — 46 тысяч. Хочаш — валодай як пайшчык. Хочаш — прадай каму-небудзь.

**— Каму-небудзь староннямy?**

— Толькі ў межах калгаса. Далей слухайце. Усю прамысловую вытворчасць мы прадалі сваім людзям. Было ў мяне 14 тысяч у ашчадбанку, за ўсё жыццё назбіраў. Прадаў японскі тэлевізар, відзік, яшчэ сёе-тое добрае. І ўсе грошы ўнёс першы. За мной пайшло 350 чалавек. Купілі: кансервавы завод, цяпліцу, каўбасны цэх, сокавы цэх, шавецкі, мэблевы, цагельны завод, асфальтавы завод, кіслародны цэх. Хто хацеў — стаў уласнікам. Вытворчасць працуе, прыносіць прыбытак, уласнік атрымлівае даход. Калі вытворчасць паляціць — крах пацерпіць той, хто ёй валодае. Значыць, ён будзе клапаціцца. Уласнасць існуе ў выглядзе акцый. Акцыі размешчаны ў нашым жа банку, куды я хутка перайду працаваць старшынёй праўлення.

**— Значыць, калгаса няма, а ёсць...**

— Ёсць акцыянернае таварыства закрытага тыпу. Толькі свае, рассветаўцы. Хочаш выйсці з акцыянернага таварыства — бяры сваю долю і ідзі. Бяры жывёлай, трактарамі, грашыма. Бяры ў арэнду кавалак зямлі, працуй сам. На кожнага працаўніка ў нас атрымалася па 2 гектары 20 сотак. Іх прадаваць нельга. Забараняе закон.

**— Знайшліся людзі, якія пайшлі са сваёй доляй?**

— Былі. Пайшло прыкладна восем мільёнаў рублёў. Бяры на здароўе. Гэта — тваё, ты зарабіў за жыццё. Вось чым падабаецца мне цяперашні час. Я — свабодны. Адзінае, што скоўвае — загарадзілі Расію, Украіну. Адабралі рубель. Усё-такі не да канца вызвалілі.

**— Васіль Канстанцінавіч, давайце падумаем вось над чым. Што можа адбыцца, калі ў маштабах рэспублікі правесці акцыяніраванне ўсіх калгасаў? Ці не будзе частка калгаснай маёмасці прапіта, расцягнута, праматана?**

— Добранька прасачыце за мной. Калі пачнецца купля-продаж, капіталы пераліюцца да тых, хто верыць у акцыі. Да тых, хто сур'ёзны. Хто выратуе маёмасць ад гібелі. Але ўсе — нашы. Таварыства закрытага тыпу. Прадаём толькі сваім. Ну, і ёсць 12 чалавек збоку. Маскоўскія, мінскія, кіраўскія, ёсць нават з Эстоніі. Яны штосьці зрабілі для калгаса, удасканалілі нашу вытворчасць.

**— Найбольш прадпрымальныя могуць скупіць акцыі і сесці на дывідэнды. А хто будзе працаваць?**

— Ноймем!

**— Наёмныя будуць працаваць лепш, чым сённяшнія калгаснікі?**

— А што ім застаецца рабіць, калі захочуць жыць?

**— Вы казалі пра стратнасць калектыўнай працы. Але ў вас працуюць разам, хоць вывеска іншая. Усё роўна дзяржымoрда патрэбен.**

— Не, без яго ўжо можна абысціся. Цяпер я амаль перастаў кіраваць гаспадаркай. Раз на месяц праводжу нараду акцыянернага таварыства. Прычым, падводзім толькі фінансавы вынік. Навошта савету лезці на прадпрыемствы? Яны самастойныя. Ва ўсіх свае рахункі ў банку. Свае парадкі. Свая дысцыпліна. Самі! Грошы ёсць — добра. Няма — круцяцца.

**— Дык, можа, дзяржымoрда цяпер перамясціўся туды, ніжэй, у калектывы?**

— Там кіруе тэхналогія.

**— Ці можна разглядаць ваша акцыянернае таварыства як прамежкавую мадэль на шляху да асацыяцыі фермераў?**

— Далейшы рух упіраецца ў зямлю. Паслухайце ўважліва! У нас ёсць прысядзібныя ўчасткі. Па адным гектары. Мы іх выкупілі ва ўласнасць. Прысядзібныя ўчасткі — дазваляецца. Паспрабуй апрацаваць 1 га. Таму я сабраў такіх дармаедаў, як сам, — і мы аб'ядналіся. 31 чалавек. І зямлю сваю аб'ядналі. Я — старшыня кааператыву па апрацоўцы прысядзібных участкаў. Купілі сабе трактар. Новы. Не сталі браць у калгасе, каб не сказалі, што, маўляў, старшыня бярэ сабе. Купілі сеялку. І яшчэ сёе-тое. А чаго не маем — бяром за грошы ў калгасе. І цудоўна. Лёгка апрацоўваць зямлю. І зямлі лёгка. Без памежных слупоў і межаў. Без пустазелля на межах. У нас нават агульны севазварот ёсць, каб зямля лепш радзіла. І ведаеце, працэнтаў 70 людзей не ходзяць на гэтую зямлю. Апрацоўваюць іншыя. Як толькі закон дазволіць нам купіць зямлю калгаса, тыя 2 га 20 сотак, што мне і іншым належыць, — купім і тую. І вось тады можна будзе гаварыць пра асацыяцыю фермераў. Ці як там яшчэ можна назваць тое, што будзе.

**— Магчыма, галоўная праблема не ў тым, што старшыні калгасаў рэтраграды, кансерватары якія...**

— Дзякуй!

**— ...а ў тым праблема, што калгас чыста тэхналагічна нельга падзяліць на асобныя фермерскія гаспадаркі.**

— Вось гэта довад! Зрасліся! А якія вялізныя палі! А інфраструктура — як яе парэзаць на кавалачкі?

**— У той жа час на тэрыторыі любой гаспадаркі можна знайсці ўскраінныя палі, участкі ў вёсачках, дзе з поспехам можна размясціць дзесятак-другі фермераў.**

— Абавязкова. Але гэта не выйсце, не ратунак.

**— А дзе, па-вашаму?**

— Я зрабіў бы так. Адвёў бы недзе кавалак зямлі 500 гектараў. Папрасіў бы крэдыт. І пасадзіў бы там 5 фермераў. Дарожку туды, як я ўжо казаў. Электрычнасць. Зрабіў бы там майстэрню, гараж. Ім, фермерам, усё роўна давялося б аб'ядноўвацца. Тэхналогія прымусіць. Прымушае ж яна амерыканскіх фермераў ствараць асацыяцыі, кааператывы, таварыствы і іншае. Штосьці падобнае зрабілі і на тэрыторыі былой ГДР. Вельмі хачу з'ездзіць і паглядзець.

**— У Кіраўскім раёне яшчэ ёсць прыклад, падобны на ваш? Рэарганізуюцца калгасы?**

— Не. Мы адны. Ніхто не хоча. Турботна. Ведаеце, колькі гадоў мы аддалі, каб правесці рэарганізацыю? Тры гады! Гэта не так проста.

**— Значыць, гэта больш пабудавана на ініцыятыве канкрэтнай асобы, чым на нейкім аб'ектыўным эканамічным патрабаванні?**

— Любую эканоміку трэба абавязкова пацвярджаць дзеяннямі канкрэтнага чалавека. Нельга адарваць адно ад другога. Амерыку зрабілі людзі, а не эканоміка. Перш чым укараняць нейкую эканамічную тэорыю, трэба навучыць людзей. Тых жа старшынь калгасаў. Яны — жывыя людзі, а не чума, як іх прадстаўляе Чарнічэнка. І не чырвоныя памешчыкі, як выказаўся наш Шушкевіч. Некаторыя баяцца. Некаторыя вычэкваюць. А абсалютная большасць не ведае, што рабіць. Не ўмеюць перавесці гаспадарку ў новую якасць. Дапамажыце ім. Дайце добры праект. Толькі не кіруйце імі, як кіраваў Машэраў. На Беларусі пасеяць да дзесятага чысла ў паўднёвых раёнах, да пятнаццатага — у паўночных. Тамерлан! Чатыры гадзіны балбоча прамову і чатыры гадзіны падводзіць вынікі. Так, затрымаў нас Іосіф моцна ў калгасе. На зямлі засталіся толькі Куба, Паўночная Карэя і калгас, дзе няма рынку. А ўвесь свет пабудаваны на рыначных адносінах. Але не развальвайце калгас колам — так, як стваралі некалі. Як зрабілі з людзьмі ў Літве. Спачатку гналі ў калгас, потым выгналі. Паздзекаваліся з людзей двойчы. Подласць учынілі.

**— Васіль Канстанцінавіч, вы верыце таму, што піша пра Літву прабальшавіцкі друк Беларусі?**

— Я веру людзям. Да нас з Літвы бежанцы прыехалі. Так што пабывайце там, паглядзіце.

**— Пабываю. І раскажу ў нашай газеце. Аднак сядзець і чакаць, пакуль калгасы разваляцца самі, таксама нельга. Дзяржава не дасць ім разваліцца. Наша дзяржава ашалела падкормлівае мёртванароджаных дзяцей сваіх — калгасы. Якія б страты калгас ні панёс — дзяржава іх спіша, зарплату калгас атрымае. Да гэтага часу не распрацавана аграрная палітыка Беларусі. Ніхто не ведае, куды ісці, што рабіць на зямлі. Прынялі закон, але і той палавінчаты. Зямлю фермерам ва ўласнасць не далі. Ніяк не дацягнем да праверанай іншымі народамі і краінамі ісціны: дзяржава, у якой адсутнічае дакладная аграрная палітыка, заўсёды будзе галоднай.**

— Згодзен! Але не бярыце на душу грэх — не заганяйце людзей у фермеры. Каб вас не клялі потым. Трэба лічыцца з псіхалогіяй селяніна, якога калгас адвучыў ад самастойнасці. Фермер павінен нарадзіцца натуральным шляхам.


ЛіМ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:

САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА





АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснікі галоўнага рэдактара — 33-25-25; 33-19-85; аддзелы: публіцыстыкі — 33-25-25, пісьмаў і грамадскай думкі — 33-19-85, літаратурнага жыцця — 33-24-62, крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, паэзіі і прозы — 33-22-04, музыкі — 33-21-53, тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, навін — 33-24-62, мастацкага афармлення — 33-22-04; фотакарэспандэнт — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.





Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку"

Індэкс 63856. Наклад 12.000. Нумар падпісаны 25.11.1993 г.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12